СВАБОДА

Кошт 1 рубель

№ 9—10 кастрычнік 1992

# Карупцыя на Беларусі

*(чытайце стар. 8—9)*

## ЯКІ РЭФЭРЭНДУМ АДБУДЗЕЦЦА 27 СЬНЕЖНЯ?

**Менавіта гэтая дата была пазначана ў праекце пастановы, якую абмяркоўваў напярэдадні сэсіі Прэзыдыюм ВС. Праект быў падрыхтаваны членамі Прэзыдыюма Д.Булахавым і Ул.Леўчыкам і складаўся з двух пунктаў.**
**Пункт першы: адмовіць ініцыятыўнай групе ў правядзеньні рэфэрэндума па прычыне парушэньня ёю закона.**
**Пункт другі: правесьці 27 сьнежня кансультатыўны рэфэрэндум па пытаньню: «Ці лічыце Вы неабходнымі датэрміновыя выбары новага Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь?»**

Прэзыдыюм, аднак, не рызыкнуў выносіць праект у такім выглядзе на сэсію, а даручыў Булахаву і Леўчыку «яшчэ папрацаваць» над ім. Але сцэнар вядомы: паспрабаваць забараніць рэфэрэндум, які прыйшоў зьнізу, а замест яго правесьці свой рэфэрэндум (кансультатыўны), які нікога ні да чога не абавязвае.

І ўсё ж малаверагодна, што менавіта так будуць разгортвацца падзеі. У Вярхоўнага Савета няма законнай падставы адмовіць 440 тысячам грамадзянаў у правядзеньні рэфэрэндума. Спасылкі на тое, што ініцыятыўная група нібыта парушыла закон, будуць выглядаць надта несур'ёзна. Бо, паводле закона, гэта ацэньвае не Вярхоўны Савет, а Цэнтральная выбарчая камісія. А яна, як вядома, яшчэ паўгода таму перадала ў ВС сваё «Заключэньне», дзе прызнала, што ініцыятары рэфэрэндума выканалі ўсе патрабаваньні закона.

У такім разе, якімі ж могуць быць дзеяньні Вярхоўнага Савета? Мы задавалі гэтае пытаньне многім дэпутатам у першы дзень сэсіі ВС. Вымалёўваецца такая карціна: Вярхоўны Савет будзе імкнуцца максымальна адкладваць прыняцьце канчатковай пастановы па рэфэрэндуме; але ў выніку вымушаны будзе ўсё ж вынесьці на ўсенароднае галасаваньне менавіта пытаньне 440 тыс. грамадзян; толькі назаве гэты рэфэрэндум «кансультатыўным», насуперак таму, што ў заяўцы ініцыятыўнай групы ён пазначаны як абавязковы. (Гэта будзе, натуральна, і насуперак закону, паводле якога характар рэфэрэндума вызначаюць яго ініцыятары.)

Адзінае, што ў праекце Булахава—Леўчыка застанецца хутчэй за ўсё нязьменным, дык гэта — дата. Намэнклятура робіць разьлік на тое, што ў нядзелю, 27 сьнежня людзі, занятыя каляднымі клопатамі, ня прыйдуць галасаваць. Акрамя таго — разьедуцца студэнты. І дасьць Бог, рэфэрэндум не адбудзецца...

Апазыцыя Народнага Фронта, па словах дэпутата Лявона Баршчэўскага, не зьбіраецца ісьці ні на якія кампрамісы і будзе настойваць на безумоўным выкананьні Закона аб рэфэрэндуме, які патрабуе ад ВС усяго толькі прызначыць дату галасаваньня. «Вярхоўны Савет мае права паставіць на рэфэрэндум любое сваё пытаньне, але ён не мае права адмовіць у гэтым пэўнай колькасьці выбаршчыкаў, — гаворыць Л.Баршчэўскі. — Калі ж ВС пойдзе шляхам парушэньня закону, ён страчвае легітымнасьць і ператтвараецца папросту ў групу людзей, якія ўтрымліваюць уладу незаконным чынам».

Кепска, калі менавіта так яно і здарыцца. У гэтым выпадку, цалкам верагодна, што апазыцыйныя сілы вымушаныя будуць утвараць паралельныя структуры.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

## КПБ ХОЧА ВЯРНУЦЦА

**Крок да гэтага быў зроблены 20 кастрычніка на сэсіі Вярхоўнага Савета. Пайменным галасаваньнем у парадак дня сэсіі ўключана пытаньне «Аб адмене Пастановы ВС ад 25 жніўня 1991 г.», якою была «прыпынена» дзейнасьць кампартыі і нацыяналізавана яе маёмасьць.**

З падачы групы ветэранаў за прапанову нечакана(?) прагаласавалі 187 дэпутатаў (сьпіс друкуецца на 15 стар.). Гэта пераважна былыя партыйныя функцыянэры, чыноўнікі выканаўчых органаў улады, а таксама дырэктарат — фактычна ўвесь склад дэпутацкага аб'яднаньня «Беларусь» (былая партгрупа КПБ).

Каардынатар «Беларусі» дэпутат Г.Казлоў заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ, што ён і ягоныя паплечнікі не імкнуцца да вяртаньня партыйнай маёмасьці, а хочуць «усяго толькі адмяніць пасьпешнае рашэньне пра спыненьне дзейнасьці КПБ».

Такім чынам, сытуацыя набывае даволі сур'ёзны характар. Намэнклятурны Вярхоўны Савет у чарговы раз яскрава засьведчыў сваё імкненьне вярнуць грамадзтва ў «дапутчавы пэрыяд». І хаця яны самі выдатна разумеюць безнадзейнасьць гэтай справы, аднак, напалоханыя рэфэрэндумам і новымі выбарамі, спрабуюць хоць неяк замацавацца.

І ўсё ж, малаверагодна, што рэанімацыя КПБ адбудзецца. Усё будзе вырашацца, відаць, на мяжы двух-трох галасоў.

**П.П.**

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Рэдактар **Ігар ГЕРМЯНЧУК**
Выдавец **Павал ЖУК**

АДРАС ДЛЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ:
**220029, Менск,
вул.М.Багдановіча, 7а**

**Факт ёсьць факт**

**МЭТАЛАЛОМ** Паводле Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Эўропе, якія былі ратыфікаваны парлямантам Беларусі 21 кастрычніка, нам належыць скараціць (да лістапада 1995 г.): танкі — 1657 адзінак, БМП, БТР — 1224, баявыя самалёты — 130.

**ДАБРАЧЫННАСЬЦЬ** Будаўнічая брыгада Саўміна завяршае аднаўленьне дачы Мікалая Дземіяньцея, якая згарэла сёлета ўвесну. Апрача дапамогі зь бюджэту, сродкі пагарэльцу пералічылі таксама некаторыя дзяржаўныя прадпрыемствы, у прыватнасьці — Аршанскі ільнокамбінат.

**ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ** "Польскі клюб" у Шацілках (Сьветлагорск) ператварыўся ў мясцовую арганізацыю Саюза палякаў Беларусі. Старшынёю абраны Сяргей Гірыловіч — расеец па нацыянальнасьці.

**АПЭРАЦЫЯ** У ноч на 1-ае кастрычніка ў Горадні са званіцы Уладзімерскай царквы быў скрадзены 160-ці кілаграмовы медны звон. Злачынцаў знайшлі. Вядзецца сьледзтва.

**БАРТЭР** Пасол Беларусі ў Польшчы Ул.Сянько зьвярнуўся да прэзыдэнта Беластока з просьбаю знайсьці памяшканьне плошчаю 200 кв.м пад будучае беларускае консульства, якое ў хуткім часе мяркуецца тут адкрыць. Аднначасова плянуецца адкрыць польскае консульства ў Горадні.

**ШУШЫКІ** Гэтак у Хойніках называюць разьліковыя білеты Нацыянальнага Банку Беларусі, хоць некалі сп.Шушкевіч сьцьвярджаў, што ня мае да «гэтага зьвярынца» ніякага дачыненьня.

**РЭАБІЛІТАЦЫЯ** Экспэртная камісія, створаная пры Саўміне Беларусі з мэтаю выяўленьня «прыкметаў парнаграфіі, гвалту і жорсткасьці», 13 кастрычніка дала заключэньне адносна 11 газэтаў і часопісаў, якія былі канфіскаваныя міліцыяй у менскіх кіёсках «Саюздруку». Пад арышт трапілі балтыйскія газэты «Двое», «Я + Я», менскі «Частный детектив», маскоўскія «Инфо-СПИД», «Клюква» ды інш. Камісія апраўдала ўсе выданьні, і цяпер Менскаму гарвыканкаму альбо міліцыі давядзецца, пэўна, кампэнсаваць ім страты.



**СПЭКТАКЛЬ ПАД ЧЫРВОНЫМІ СЬЦЯГАМІ** быў наладжаны камуністамі ўвечары 20 кастрычніка на Плошчы Незалежнасьці ў Менску. *Здымак С.Г.*

# БНФ прапануе дэмакратычным сілам утварыць передвыбарчы блёк

## Пра гэта абвешчана ў Заяве Палітычнай камісіі Сойму БНФ і Управы Народнага Фронту

«У студзені сёлета, — гаворыцца ў Заяве, — Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» разам з Аб'яднанаю дэмакратычнаю партыяй Беларусі, Нацыянальна-дэмакратычнаю партыяй Беларусі, Беларускаю Хрысьціянска-дэмакратычнаю злучнасьцю, Беларускаю сялянскаю партыяй, Свабодным прафсаюзам Беларусі, Менскім гарадзкім страйкавым камітэтам і Беларускаю сацыяль-дэмакратычнаю Грамадой утварылі блёк «Рэфэрэндум». Гэтым чынам, Беларусь першаю з былых рэспублік Савецкага Саюзу стала на канстытуцыйны шлях карэнных рэформаў, скіраваных на поўную замену мафіёзных намэнклятурных структураў улады. Толькі такія рэформы адкрываюць шлях да эканамічных пераўтварэньняў і спыненьня гаспадарчага крызысу.

Аб'яднанымі намаганьнямі Народнага Фронту, дэмакратычных партыяў і арганізацыяў Беларусі была пасьпяхова праведзена кампанія збору подпісаў у падтрымку рэфэрэндуму. За два месяцы пры поўным захаваньні патрабаваньняў закону і нягледзячы на магутны супраціў уладаў было сабрана больш як 440 тысяч подпісаў грамадзянаў Беларусі. Але на шляху ажыцьцяўленьня законных правоў народу Беларусі стаў намэнклятурны Вярхоўны Савет. Спалохаўшыся пэрспэктывы народнага галасаваньня, ён у парушэньне закону зацягвае прызначэньне даты рэфэрэндуму. Сам факт ухіленьня гэтага Вярхоўнага Савету ад сваіх непасрэдных абавязкаў ёсьць сьведчаньне ягонай непатрэбнасьці. Гэта і сьведчаньне працягу путчысцкай палітыкі гвалтоўнага ўтрыманьня ўлады.

**Паўстае неабходнасьць далейшага згуртаваньня дэмакратычных сілаў Беларусі на плятформе абароны дэмакратыі, правоў чалавека, незалежнасьці й нацыянальнага адраджэньня. Блёк «Рэфэрэндум» можа й павінен перарасьці ў перадвыбарчы саюз усіх дэмакратычных сілаў, дзе партыі й арганізацыі, захоўваючы спэцыфічныя асаблівасьці ды інтарэсы, злучылі б намаганьні дзеля выратаваньня Бацькаўшчыны, абароны неад'емных правоў, гонару й годнасьці нашых грамадзянаў.**

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне», маючы шырокую дэмакратычную плятформу, падтрымлівае ўсе дэмакратычныя партыі, згуртаваньні й кірункі палітычнае дзейнасьці ад лібэральна-дэмакратычных, хрысьціянска-дэмакратычных да сацыяль-дэмакратычных, якія спрыяюць сувэрэнітэту, пабудове дзяржавы й нацыянальна-культурнаму адраджэньню Бацькаўшчыны. Гэта стварае аб'ектыўную магчымасьць перадвыбарчага аб'яднаньня дэмакратычных сілаў Беларусі».

# Кебіч абвясьціў газават

**Пастанова Савету Міністраў "Аб сур'ёзных недахопах у рабоце дзяржаўных і гаспадарчых органаў, службовых асоб па ахове эканамічных інтарэсаў рэспублікі" стала лягічным працягам чарговай кампаніі Савету Міністраў па "барацьбе з карупцыяй". Уздыбленыя яшчэ на пачатку верасьня валасы прэм'ер-міністр цяпер можа прыгладзіць: першая перамога ў вайне атрымана. Праўда, невядома над кім.**

Чаго ж вартыя захапленьні гэтым законам? "Міністэрству ўнутраных справаў узмацніць барацьбу... кіраўнікам міністэрстваў і ведамстваў выключыць факты... дзяржкамітэту падрыхтаваць прапановы..." Некаторыя фармулёўкі выклікаюць зьдзіўленьне: навошта даваць указаньні "ўсім зацікаўленым ведамствам" прытрымлівацца законнасьці? Хіба раней гэтага ня трэба было рабіць?

Большую цікавасьць выклікае "пэрсанальная частка" пастановы. Аднак у ёй згаданыя толькі ўсім вядомыя "шлюзы", па якіх атрымліваліся дазволы на вываз з рэспублікі канкурэнтназдольнай за яе межамі прадукцыі. Нават калі з усімі названымі чыноўнікамі "пытаньне вырашаць", гэта ня будзе для іх вельмі цяжкім ударам, улічваючы ўжо накопленыя ашчаджэньні. Тым больш, бяз хлебных пасадаў яны наўрад застануцца. Напрыклад, ёсьць зьвесткі, што былы першы намесьнік Старшыні Дзяржкамітэту па зьнешнеэканамічных сувязях Макаед у найбліжэйшы час будзе прызначаны беларускім гандлёвым прадстаўніком у Італіі.

Асобнай увагі вартая гісторыя з кіраўніком Дзяржкамітэту па забесьпячэньні нафтапрадуктамі Сурмачам. Як паведамляюць інфарматары з урадавых колаў, апублікаваная пастанова ў частцы, што датычыцца Сурмача, не адпавядае прынятаму. На Савеце Міністраў было вырашана зьняць яго з пасады без усялякіх адгаворак. Але ўлічваючы, што пакрыўджаны Сурмач можа раптам зрабіцца шчырым і тады гэта дорага абыдзецца самому Кебічу, пастанова была падкарэктавана. Дарэчы, некаторыя з вызваленых ад пасад ужо сталі адгырквацца: у праваахоўныя органы пачаў паступаць кампрамат на стаўленікаў Кебіча. Працяг, здаецца, будзе...

**Аляксандар СТАРЫКЕВІЧ**

# Лаві польскіх шпіёнаў!

**У інтэрвію газэце «Вечерний Брест» начальнік контрразьведкі Асобага кантрольнага прапускнога пункту ў Берасьці Уладзімер Леваноў заявіў, што ў Беларусі зьявіліся новыя непрыяцелі, і ў першую чаргу ён выдзяліў Польшчу.**

«У гэтай краіне, — сказаў ён, — сёньня згорнута разьведка супраць ЗША і нарошчваюцца намаганьні на ўсходнеэўрапейскім кірунку, пры садзеяньні ЦРУ ЗША. У Польшчы створаны новы разьведвальна-контрразьведвальны цэнтр па прыкладзе заходніх спэцслужбаў — Urząd Ochrony Państwa (UOP)... Па сутнасьці, цяперашнія спэцворганы Рэспублікі Польшча — гэта філія заходніх спэцслужбаў. У складзе UOP сфармавана асобная адзінка па вядзеньні разьведкі супраць Беларусі... Сярод усіх слаёў насельніцтва Польшчы культывуюцца парасткі тэрытарыяльных прэтэнзіяў да Беларусі на глебе польскага нацыяналізму і рэлігійнага фанатызму...»

«Польскія спэцслужбы, — заявіў Ул.Леваноў, — трымаюць пад сваім кантролем канал эканамічнага турызму жыхароў Беларусі ў РП — яны актыўна працуюць на базах, рэчавых рынках, якія наведваюць нашыя грамадзяне, дзе ўсталёўваюць неабходныя кантакты і шукаюць патрэбных людзей... Адзін з мэтадаў вядзеньня разьведкі супраць Беларусі — засылка да нас агентуры па канале міжнародных зносінаў. Асабліва шырока выкарыстоўваюцца магчымасьці касьцёла».

**І.Б.**

# Крупская з мужам застаюцца ў Берасьці

**Цэнтральныя вуліцы ў Берасьці, якія ўсё яшчэ носяць спрэс камуністычныя назовы, у хуткім часе атрымаюць прыстойныя найменьні.**

Гэтым займаецца часовая камісія гарсавета, якая вынесла «на разгляд грамадзкасьці» свае прапановы. Калі яны будуць ухвалены, на мапе горада зьявяцца вуліцы: ***Грунвальдзкая, Казацкая, Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча, Мікалая Радзівіла Чорнага*** — берасьцейскага старасты і дзеяча ВКЛ, ***Казімера Лышчынскага*** — беларускага філёзафа XVII ст., ***Яна Ваньковіча*** — нашага знакамітага мастака, які падчас паўстаньня 1863 г. узначальваў адзін з атрадаў на Палесьсі, ***Усевалада Ігнатоўскага*** — вядомага беларускага гісторыка, які нарадзіўся на Берасьцейшчыне, ***Міколы Засіма*** — мясцовага паэта пасьляваенных гадоў...

Цікава, што ў так званым «царскім сяле», дзе жыве намэнклятура, плянуецца захаваць цяперашнія назовы: вуліца і плошча Леніна, вуліцы Энгельса, Крупскай, Камуністычная і г.д.

Часовая камісія зьбіраецца прапанаваць сэсіі гарсавету стварыць Тапанімічную камісію, якая разгледзела б таксама пытаньне пра назву горада.

**Ігар БАРАНОЎСКІ** (WIS)

# ЕЛЬЦЫН ЗАБРАЎ ПАДАРУНАК

**Аршанцы вырашылі «скарыстаць момант» і пад час сустрэчы са Станіславам Шушкевічам у Воршы папрасілі яго перадаць у мясцовы музэй аршанскую Ахоўную грамату — тую самую, што падараваў прэзыдэнт Ельцын, калі ўпершыню прыязджаў у Менск.**

Гэта немагчыма, адказаў Шушкевіч, бо Ельцын забраў свой падарунак назад, даведаўшыся ў Менску, што гэты дакумэнт сымбалізуе імпэрскія памкненьні Расеі. Па словах Шушкевіча, расейскі прэзыдэнт «пакараў сваіх дарадцаў», якія падсунулі яму такі падарунак беларусам.

Расчараваныя аршанцы папрасілі Шушкевіча параіць Ельцыну наступным разам захапіць з сабою ў Менск аршанскую кальчугу, якая цяпер захоўваецца ў Расеі.

На гэтай жа сустрэчы высьветлілася таксама, што Старшыня ВС лічыць Суворава «прыгнятальнікам, заваёўнікам і зьнявольнікам» беларускага народу. Тым ня менш С.Шушкевіч ня бачыць абсурднасьці таго, што мы ўшаноўваем імя генэралісымуса, бо «выпрацаваныя Суворавым прынцыпы пабудовы ўзброеных сілаў, прынцыпы тактыкі і стратэгіі, пераемнікамі якіх мы зьяўляемся, павучальныя для ўсіх часоў і народаў». Бліскучая аргумэнтацыя!

Распытваючы Шушкевіча далей, аршанцы даведаліся, што сьпікер парляманту «не ва ўсім пагаджаецца з падыходам праваслаўнай царквы». Менавіта таму, па яго словах, ён не пажадаў удзельнічаць у архірэйскай сустрэчы ў Полацку (пад час сьвяткаваньня 1000-годдзя хрысьціянства на Беларусі), а ўсяго толькі далучыўся да крыжовага ходу з Сафійскага сабору. У прыватнасьці, Шушкевіч не ўхваляе намаганьні мітрапаліта Філарэта і ягонай каманды прыбраць да рук Сафію. Гэтая сьвятыня, на думку С.Ш., павінна заставацца ва ўласнасьці дзяржавы, каб вернікі розных канфэсіяў маглі праводзіць там свае набажэнствы.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Весткі з падпольля: КВОРУМ БЫЎ

**Ва ўмовах поўнай канспірацыі праходзіла ў Менску (25 — 27 верасьня) «паседжаньне палітвыканкаму камуністычных і рабочых партыяў Савецкага Саюзу».**

І ўсё ж некаторым журналістам пашчасьціла (хаця й нелегальна) стаць сьведкамі гэтай падпольнай сходкі, дзе камуністы з Расеі, Летувы, Латвіі, Украіны, Малдовы і Прыдняcтроўя абменьваліся ўражаньнямі пра жыцьцё і працу ў «новых умовах», абмяркоўвалі пытаньні свайго вяртаньня да ўлады і аднаўленьня СССР.

Пад канец першага дня работы адзін зь лідараў ПКБ Віктар Чыкін сказаў літаральна наступнае: ***«Мы зараз ідзем на прэс-канфэрэнцыю, дзе будуць журналісты розных кірункаў. Зробім разумны выгляд і ня будзем казаць, што нас было ўсяго трынаццаць».***

Менавіта гэтым на працягу ўсёй прэс-канфэрэнцыі камуністы й займаліся: спрабуючы выглядаць разумна і прыстойна, яны пераконвалі журналістаў і саміх сябе, што на сустрэчу сабраліся «сур'ёзныя людзі, якія займаюцца сур'ёзнымі справамі». Гутарка з журналістамі скончылася на камічнай ноце: прыйшла гаспадыня памяшканьня (прэс-канфэрэнцыя праходзіла ў будынку, дзе разьмешчана рэдакцыя «Вечернего Минска») і заявіла, што «караул устал» і ёй трэба ісьці дахаты.

**Аляксандар СТАРЫКЕВІЧ**




*Малюнак В.Чумачова («Независимая газета»)*

# Сядзеў бы ціха, можа й абышлося б

**За апошні час на трох буйных прадпрыемствах Горадні працоўныя калектывы дамагліся зьмяшчэньня сваіх дырэктараў.**

Заменены генэральны дырэктар аб'яднаньня "Азот" Іваноў, дырэктар аб'яднаньня "Волна" Балуеў і дырэктар завода аўтаагрэгатаў Каберда. Яшчэ пры існаваньні абкаму КПБ аўтаагрэгатаўцы баставалі, патрабуючы адстаўкі дырэктара, але тады ў іх, вядома ж, нічога не атрымалася.

Цікавы працяг атрымала справа дырэктара Балуева. "Волна" — тыповае прадпрыемства ВПК, якое толькі дзеля маскіроўкі выпускала магнітолы для "Жыгулёў" і "Масквічоў". У цяперашні канвэрсійны час справы тут вельмі пагоршыліся, пачаліся масавыя звальненьні. Работнікі запратэставалі, і дырэктару давялося пакінуць наседжанае за доўгія гады крэсла.

Пакрыўджаны Балуеў узяў ды падаў заяву ў суд на свой былы прафкам. Суд заняўся справай і высьветліў, што дырэктар невядома дзе падзеў 10 млн. рублёў з заводзкае касы, а таксама пабудаваў сабе катэдж, скарыстаўшы службовае становішча. Цяпер сп.Балуеў ужо сам ня рады, што заварыў гэтую кашу з судом.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# 1972 год, Горадня. Успаміны дэманстрантаў

**Тагачасная брэжнеўская прапаганда назвала гэтую акцыю «бунтам некалькіх соцень дэградаваных малойчыкаў». А што на самой справе адбылося ў Горадні ў ліпені 1972 г.?**

У вапошнім нумары гарадзенскай газэты «Пагоня» апублікаваны ўспаміны некаторых удзельнікаў тае дэманстрацыі. Іх было 220 чалавек — моладзь зь Вільні, Рыгі, Львова, Менска, Масквы ды іншых гарадоў. Сабраўшыся на чыгуначным вакзале ў Горадні, «мы сталі ў калёну шэрагамі па шэсьць чалавек, узьнялі плякаты («Свабода слова», «Свабода друку», «Свабода асобы») і рушылі па вуліцы Ажэшкі. Наперадзе калёны на ланцугу вялі чырвонага пеўня. Чырвоны певень — сымболь Волі. Ланцуг — таксама сымболь, толькі іншага зьместу», — апавядае Рыгор Карпіцкі, які цяпер працуе выкладчыкам у музычнай школе ў Вільні.

«Прайшоўшы вуліцай Ажэшкі, дзе нас ніхто не крануў, мы рушылі па вуліцы Савецкай, — працягвае Карпіцкі. — Пляц Савецкі быў перагароджаны аўтафургонамі, каля якіх з дубінкамі стаялі салдаты. Наша калёна не спынялася, мы набліжаліся да жаўнерскіх шэрагаў. Адтуль выразна пачулася каманда «вперед», і праз некалькі крокаў усё зьмяшалася».

Практычна ўсіх дэманстрантаў схапілі. Дапыталі, і праз 3-4 дні выпусьцілі.

«Калі пра нас кажуць, што паўсталі дэгенэраты ці савецкія хіпі, гэта мана, — гаворыць другі ўдзельнік дэманстрацыі Генадзь Шокін, які жыве ў Горадні. — Нашу калёну растапталі, але гэта быў толькі пачатак. Пасьля Горадні мы пераехалі ў Вільню, там выступілі на прывакзальным пляцы. А зь Вільні шлях ляжаў у Коўна, дзе адбылася трагедыя. Лідар ковенскіх маладзжёных суполак (Ромас Каланта — **заўв. рэд.**) пасьля прамовы абліў сябе бэнзынам і падпаліўся. Акт самагубства паказаў уладам, што і ў наш час за ідэі людзі самаахвярна гінулі».

**Г.А.**

# РЭКЕЦІРЫ НІКОМУ НЕ ПАТРЭБНЫЯ. НАВАТ МІЛІЦЫІ

**Шасьцёра рэкеціраў, дэпартаваных у сярэдзіне жніўня з Польшчы за спробу вымагальніцтва, хутчэй за ўсё перажылі адно лёгкі спалох. Беларускія праваахоўныя органы ня ў стане прадставіць абвінавачваньне высланым злачынцам.**

З крыніц, блізкіх да польскай паліцыі, вядома, што рэкеціры на «Масквічы» гналіся за «Жыгулямі», у якіх знаходзіўся беларускі мытнік і былы супрацоўнік КДБ. Перасьледаваных выратавала добрае веданьне геаграфіі. Калі заехалі ў горад Менджыжэц, яны адарваліся ад вымагальнікаў і паведамілі пра іх у паліцыю, якая пасьпела перакрыць усе выезды з населенага пункта. У затрыманых рэкеціраў адабралі прафэсійныя інструмэнты: пісталет, гумовыя дубінкі і медны стрыжань. Пасьля непрацяглага выхаваньня сродкамі фізычнага ўзьдзеяньня, палякі дэпартавалі злачынцаў і паведамілі пра здарэньне беларускім праваахоўным органам.

Аднак КДБ Беларусі адмовіўся весьці следзтва як толькі стала вядома, што гісторыя носіць чыста крымінальны характар. МУС пакуль працягвае праверку, але таксама без асаблівага энтузіязму. Праблема ў тым, што палякі не ўзбудзілі крымінальнае справы, а беларуская міліцыя ня можа гэтага зрабіць з-за экстэрытарыяльнасьці. Калі за вымагальнікамі няма ніякіх грахоў у межах рэспублікі, крымінальны перасьлед ім не пагражае.

У жніўні пасьля звароту шэрагу беларускіх турыстычных арганізацыяў ва ўрад, МУС і МЗС было даручана прыняць меры супраць рэкеціраў. Але міліцыя ня мае валюты на паездкі ў Польшчу. А супрацоўнікамі ня мае сэнсу, бо няўзброеныя ахоўнікі парадку будуць бясьсільныя перад рулямі рэкеціраў аўтаматаў. Уговары на такую публіку звычайна ня дзейнічаюць. У сваю чаргу, польская паліцыя халадна ставіцца да разборак паміж замежнікамі і ў іхнія справы ня ўблытваецца.

У найбліжэйшы час сытуацыя з рэкетам у Польшчы істотна ня зьменіцца. Ні беларускія, ні польскія праваахоўныя органы ня ў стане абвясьціць татальную вайну вымагальнікам. Адзінкавыя акцыі, накшталт апісанай дэпартацыі, на агульную сытуацыю не ўплываюць. Ва ўмовах абвостранай канкурэнцыі рэкецірам трэба сьцерагчыся ў першую чаргу сваіх калег: у ліпені ў Менск быў дастаўлены труп аднаго з вымагальнікаў, які загінуў у выніку падзелу сфэраў уплыву паміж рознымі групоўкамі.

**Аляксандар СТАРЫКЕВІЧ**

## По суседзтву з КДБ

**Раённая арганізацыя БНФ у Шацілках нарэшце атрымала памяшканьне пад штаб-кватэру.**

Гарвыканкам выдзеліў ёй пакой у вадным з будынкаў на цэнтральнай вуліцы горада. У гэтым жа пакоі будзе месьціцца і Рада ТБМ. Па суседзтве, дарэчы, знаходзіцца асабняк мясцовага аддзяленьня КДБ.

**Тэльман МАСЬЛЮКОЎ**

## Не падыходзь — заб'е!

**Ураган, што пранёсься па Палесьсі на пачатку верасьня, нанёс ня толькі матар'яльныя страты. Былі, як высьветлілася, і чалавечыя ахвяры.**

У Берасьці пад паваленым дрэвам загінула жанчына, якая стаяла на аўтобусным прыпынку, зьбіраючыся ехаць у царкву. Другая кабета трапіла пад абарваныя электраправады і была забітая токам. Яшчэ адна жанчына ў цяжкім стане са зламаным хрыбетнікам знаходзіцца ў шпіталі — яна таксама не пасьпела адскочыць ад падаючага дрэва...

Але і ў звычайныя дні хадзіць па Берасьці бывае даволі небясьпечна, асабліва паблізу новых дамоў — адвальваецца не толькі плітка, а й больш істотныя рэчы. Быў выпадак, што адной жанчыне на галаву звалілася цагліна. А нядаўна сярод белага дня з апошняга паверха 9-ці павярховага дома адваліўся бэтонны парапэт. На шчасьце, нікога паблізу не было. Гэты дом, дарэчы, збудавалі чатыры гады таму. Вось і думай, што больш небясьпечнае: стыхія ці савецкія будаўнікі?

**Ігар БАРАНОЎСКІ** (WIS)

# Дыпляматычныя прадстаўніцтвы ў Рэспубліцы Беларусь

Пасольства Рэспублікі Балгарыя
220034 Менск, зав.Бранявы,5 тэл. 27-55-02, 36-56-61, 36-76-15
**Часовы Паверэны ў Справах сп.Стоіл Міланаў Фердаў**

Пасольства Фэдэратыўнай Рэспублікі Нямеччына
220034 Менск, вул.Захарава,26 тэл.33-07-52, 33-27-14,
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп.Райнхарт Краўс**
**Дуаен дыпляматычнага корпусу**

Пасольства Рэспублікі Індыя
220034 Менск, пр.Машэрава, 31 (гатэль «Плянэта») тэл. 26-83-66
**Часовы Паверэны ў Справах сп.Аджой Саарун**

Пасольства Італьянскай Рэспублікі
220034 Менск, вул.Старажоўская,15 (гатэль «Беларусь»)
тэл. 69-05-06,
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол**
**сп.Джан Лука Бэртынэтто**

Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі
220091 Менск, Прадстаўніцкі гарадок «Дразды» д.15
тэл.37-67-31, 37-66-31
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп.Ван Сінда**

Пасольства Рэспублікі Польшча
220034 Менск, вул.Румянцава,6
тэл.33-13-13, 33-11-14, 33-25-16, 33-51-09, 33-36-01,
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол спн.Эльжбэта Смулэк**

Пасольства Злучаных Штатаў Амэрыкі
220034 Менск, вул.Старавіленская,46 тэл. 34-65-37, 34-76-42
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп.Дэвід Х.Суорц**

Пасольства Турэцкай Рэспублікі
220034 Менск, вул.Старажоўская,15 (гатэль «Беларусь»)
тэл. 39-15-88
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп.Тансу Окандан**

Пасольства Французскай Рэспублікі
220034 Менск, вул.Старажоўская,15 (гатэль «Беларусь»)
тэл. 69-06-02
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп.Клёд Жоліф**

Пасольства Украіны
220034 Менск, вул.Трактарная,3 (гатэль «40 год Перамогі»)
тэл. 36-70-94, 36-73-04
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп.Володымыр І.Жэліба**

Пасольства Румыніі
220091 Менск, Дразды, д.21, кв.2 тэл. 23-83-64
**Выконваючы Абавязкі Часовага Паверанага ў Справах**
**сп.Ніколае Стыня**

Пасольства Рэспублікі Кабо Вэрды
Москва, ул.Б.Спасская,9 тэл. 208-07-63
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Люіш Фонсэка**

Пасольства Фінляндзкай Рэспублікі
Hotel Draugystė, Čiurlionio,84 Vilnius 2009 тэл. 661-621, 661-736
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп.Тайсто Тольванэн**

Пасольства Аўстралійскага Саюзу
Москва, Кропотнинский пер.,13 тэл. 246-50-11
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп.Каван Хоўг**

Пасольства Аб'яднанага Каралеўства Вялікабрытанія і Паўночная Ірляндыя
Москва тэл. 231-85-11, 231-85-12
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сэр Браян Фол**

Пасольства Каралеўства Нідэрлянды
Warszawa ul. Chocimska,6 тэл. 492-351, 492-352,
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Ян Уільман ван Дусбург**

Пасольства Новай Зэляндыі
Москва, ул.Воровского,44 тэл. 290-34-85, 231-85-11
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп.Джэральд Р.Макгі**

Пасольства Каралеўства Швэцыя
Москва, ул.Мосфильмовская, 60
тэл. 147-90-09, 147-63-58
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Карл-Ота Эр'ян Бэрнэр**

***

Ізраільскі культурна-інфармацыйны цэнтр
Менск, вул.Кісялёва,20 тэл. 27-63-15

# Рэзыдэнцыі Паслоў у Беларусі, разьмешчаныя ў іншых краінах

Пасольства Аўстрыйскай Рэспублікі
Москва, Староконюшенный пер.,1
тэл. 201-73-17, 201-73-19, 201-73-07
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол д-р Фрыдрых Баўэр**

Пасольства Каралеўства Гішпанія
Москва, ул. Герцена,50/8 тэл. 200-12-30
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп.Эўхэнэо Брэголят**

# Гандлёвыя прадстаўнікі замежных краін у Рэспубліцы Беларусь

Кітайская Народная Рэспубліка
220091 Менск, Прадстаўніцкі гарадок «Дразды», д.15
тэл. 37-67-31, 37-66-31
**Гандлёвы прадстаўнік сп.Сінь Шумінь**

Карэйская Народна-Дэмакратычная Рэспубліка
220026 Менск, Партызанскі пр., д.83, кв.59 тэл. 45-12-58
тэлефакс 252494
**Намесьнік гандлёвага прадстаўніка сп.Кім Бон Чжін**

Рэспубліка Балгарыя
220034 Менск, зав.Бранявы, д.5
тэлекс 252184 BULGARI тэл. 33-56-61
**Гандлёвы прадстаўнік сп. Куцёў Т.Г.**

Рэспубліка Куба
220026 Менск Партызанскі пр., д.83, кв.55
тэл. 45-13-91 тэлефакс 45-13-91
**Гандлёвы прадстаўнік сп.Рауль Фідэль Вэга дэль Валье**

Рэспубліка Польшча
220034 Менск, вул.Румянцава,6 тэлекс 252291 KGPL тэл. 33-51-09
**Консул па гандлёвых справах сп.Е.Зажыцкі**

Фэдэратыўная Рэспубліка Нямеччына
220034 Менск, вул.Захарава,26
тэлекс 252273 AA MIN тэлефакс 36-85-52 тэл. 33-24-09
**Консул па гандлёвых справах сп.Хорст Дырэнфэльд**

Чэха-Славацкая Фэдэратыўная Рэспубліка
220034 Менск, зав.Бранявы,5а тэлефакс 36-74-35 тэл. 36-34-50
**Гандлёвы прадстаўнік сп.Владыслаў Ганулак**

# АБ'ЯДНАНАЯ ЭЎРОПА: КАНЕЦ МАРЫ?

**Скот САЛІВЭН** *«Newsweek»*

Гэтым летам адбыліся падзеі, вельмі неспрыяльныя для прыхільнікаў эўрапейскага адзінства.

Другога чэрвеня датчаны нечакана адкінулі на рэфэрэндуме ключавое Маастрыхцкае Пагадненьне аб эканамічнай, валютнай і палітычнай інтэграцыі. У ліпені прэса і тэлевізія разьнесьлі па ўсім сьвеце паведамленьні пра жахлівыя людзкія пакуты ў Босьніі, дзе ўжо шмат месяцаў доўжыцца вайна, якую ня ў стане спыніць Эўрапейская Супольнасьць. У жніўні па Нямеччыне пракацілася хваля расысцкіх нападаў на імігрантаў, што прымусіла іншых эўрапейцаў задумацца, ці не ўваскрэсьне зноў злавесны дух гэрманскага ультранацыяналізму.

Скептыцызм наконт пэрспэктываў утварэньня аб'яднанай Эўропы дасягнуў кульмінацыі пасьля Чорнай Серады, 16 верасьня, калі Эўрапейская Валютная Сыстэма (ЭВС) ляснулася пад час шалёнай спэкуляцыйнай атакі на брытанскі стэрлінг ды італьянскую ліру. Апошні ўдар быў нанесены 20 верасьня францускімі грамадзянамі, якія прагаласавалі за Пагадненьне, але з такой мізэрнай перавагай, што прыхільнікам Маастрыхта ўжо ніяк не выпадае спасылацца на



Францыя МІТЭРАН

яго рэальную народную падтрымку. На пазамінулым тыдні Эўропу трэсла нібы ў ліхаманцы, а яе лідары роспачна намагаліся захаваць як найбольш са свайго расшкуматанага праекту.

Гэта быў сапраўдны крызыс. Эўраскептыкі ў Злучаным Каралеўстве і на кантынэнце радасна прадказвалі блізкі скон таго, што засталося ад Эўрапейскай Валютнай Сыстэмы. Надзеі на хуткую ратыфікацыю Маастрыхцкага Пагадненьня аб палітычным і валютным задзіночаньні былі разьбітыя. Дзесяць дзён хаосу на валютных біржах выявілі бязьмежную прорву ў эканамічных дасягненьнях і дысцыпліне паміж 12 краінамі— сябрамі Эўрапейскае Супольнасьці. Аўтарытэтныя асобы пачалі заклікаць больш багатыя і эфэктыўныя дзяржавы ЭС спаліць масты, што злучаюць зь іх бяднейшымі і менш дысцыплінаванымі партнэрамі, і



Хэльмут КОЛЬ

ўтварыць свой міні-саюз. Велічны марш да "ўсё цясьнейшага задзіночаньня" дванаццаткі перапыніўся.

Нават самыя заўзятыя эўрафілы прызналі, што дапушчаны жахлівыя памылкі. "Супольнасьць пакуль што надта далёкая ад людзей, — прызнаўся Жак Дэлёр, прэзыдэнт Эўрапейскае Камісіі. — Нам трэба будзе добра папрацаваць над усталяваньнем зваротнай сувязі". Нямецкі канцлер Хэльмут Коль адвярнуўся ад свайго старога сябра Дэлёра і абвінаваціў Камісію ў тым, што яна патанула ў віры інструкцыяў. Ён таксама сказаў, што брусэльская бюракратыя ўжо дастаткова моцная, каб "сьціраць нацыянальныя адметнасьці".

Няўдача з ЭВС кінула цень на пэрспэктывы ўвядзеньня адзінай валюты ў гэтым стагодзьдзі і ўзмацніла пазыцыі антыфэдэралістаў на чале з Маргарэт Тэтчэр. А грамадзкае незадавальненьне з Маастрыхцкага Пагадненьня разбіла надзеі на ўмацаваньне і "паглыбленьне" структуры і інстытутаў ЭС перад прыёмам у Супольнасьць новых сяброў са Скандынавіі ды Цэнтральнай і Усходняй Эўропы. У цяперашніх палітычных умовах будучыня Эўропы паўстае ня ў вобразе шчыльнае фэдэрацыі, а, як сказаў Шарль дэ Голь, у вобразе "Эўропы нацыяў".

Нават каб аднавіць узровень эўрапейскага супрацоўніцтва трохтыднёвай даўніны, давядзецца прыкласьці нямала намаганьняў. З гэтае прычыны Джон Мэйджар, які цяпер старшынюе ў Радзе ЭС, прызначыў на 16 кастрычніка правядзеньне эўрапейскага саміта ў Бірмінгэме. На парадку дня гэтай сустрэчы будуць толькі два пытаньні: як зноў запусьціць Эўрапейскую Валютную Сыстэму і як зрабіць Маастрыхцкае Пагадненьне прымальным для Даніі і для эўрапейцаў наогул.

НОВЫЯ ПЛЯНЫ. На пазамінулым тыдні зьявіліся тры розныя падыходы да крызысу. Дэлёр і Коль, прызнаючы існаваньне ў сыстэме ЭС пэўных хібаў, заклікалі да неадкладнай ратыфікацыі Маастрыхта, незалежна ад таго, згаджаецца Данія, ці не. Мэйджар прапанаваў плян павольных дзеяньняў: не вяртацца ў ЭВС, пакуль яна не рэфармуецца, і не ратыфікаваць Маастрыхт, пакуль ня будуць улічаны прапановы датчанаў ды іншых. Але найбольш радыкальнае разьвязаньне прапанаваў паважаны Карл Отто Пёль, былы старшыня Бундэсбанка. Ён заклікаў Францыю і Нямеччыну разам з Бэльгіяй, Нідэрляндамі і Люксэмбургам распачаць пераход да валютнага саюзу "не праз пяць або сем гадоў, а зараз жа". Іншымі словамі, трэба прыняць як факт непазьбежны раскол Эўропы на цьвёрдае ядро і досыць свабодную пэрыфэрыю.

Аднак ніводны з гэтых падыходаў не разьвяжа тых глыбокіх праблем, што спрычыніліся да нядаўняга эўрапейскага землятрусу. Эўропа перажывае заняпад, і нямецкая эканоміка, зьнясіленая вялізным коштам асыміляцыі былой ГДР, ня здольная выконваць ролю лякаматыва для сваіх партнэраў.

Апрача таго, узрушэньні апошніх тыдняў сьведчаць пра тое, што эўрапейскія лідары імчаць да адзінства з хуткасьцю, якая выклікае ў людзей абурэньне і разгубленасьць. 49% французаў, якія прагаласавалі супраць Маастрыхта, баяцца, што "безаблічныя тэхнакраты з Брусэля" пашкодзяць іх асабістым і нацыянальным інтарэсам. Апытаньне грамадзкай думкі, праведзенае ў Вялікабрытаніі, паказала, што брытанцы адкінулі б Пагадненьне пераважнай большасьцю галасоў з тых жа меркаваньняў. Ува ўсёй Супольнасьці чуваць патрабаваньні большай простасьці і "празрыстасьці" ў справах ЭС, лепшага кантролю брусэльскай бюракратыі нацыянальнымі ўрадамі і пашырэньня "дэмакратыі" ў эўрапейскім працэсе, што значыць наданьне большай улады Эўрапарляманту ў Страсбургу.



Жак ДЭЛЁР

Дык можа ідэал аб'яднанай Эўропы, пабудаванай вакол заходніх дэмакратыяў, мёртвы? Ні ў якім выпадку. Бо вельмі хутка, 1 студзеня, усе межы ў Супольнасьці зьнікнуць, і зьявіцца найбуйнейшы і найбагацейшы ў сьвеце рынак з 320 мільёнамі спажыўцоў. Нэўтральныя краіны кантынэнту і ўсе дзяржавы былога савецкага



Джон МЭЙДЖАР

блёку чакаюць у чарзе прыёму ў Эўрапейскі клюб. Практычна ўсе апанэнты Пагадненьня заяўляюць, што яны "за Эўропу, але супраць Маастрыхта". І мала хто зь іх захоча адмовіцца ад сыстэмы, якая дазволіла моцна прывязаць Нямеччыну да сваіх суседзяў і практычна выключае магчымасьць яшчэ адной буйной вайны на эўрапейскай глебе.

Зразумела, што сыстэма гэтая яшчэ не завершаная. Сьведчаньне гэтаму — югаслаўская трагедыя. Эўропа павінна пашырацца і наладзіць унутры шчыльныя сувязі. Але ад гэтага часу й надалей гэта давядзецца рабіць шляхам выкарыстаньня разнастайнасьці эўрапейскіх дзяржаў-нацый, а ня шляхам накіданьня ім уніфікаванай аднастайнасьці, да якой яны ня могуць і ня хочуць ісьці.

*Падрыхтаваў*
**Віктар ЛУК'ЯНАЎ**

## З аднаго шыняля выйшлі

**Афіцыйныя асобы Балгарыі апошнім часам досыць настойліва заяўляюць пра жаданьне сваёй краіны наладзіць блізкія стасункі ў вайсковай сфэры зь Беларусьсю і Украінаю.**

Размова найперш ідзе пра пастаўкі ваеннай тэхнікі і зброі ў Балгарыю, войска якой раней цалкам забясьпечвалася ўзбраеньнем з СССР. Тое самае цяпер магла б рабіць Расея, але балгары, відаць, імкнуцца дыстанцыявацца ад яе. Аднак спадзявацца на пастаўкі з краінаў НАТО Балгарыя ня можа з-за супрацьстаяньня з Турцыяй — сябрам гэтага блёку. Таму даводзіцца шукаць іншых партнэраў.

A.Dz.

## Пасол адкрывае Беласток

**Беларускі пасол у Польшчы Уладзімер Сянько наведаў Беласток, дзе сустрэўся зь мясцовымі ўладамі, а потым зь беларускай грамадзкасьцю.**

Беластоцкім беларусам было вельмі цікава пабачыць і паслухаць супляменьніка, які з 1974 г. увесь час працаваў у савецкім пасольстве ў Варшаве, але толькі цяпер прыехаў на Беласточчыну. Напэўна, сп.Сянько папросту ня ведаў, што тут жывуць землякі-беларусы.

C.M.

## Проша пана на Захад

**Палякі маюць сёньня магчымасьць падарожнічаць бязь візаў амаль па ўсёй Эўропе.**

Візы патрабуюцца толькі для паездак у Гішпанію, Партугалію, Ірляндыю ды Грэцыю. Аднак і Гішпанія з Партугаліяй, як днямі было паведамлена, для грамадзянаў Польшчы ў хуткім часе зробяць бязьвізавы рэжым. Афіны на гэта пакуль не згаджаюцца, патрабуючы ад Польшчы вырашыць спачатку праблему з тысячамі палякаў, якія цяпер нелегальна знаходзяцца ў Грэцыі.

Зрэшты, нам няма сэнсу зайздросьціць палякам, бо езьдзіць па Эўропе ў нас усё адно няма за што.

A.C.

# КУДЫ ВЫХОДЗІЦЬ

**Рафаэль ХАКІМАЎ, дарадца прэзыдэнта, сябра Дзяржаўнае Рады Рэспублікі Татарстан**

"Ці выйдзе, нарэшце, Татарстан з Расеі?" Гэтае пытаньне становіцца навязьлівай ідэяй, і некаторыя пачынаюць хвалявацца.

Станаўленьне расейскай дзяржавы пачалося з захопу Казані Іванам Грозным у 1552г. Сёньняшняе кіраўніцтва Расеі баіцца, што з Казані пачнецца і распад тысячагадовай дзяржавы. Прычыны для хваляваньня ёсьць, але яны хаваюцца не ў казанскім, а ў маскоўскім Крамлі.

Дэмакратызацыя разбурыла легітымнасьць "адзінай і непадзельнай" Расеі. І таму ня варта спалучаць неспалучальнае: народаўладзьдзе ці вялікадзяржаўнасьць, — прыйдзецца выбіраць. Што б ні казалі пра Татарстан, але на рэфэрэндуме большасьць прагаласавала за сувэрэнітэт, а тыя, хто галасаваў "супраць", прызналі яго вынікі. Палітычны акт адбыўся. Дарэчы, у Татарстане самавызначаецца ўвесь народ, бяз розьніцы ў мовах, паходжаньні, культуры. Можна, вядома, не лічыцца з вынікамі рэфэрэндуму і рабіць выгляд, што гэта "ўсяго толькі сацыялягічнае апытаньне", але тады ня трэба крыўдаваць, калі жыцьцё пойдзе сваім шляхам.

Тэрытарыяльная непадзельнасьць Расеі пакуль захоўваецца дзякуючы гістарычнай традыцыі альбо, лепш сказаць, па інэрцыі. Яе прававая аснова вельмі нетрывалая. Фэдэратыўная Дамова стваралася "зьверху", і таму яна ўвесь час размываецца па меры далейшай дэмакратызацыі грамадства. Татарстан не ініцыятар, а толькі індыкатар гэтага працэсу. На чарзе Якуція, Тува, Далёкі Усход, Сібір, вялікія вобласьці... Не Татарстан, а прынцыпы дэмакратыі "вядуць вайну" зь вялікадзяржаўнай Расеяй...

Сусьветная супольнасьць мае ілюзіі наконт таго, што сьвет складаецца зь дзяржаў, а ён складаецца з народаў.

Міжнацыянальныя канфлікты ў Югаславіі і СССР паказалі ўсю нетрываласьць міру ў Эўропе, міру, заснаванага на прынцыпах непарушнасьці межаў і тэрытарыяльнай непадзельнасьці. Дагматычнае прытрымліваньне "дзесяці прынцыпаў" Дэклярацыі Нарады па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Эўропе (НБСЭ), што сталі чымсьці накшталт Сьвятога Пісаньня для сусьветнай супольнасьці, прывяло Эўропу да мяжы новай вайны. У ААН і НБСЭ адсутнічаюць агульныя падыходы і адпаведныя інстытуты для вызначэньня працэдуры самавызначэньня народаў. Менавіта таму яны аказаліся бездапаможнымі перад канфліктамі на Каўказе і ў Югаславіі. А сербаў якраз можна было спыніць напачатку і вырашыць пытаньне, як у Чэха-Славаччыне.

Юрысты разважаюць пра калізію паміж прынцыпам тэрытарыяльнай непадзельнасьці і правам народаў на самавызначэньне. Але справа значна больш сур'ёзная, чым пошук юрыдычных фармулёвак. Як быць, напрыклад, з вайной у Абхазіі, дзе стаіць пытаньне аб існаваньні цэлага народу? Што ж, зараз дзеля прынцыпаў НБСЭ, выпрацаваных у пэрыяд "халоднай вайны", даць магчымасьць зьнішчыць абхазаў?! Чалавецтва павінна адказаць на простае пытаньне: што больш важнае — існаваньне народа ці непадзельнасьць дзяржавы, якая прыгнятае гэты народ?

Югаславія, СССР — толькі пачатак. Падобныя праблемы — у Гішпаніі, Бэльгіі і Вялікабрытаніі. Вострыя нацыянальныя канфлікты існуюць у Турцыі ды Іраку зь іх курдзкай праблемай, Кітаі з праблемай тыбетцаў і цюркаў, у Інданэзіі, Індыі ды іншых краінах. На зямлі жыве каля 5000 этнасаў, і ўсяго толькі 180 маюць міжнародна прызнаную дзяржаўнасьць. Народы падзеленыя на гатункі, і гэта несправядліва.

Абсурднасьць падыходаў сусьветнай супольнасьці да правоў народаў яскрава відаць на прыкладзе параўнаньня абароны правоў чалавека і абароны правоў народаў. Калі перасьледуюць дысыдэнта, то ўся сусьветная прэса можа паўстаць на яго абарону. Ствараюцца таварыствы, гаворацца прамовы і даклады ў ААН, Кангрэсе ЗША, эўрапейскіх ар-

# «Чацьверты Меч Камунізму» за кратамі

## Крах камуністычнага паўстаньня ў Пэру

**Пэруанскія сілы бясьпекі захапілі лідара самай крывавай партызанскай групоўкі ў Лацінскай Амэрыцы, якая 12 гадоў тэрарызавала краіну.**

Арышт Гузмана скалануў Пэру. Дванаццаць гадоў ён быў пэруанскім Пол Потам, ідэолягам-забойцам, якіператварыў сваю краіну ў брацкую магілу. Маючы толькі каля 5000 байцоў, яго маоісцкая арганізацыя зьнішчыла 23000 чалавек і ўчыніла краіне шкоды на 20 мільярдаў даляраў. У вапошнія месяцы яна пранікла нават у навакольлі сталіцы, пагражаючы самому існаваньню пэруанскае дзяржавы. Фанатычныя прыхільнікі называлі свайго правадыра Puka Inti (Чырвонае Сонца), Presidente Gonzalo і «Чацьверты Меч Камунізму», усьлед за Марксам, Леніным і Мао.

Захоп Абімаэля Гузмана — гэта магутны ўдар па яго арганізацыі Sendero Luminoso ("Бліскучы Шлях"). Адначасова гэта трыумф прэзыдэнта Пэру Альбэрто Фухіморы, які ў красавіку гэтага года ўвёў у краіне dictablanda (мяккую дыктатуру), калі камуністычныя паўстанцы ўсё мацней сьціскалі кальцо вакол сталіцы Лімы.

Застаючыся ў маніякальнай ізаляцыі, «Бліскучы Шлях» аніблізка ня быў закрануты развалам савецкага камунізму, што паўплывала на рэвалюцыйныя працэсы ў краінах кшталту Сальвадора, Калюмбіі ды Гватэмалі. Грошы ды іншыя рэсурсы плылі да Гузмана не ад замежных фундатараў, а знутры, з даліны Хуаляга, дзе разьмешчаны ці не найбуйнейшыя ў сьвеце плянтацыі какаіну.

Шмат гадоў Гузман падбадзёрваў сваіх прыхільнікаў заявай, што Пэру — «цэнтр сусьветнай рэвалюцыі». Нават перад крахам міжнароднага камунізму ён злосна кпіў з «рэвізіяністаў» у Савецкім Саюзе, Кітаі і Паўночнай Карэі. У 1980 г. актывісты Sendero Luminoso любілі казытаць нэрвы жыхароў Лімы, падвешваючы на ліхтарах дохлых сабак з надпісамі накшталт «ДЭН СЯОПІН — СУКІН СЫН». Усё гэта мела прадэманстраваць, што Sendero — гэта адзіны ідэалягічна чысты рух на зямлі. Калі пачалі развальвацца левыя паўстанцкія рухі Лацінскай Амэрыкі, Гузман папросту ізаляваў сваіх прыхільнікаў ад гэтых працэсаў. «Бліскучы Шлях» — гэта самафінансаваная групоўка, якая мае да 40 мільёнаў наркадаляраў і не залежыць ад паставак зброі з-за межаў. У выніку, яна ня толькі перажыла ўсе іншыя рэвалюцыі, а нават квітнела.

Аднак у мінулым былі ў яе і цяжкія часіны. Пасьля крывавай армейскай кампаніі 1984 года, пад час якой «Бліскучы Шлях» быў практычна зьнішчаны ў мейсцы яго нараджэньня — горадзе Аякучо, рух перакінуўся ў іншы рэгіён, у тым ліку і на прыбытковыя какаінавыя палеткі даліны Хуаляга. У ліпені 1986 г., пасьля таго, як урадавыя войскі выразалі 300 баевікоў Sendero ў турме Эль Фронтон, «Бліскучы Шлях» шпарка перагрупаваўся і пачаў канцэнтравацца ў гарадах. Кожны раз рух выжываў дзякуючы арганізацыйнаму таленту і манумэнтальнай волі Абімаэля Гузмана. Як павук сную сваё павуціньне, так Гузман аднаўляў тое, што экспэрт па «Бліскучым Шляху» Карлёс Іван Дэгрэгоры называе «бюракратыяй тэрору».

Увогуле, пра здольнасьці Гузмана складаліся легенды. Прэзыдэнт Пэру назваў яго неяк «злым геніем». Ён цудоўна валодае мастацтвам палемікі. Студэнты, якім ён выкладаў філязофію ва ўнівэрсытэце Аякучо, далі яму мянушку Шампунь, бо калі ён прамывае некаму мазгі, усё адразу ж робіцца крышталёва ясным. У яго арганізацыі, афіцыйна вядомай пад назвай Камуністычная партыя Пэру, пануе культ асобы сталінскага або маоісцкага тыпу. Сябры арганізацыі абавязаны запамінаць слова ў слова яго мудрагелістыя палітычныя творы. У турэмных камэрах, дзе сядзяць актывісты «Бліскучага Шляху», вязьні працуюць нібы сярэднявечныя манахі, рупліва перапісваючы ў нататнікі бясконцыя і жахліва нудныя прамовы свайго правадыра. Яны вучацца сьпяваць па-кітайску маоісцкі гімн «Усход — Чырвоны». Урэшце само ўжываньне мовы ператвараецца ў аўтаматычны, пазбаўлены эмоцыяў і думак рытуал.

Але вось надышло 12 верасьня. У той дзень паліцыя захапіла ня толькі самога Гузмана, але й яганых трох найбліжэйшых паплечнікаў, пазбавіўшы «Бліскучы Шлях» найвышэйшага кіраўніцтва. Паліцыянты таксама канфіскавалі матар'ялы і камп'ютарныя дыскі з дэталёвым плянам шырокага кастрычніцкага наступу камуністычных партызанаў. У іх раскрываецца і канспіратыўная сетка, што зьвязвала камітэт «Бліскучага Шляху» ў Ліме з рэгіянальнымі камітэтамі. З часу арышту Гузмана ў ваблавах і рэйдах было затрымана 200 сэндэрыстаў. Паліцыя ўпэўнена, што інфармацыя пра структуру арганізацыі дапаможа ёй разграміць і іншыя часткі «Бліскучага Шляху». «Гэта пачатак канца Sendero», — гаворыць Ізабэль Кораль, якая вядае Гузмана з часу яго працы выкладчыкам ва ўнівэрсытэце. — Іх ідзі яшчэ пэўны час будуць лунаць у паветры, але людзі іх будуць зноў успрымаць са сьмехам».

*Паводле «Newsweek» падрыхтаваў* **Віктар ЛУК'ЯНАЎ**

# Нобэлеўская статыстыка: у нас таксама ёсьць шанц

**Нобэлеўскую прэмію па літаратуры за 1992 г. атрымаў 62-гадовы англамоўны паэт, драматург і мастак Дэрык Ўолкот — прафэсар Бостанскага ўнівэрсытэту (ЗША).**

Новы ляўрэат нарадзіўся на востраве Сэнт-Люсія (Карыбскае мора). У гэтым шматпляменным і шматмоўным рэгіёне ўтварылася своеасаблівая цывілізацыя, дзе прысутнічаюць рысы культур мангалоідных тубыльцаў, нэграў з розных рэгіёнаў Афрыкі, а таксама эўрапейцаў.

У жылах Дэрыка Ўолкота цячэ кроў нэграідаў, галяндцаў, ангельцаў. Ангельская мова для яго ня родная, ён пачаў вучыць яе толькі ў падлеткавым узросьце. Але менавіта па-ангельску ўраджэнец Сэнт-Люсіі напісаў творы, якія й адзначаны прэміяй Нобэля. Сярод найвыдатнейшых твораў Д.Ўолкота — «Омэрос» (так гучыць імя Гамэра па-грэцку), дзе скарыстоўваючы эпізм элінскіх вобразаў паэт распавёў пра чалавека, каторы шукае. Шукае вечна. На думку нобэлеўскага ляўрэата Іосіфа Бродскага, Дэрык Ўолкот — найлепшы англамоўны паэт сярод нашых сучасьнікаў.

Такім чынам, на сёньняшні дзень у сьпісе ляўрэатаў значыцца 89 чалавек. Гэта ня толькі пісьменьнікі ў традыцыйным разуменьні. Па Статуце пад «літаратураю» разумеюцца ня толькі мастацкія творы, але й іншыя, зьмест і форма якіх уяўляе сабою літаратурную каштоўнасьць. Таму сярод Нобэлеўскіх ляўрэатаў ёсьць гісторыкі Тэадор Момзэн (1902) і Ўінстан Чэрчыль (1953), а таксама філёзафы Рудольф Эйкен (1908), Анры Бэргсон (1927) і Бэртран Расэл (1950). Іншыя 84 прэміі разьмеркаваныя наступным чынам: проза — 48, паэзія — 29, драматургія — 7.

Найбольш «Нобэляў» мае Францыя — 12 ляўрэатаў. На другім мейсцы ЗША — 11 чалавек, прычым тры зь іх (Ісак Зынгер, Чэслаў Мілаш, Іосіф Бродскі) выйшлі зь іншых краін. Далей ідуць Вялікая Брытанія (8), Нямеччына (7), Швэцыя (6), Гішпанія ды Італія (па 5), Расея (4), Данія й Нарвэгія (па 3). Па дзьве ўзнагароды маюць літаратары Грэцыі, Ірляндыі, Польшчы, Чылі, Швэйцарыі. Па адной — Аўстраліі, Бэльгіі, Гватэмалі, Эгіпту, Ізраіля, Індыі, Ісляндыі, Калюмбіі, Мэксыкі, Нігерыі, Фінляндыі, Чэха-Славаччыны, ПАР, Сербіі ды Японіі.

Уладальнікамі прэміі зьяўляюцца прадстаўнікі 32 краін. Заўважана, што колькасьць ляўрэатаў далёка не заўжды прапарцыянальная памерам краіны (прыкладам, Расея з 170 млн. насельніцтва мае 4 «Нобэлі», а Нарвэгія з усяго 5 млн. жыхароў — 3).

Па частках сьвету статыстыка разьмяркоўваецца наступным чынам: Эўропа — 66, Амэрыка — 15, Азія — 3, Афрыка — 3, Аўстралія — 1. Зь некалькіх тысячаў існых на Зямлі моў толькі 21 выкарыстоўвалася аўтарамі, якія атрымалі Нобэлеўскую прэмію. Трымае першынства ангельская мова — на ёй працавалі 8 ляўрэатаў з ЗША, 7 зь Вялікай Брытаніі, 2 з Ірляндыі, па адным з Аўстраліі, Нігерыі й ПАР — усяго 19 узнагароджаных. Наступнай ідзе француская мова (12), гішпанская ды нямецкая (па 10), швэдзкая (6), італьянская й расейская (па 3), грэцкая (2). Па адной прэміі маюць аўтары, што пісалі на арабскай, бэнгальскай, ійрыт, ідыш, ісьляндзкай, правансальскай, сербскай, фінскай, чэшскай, японскай.

Аналізуючы Нобэлеўскую статыстыку, можна прыйсьці да высновы, што стакгольмская рада імкнецца зрабіць сваю прэмію дастаткова ўнівэрсальнай. Увагу радцаў прыцягваюць найвышэйшыя дасягненьні пісьменьнікаў ва ўсіх жанрах і на ўсіх кантынэнтах. У Нобэлеўскім клюбе ёсьць прадстаўнікі розных рас і народаў, якія карыстаюцца шырокім спэктрам моваў. І ўсё ж Нобэлеўская прэмія па літаратуры, якая сёлета дасягнула 1 млн. 200 тыс. даляраў, арыентаваная галоўным чынам на эўрапейскую культуру. Паказальна, што найбольшыя шанцы ў грамадзянаў нацыянальных дзяржаў, а прадстаўнікі нацыянальных і моўных меншасьцяў, таксама як і прадстаўнікі састаўных частак шматнацыянальных (ці фэдэральных у клясычным разуменьні) краін ня вельмі часта становяцца «Нобэлямі».

Улічваючы працэсы, што адбываюцца на Беларусі, наша краіна мае ўсе шанцы даць ляўрэата. Засталося галоўнае — творчы бок.

**А. Dz.**

# ТАТАРСТАН

ганізацыях. Але калі гаворка ідзе аб правах народаў, грамадзкасьць абыякава глядзіць на тое, як яны выміраюць. Увесь сьвет чуў пра Сахарава і Букоўскага, і толькі асобныя спэцыялісты ведаюць пра такія народы, як інгерманляндцы ці кумыкі, шапсугі ці нагайцы. Правы паволжскіх немцаў Расеі не жадаюць узнавіць нават нягледзячы на націск такой магутнай дзяржавы, як Нямеччына. А што ж застаецца рабіць іншым народам, якіх няма каму абараніць, акрамя Пана Бога?! Ім застаецца ўзяцца за зброю.

Дзяржавы дзеля захаваньня status quo не заўважаюць парушэньняў правоў народаў. Кожны думае пра свае тэрыторыі і свае межы. Лёндан баіцца ірляндцаў і шатляндцаў, Аттава — жыхароў Квэбэку, Мадрыд — баскаў і каталёнцаў і г.д. У кожнага ёсьць прычына, каб трымацца за status quo і тым самым ставіць пад пагрозу трываласьць міру на зямлі. ААН робіць выгляд, што нічога не адбываецца. Грамадзкасьць маўчыць.

Сусьветная супольнасьць, абапіраючыся на розум і плянэтарны інтарэс, можа знайсьці ў сабе сілы ўзьняцца над дзяржаўнасьцю дзеля абароны правоў народаў і захаваньня ўсеагульнага міру. У свой час ААН змог устаць на абарону каляніяльных народаў і падштурхнуў дзяржавы адмовіцца ад імпэрыялізму. Сёньня настае этап другаснай "дэкалянізацыі". Першым крокам на гэтым шляху можа стаць Дэклярацыя правоў народаў, безь якой Усеагульная Дэклярацыя правоў чалавека ня будзе працаваць у поўным аб'ёме. Наступны крок — стварэньне другой палаты ААН, дзе былі б прадстаўленыя народы, якія ня маюць дзяржаўнасьці. Трэці крок — наданьне права Міжнароднаму суду прымаць да разгляду справы аб парушэньні правоў народаў.

ААН у якасьці самага важнага прынцыпу зафіксаваў права народаў на самавызначэньне. Надышоў час падмацаваць яго адпаведнымі нормамі і мэханізмамі. Тады для ААН адкрыюцца новыя пэрспэктывы.

Куды ж выходзіць Татарстан? Выходзіць на міжнародную арэну! Ці можна яго за гэта асуджаць ці ўхваляць супраць яго сілу?! Што Татарстан разбурае? Ён разбурае імпэрскую структуру адносін, рэшткі каляніяльнага мінулага! Хіба трэба яго за гэта ганьбіць? Татарстан прапаноўвае Расеі заключыць саюз на раўнапраўных, справядлівых прынцыпах і тым самым захаваць і замацаваць традыцыйныя сувязі! Ён прапануе бесканфліктны шлях да ўзаемаразуменьня і рашэньня нацыянальнага пытаньня! Хіба за гэта судзяць?!

*(«Независимая газета»)*

# Летува напярэдадні выбараў

**25 кастрычніка ў Летуве маюць адбыцца выбары ў Сэйм. Цяпер робяцца прагнозы наконт магчымага палітычнага спэктру будучага найвышэйшага органу дзяржаўнай улады.**

У прыватнасьці, спробы такога роду былі зроблены сацыялягічнымі групамі Віленскага ўнівэрсытэту ды летувіскай тэлевізіяй і радыё. Грунтуючыся на гэтых зьвестках, можна намаляваць больш-менш аб'ектыўную карціну стану летувіскага грамадзтва напярэдадні выбараў і разьмеркаваньня сымпатыяў насельніцтва між партыямі і рухамі, якія заявілі пра намер удзельнічаць у змаганьні за мейсцы ў Сойме.

За мінулы год папулярнасьць ураду зьнізілася амаль удвая. Не нашмат вышэйшы і рэйтынг парляманту. 75% жыхароў Летувы адчуваюць трывогу і лічаць свае пэрспэктывы няяснымі. У рэспубліцы няма яўнай палітычнай сілы, якая б прэтэндавала на ролю лідара ў грамадзтве. Асноўная барацьба за галасы выбаршчыкаў будзе весьціся паміж шасьцю галоўнымі палітычнымі рухамі і партыямі.

Нягледзячы на тое, што Sajūdis за апошнія два гады страціў падтрымку большасьці летувіскага жыхарства, ягоныя прыхільнікі ўсё ж спадзяюцца атрымаць ня менш за 40% галасоў выбаршчыкаў. Менавіта такая частка насельніцтва выказалася на рэфэрэндуме за ўсталяваньне ў Летуве прэзыдэнцкага паста. Але дадзеныя сацыялягічнага апытаньня паказваюць, што толькі кожны дзесяты выбаршчык сёньня гатовы аддаць свой голас Sajūdis'у.

Дэмакратычная Партыя Працы на чале з Альгірдасам Бразаўскасам мае 18 тысяч сяброў і зьяўляецца найбуйнейшай у краіне. Яе лідар разьлічвае атрымаць каля 30 мейсцаў у Сойме. Аднак сацыёлягі мяркуюць, што гэтыя спадзяваньні не адпавядаюць сымпатыям выбаршчыкаў; толькі 7% зь іх прыхільна ставяцца да партыі Бразаўскаса.

6% выбаршчыкаў гатовыя аддаць свае галасы за партыю сацыяль-дэмакратаў. Але гэтая лічба, відаць, будзе павялічвацца, бо партыя бярэ вельмі актыўны ўдзел у палітычным жыцьці Летувы і, хутчэй за ўсё, утворыць магутны перадвыбарчы блёк. Такім чынам, паводле розных ацэнак, сацыяль-дэмакраты здольныя атрымаць 13-20% мейсцаў у Сойме.

Галоўны козыр хрысьціянскіх дэмакратаў той, што яны карыстаюцца падтрымкай Летувіскага касьцёлу. Нявыключана, што да моманту выбараў за плячыма хрысьціянскіх дэмакратаў будзе стаяць ужо 8-9% насельніцтва рэспублікі.

Правыя сілы прадстаўленыя ў палітычным спэктры Летувы пераважна Рухам Нацыянальнага Прагрэсу. Гэты рух можа разьлічваць прыкладна на 15 дэпутацкіх мейсцаў.

І, нарэшце, апошні ў шасьцёрку палітычных лідараў уваходзіць Саюз Лібэралаў Летувы, якому, згодна прагнозам сацыёлягаў, аддасьць свае галасы каля 4% выбаршчыкаў.

Усяго ж на долю пералічаных груповак прыпадзе тры чвэрці дэпутацкіх мандатаў. Астатнія мейсцы будуць падзеленыя між дзесяткам менш значных і ўплывовых палітычных сілаў Летувы.

*Паводле паведамленьня Deutsche Welle.*

# Касьцёл не аддалі. Каму гэта выгодна?

Ужо ня першы месяц вернікі змагаюцца за Сьвятатраецкі (сьв.Роха), касьцёл што ў Менску на Залатой Горцы, які знаходзіцца на балянсе філярмоніі, зьяўляючыся арганнаю заляй. Былі і зборы подпісаў, і пікеты ля Вярхоўнага Савету і Дома ўраду, але... Я напісаў «змагаюцца» — на думку Міністэрства культуры (гэта апошняя інстанцыя ў вырашэньні пытаньня прыналежнасьці сьвятыні) змаганьне павінна ўжо закончыцца, бо, як кажуць, рашэньне канчатковае і скаргі не прымаюцца. Так, касьцёла вернікам не аддалі.

Мне нядаўна выпала сустракацца з чарговым лекарам-прарокам. І зараз прыгадваюцца ягоныя словы. На пытаньне адной з пацыентак каталіцкага веравызнаньня, ці аддадуць улады касьцёлы (залатагорскі і катэдральны), адказ быў лякунічны: «Ад бальшавікоў вы гэтага не дачакаецеся».

Здаецца, і довады міністэрства прыводзіць разумныя: на філярманічныя грошы сьвятыня была адрамантаваная; вялікія сродкі былі ўкладзеныя ў арганы, замоўленыя і выробленыя ў Чэха-Славаччыне; касьцёл сьв.Роха — адзіная ў двухмільённым горадзе арганная заля. Але ці ня вернікамі быў збудаваны сам касьцёл? Арганы можна перанесьці на хоры — для таго яны і створаныя. А што да «адзінай на двухмільённы...», то можна пасьледаваць за практыкаю Домскае бажніцы ў Рызе.

Але ж, пэўна, ня гэтыя аргумэнты прымусілі службоўцаў ад культуры адмовіць вернікам. Ужо які год на Беларусі ідзе працэс перадачы рэлігійным грамадам культавых будынкаў, і сярод нацыянальнай інтэлігенцыі, якая напачатку безагаворачна падтрымлівала гэты працэс, пачуліся заклапочаныя галасы. Па-першае, сярод культавых пабудоў нямала тых, што сталі культурнымі цэнтрамі (менскі Чырвоны касьцёл, гарадзенскі кляштар айцоў базыліянаў, раўбіцкі касьцёл, кальвінскі збор у Заслаўі ды інш.). А па-другое, многія прадстаўнікі Царквы і Касьцёлу фактычна займаюцца антыбеларускаю дзейнасьцю. У любой іншай краіне да іх ставіліся б як да крэатуры сумежных дзяржаваў. Але ня ў нас.

У СССР рэлігія, лагодна сказаўшы, не падтрымлівалася, але праваслаўе, будучы нацыянальнай рэлігіяй расейцаў, займала неаспрэчна прыярытэтнае становішча. Тым больш у сучаснай Расеі, не абцяжаранай атэістычнай ідэалёгіяй. Прывыкнуўшы глядзець у рот Маскве, Менск і ў справе стаўленьня да канфэсіяў ня можа пазбыцца ганебнае практыкі. І вось ніхто іншы, а менавіта ўладыка Філарэт асьвячае будынак беларускага пасольства ў Варшаве. Ці не заяўка гэта на неафіцыйную дзяржаўнасьць праваслаўнае царквы на Беларусі? Хоць здаецца, ад Шушкевіча ды Кебіча, якія паходзяць з каталіцкіх сем'яў, лягічна было б чакаць іншага. Праўда, тут магло адыграць ролю імкненьне падкрэсьліць, што Беларусь — гэта ня Польшча. Значыць, калі будуць асьвячаць нашае пасольства ў Маскве, трэба чакаць прысутнасьці Яго Эксцэленцыі Казімера Сьвёнтка?

На дзейнасьць польскіх сьвятароў, што прыязджаюць на Беларусь, у Польшчы глядзяць зусім інакш. На прэс-канфэрэнцыі зь Лехам Валэнсам карэспандэнт беларускае рэдакцыі радыё «Свабода» запытаўся пра стаўленьне польскага прэзыдэнта да таго, што ксяндзы зь ягонае краіны займаюцца на Беларусі ня столькі адраджэньнем веры, а прапагандаю пальшчызны. На гэта Валэнса адказаў: такое стаўленьне да дзейнасьці ксяндзоў — праява нездаровай падазронасьці, старых стэрэатыпаў; трэба толькі вітаць, што польскія сьвятары стараюцца задаволіць заканамерную цікавасьць мясцовага жыхарства да ўсяго польскага.

Дык вось цяпер, калі барацьба за бажніцы знаходзіцца ў самым апагеі (праваслаўная ерархія кінула позірк на полацкую Сафію — пэрліну беларускага культавага дойлідства), аддаць Сьвятатраецкі касьцёл, г.зн. пазбавіцца і Сафіі. Параллель тут падкрэсьліваецца яшчэ і тым, што абедзьве гэтыя сьвятыні выкарыстоўваюцца як арганныя залі.

Быццам бы рашэньне Міністэрства культуры і на карысьць беларушчыне. Аднак якраз наадварот. Вядома, што «на базе» залатагорскага касьцёла дзейнічае Беларуская Каталіцкая Грамада (БКГ), якая імкнецца вярнуць спалянізаванае каталіцтва да беларушчыны. Сьвятатраецкі касьцёл — адзіная на Беларусі сьвятыня, дзе ўсё ад першага да апошняга слова адпраўляецца па-беларуску. Таму ня дзіўна, што такім страхам і нянавісьцю да БКГ прасякнуты адкрыты ліст кіраўніцтва Саюзу палякаў Беларусі (СПБ) на адрас Шушкевіча і Кебіча. Дзейнасьць БКГ выбівае грунт з-пад ног «польскосьці крэсовэй», бо нашыя палякі зьяўляюцца палякамі роўна настолькі, наколькі яны адчуваюць сябе злучанымі з каталіцкаю традыцыяй; прапольская агітацыя вядзецца найперш менавіта ў парафіях.

На маю думку, БКГ робіць для ўмацаваньня беларускай дзяржаўнасьці ў каталіцкім асяродзьдзі значна больш, чым любая дзяржаўная ці грамадзкая структура. Цікава, што спачатку вернікі сталага ўзросту амаль не наведвалі беларускай імшы, бо прызвычаеныя па-польску. Але зараз у нядзелю ўсіх вернікаў касьцёл зьмясьціць ня можа, суцэльным цугам ідуць да шлюбу маладыя, бацькі нясуць хрысьціць дзетак, пад касьцельнымі мурамі прадаецца каталіцкая літаратура — і ўсё гэта па-беларуску.

Яшчэ адзін момант. Калі стаялі пікеты за Чырвоны касьцёл, з вуснаў пікетчыкаў часам чуліся праклёны ды пагрозы ўладам. Пікеты за Сьвятатраецкі касьцёл многія маглі бачыць па тэлевізіі: ніякай азлобленасьці, ніякіх праклёнаў — з вуснаў зьлятаюць толькі словы літаніяў і рэлігійных песьнясьпеваў. Чырвоны касьцёл аддалі, Сьвятатраецкі — не.

Дык што, нашае чынавенства разумее толькі мову кулакоў? А тое, што людзі, прыходзячы ў касьцёл, мусяць маліцца не на алтар, а на арганы, іх не займае. Як не цікавіць іх і тое, што некаторыя падчас нядзельнага набажэнства млеюць (такое здаралася на маіх вачох двойчы) праз перапоўненасьць сьвятыні: па ўмовах арэнды імшу можна адпраўляць толькі раз на дзень а 9 гадзіне раніцы, бо ўвечары канцэрт. Нядзельная ж імша звычайна павінна адпраўляцца два-тры разы, каб усе прагныя Слова Божага маглі на ёй прысутнічаць.

А цяпер падвядзем рысу. Чым жа выкліканая такая заўзятасьць Міністэрства культуры ў вырашэньні пытаньня менавіта з гэтаю бажніцай? Чаму яно не праявіла такой цьвёрдасьці, перадаючы сьвятыні тым, хто наогул ня хоча прызнаваць правоў вернікаў мець багаслужбу на ДЗЯРЖАЎНАЙ мове?

Адказ на паверхні. Так, ужо які раз адыграла ролю фізыялягічная антыбеларускасьць экс-бальшавіцкай бюракратыі...

**Зьміцер САЎКА,**
сябра БКГ

## У сувязі з адным «мерапрыемствам» у Менску

Маецца на ўвазе выданьне 130-томнага энцыкляпэдычнага зборніка «Памяць», якое задумала Таварыства беларускай мовы. Я не пісьменьнік і не навуковы работнік, а адзін з чытачоў. Але менавіта дзеля павышэньня эрудыцыі, адукацыі і выхаваньня шырокай грамадзкасьці працуюць філёзафы, гісторыкі, філёлягі, пішуцца ўсе гэтыя шматлікія тамы. І вось мая думка.

Вітаючы ў прынцыпе стварэньне ўсеабдымнага гістарычнага летапісу Беларусі ад сівой мінуўшчыны і да нашых дзён, я быў бы катэгарычна супраць яго выданьня сёньня, і тымі людзьмі, якія ўзначалілі гэтую працу. Чаму? Ёсьць некалькі прычын, якія выклікаюць сумневы ў шчырасьці ініцыятараў і ў каштоўнасьці канчатковага прадукту.

Па-першае, не падабаецца, як было вырашана пытаньне зь фінансаваньнем. Разьлічвалі, відаць, у першую чаргу на кішэні нашых суайчыньнікаў з-за мяжы. Для гэтага, напэўна, іх усіх і ўключылі ў сябры ТБМ. І, вядома, грошы яны дадуць (а дарма!). У сувязі з гэтым пытаньне: а чаму ініцыятары праграмы не патрабавалі ад Шушкевіча і ўрада, каб сродкі выдзелілі за кошт скарачэньня бюджэту арганізацыі, якая дзесяцігодзьдзямі разбурала нашу культуру? Я маю на ўвазе КДБ. Тым больш, што ведамства гэтае было і застаецца самым зацятым ворагам нашага народа (і ня толькі нашага). Але аб гэтым ніжэй.

Па-другое, Беларусі зараз не да пампезных, амбіцыйных, шматтомных выданьняў: не хапае паперы для сшыткаў, школьных падручнікаў, не хапае настаўнікаў у школах і г.д.

У нейкім сэнсе я добра разумею ініцыятараў праекту. Задуманае мерапрыемства на гады забясьпечыць іх спакойнай кабінэтнай працай за даляры або фунты нашых суайчыньнікаў. Але пытаньне: ці будзе карысьць грамадзтву, беларускай культуры? Ці не давядзецца сёньняшнім студэнтам гадоў праз пяць ці больш выпраўляць «памылкі» сёньняшніх аўтараў, перарабляць іх працу, як гэта было ўжо ня раз у нашай гісторыі і пры нашай памяці?

І вось тут трэці, галоўны аспэкт праблемы. Нягледзячы на «перабудову», як у Расеі, так і на Беларусі найважнейшыя матэр'ялы застаюцца ў архівах КДБ. І пакуль існуе гэтае ведамства, яно ніколі не разьвітаецца зь імі, бо іх архівы ўтрымліваюць сьведчаньні злачынстваў іх уладальнікаў. А пакуль што яны (альбо іх стаўленікі) знаходзяцца сёньня ва ўсіх структурах улады былога СССР, за выключэньнем Прыбалтыкі.

Далей. З моманту захопу ўлады, сваім галоўным ворагам камуністы заўсёды лічылі замежную эміграцыю. І ўсе гэтыя «грамадзкія» арганізацыі па сувязях з замежжам былі ідэалягічнымі філіямі КДБ, гэтак, як і іхнія органы друку, накшталт «Голаса Радзімы» і падобных. Натуральна, людзі, якія выязджалі за мяжу ад гэтых арганізацый, выконвалі заданьні КДБ па частцы ідэалёгіі. І чым больш пасьпяхова яны з гэтым спраўляліся, тым хутчэй падымаліся па прыступках сваёй кар'еры, атрымлівалі ўзнагароды і вучоныя званьні. У прынцыпе, іначай і быць не магло. Таму што такія навукі, як гісторыя, філязофія, філялёгія былі пастаўленыя на службу камуністычнай ідэалёгіі.

Зараз некаторыя з гэтых людзей — дактары навук, прафэсары — бяруцца пісаць гісторыю нашага народа. Я ніколькі не сумняваюся ў іх прафэсійнай кампэтэнтнасьці. Але ці можна верыць ім? Думаю — не. Шырокай грамадзкасьці невядомыя факты праяўленьня мужнасьці, каб нехта зь іх раскрыў мэханіку падрыўной дзейнасьці КДБ на вопыце асабістага супрацоўніцтва, інакш кажучы, пакаяўся.

Таму яны і сёньня ня вольныя. Яны залежныя ад КДБ, які ў любы момант можа пачаць іх шантажаваць былым супрацоўніцтвам, калі «органы» палічаць, што чалавек «пераступіў мяжу» ў сваёй працы.

Нашую гістарычную «Памяць» пісаць трэба, але ня сёньня, а гадоў праз пяць, можа і больш. Тады, калі навукоўцы будуць валодаць усёй інфармацыяй аб мінулым нашай краіны. І пісаць гісторыю павінны людзі не зьвязаныя зь мінулым — тыя, хто сёньня заканчвае унівэрсытэты, хто здольны будзе паглядзець на падзеі сьвежым вокам.

Толькі тады гэтая «Памяць» можа быць праўдзівай.

**Міхась КУКАБАКА**
г.Масква.

## Будзем сябрамі ў шпіянажы

Прачытаў у нашых газэтах, што расейская служба зьнешняй разьведкі і КДБ Беларусі падпісалі дамову аб супрацоўніцтве.

А вось што прыкладна ў гэты ж час паведамляла лёнданская «Sunday Times»: па хадайніцтве органаў бясьпекі Вялікабрытаніі Скотлэнд-Ярд арыштаваў у жніўні 1992 г. прадстаўнікоў рэзыдэнтуры Расейскай службы зьнешняй разьведкі. Сярод іх былі сябры распушчанай Кампартыі Вялікабрытаніі. Шпіёны здолелі патрапіць у сакрэтныя дасьледчыя структуры Злучанага Каралеўства й мелі доступ да інфармацыі аб найноўшым тыпе атамнай бомбы. Брытанскія аналітыкі адзначаюць, што абвастрэньне цікавасьці разьведкі Расеі да сучасных ваенных тэхналёгіяў небясьпечнае яшчэ й таму, што апошнім часам Масква актывізавала сакрэтныя перамовы з таталітарнымі рэжымамі ў Азіі і Афрыцы па пытаньнях продажу найноўшага ўзбраеньня й тэхналёгіяў. Сярод партнэраў Крамля называюцца Ірак, Іран, Лівія, Паўночная Карэя.

Пляны маштабныя, і Маскве, відаць, спатрэбілася дапамога.

**Ян Д.**




# ГАНАРОВЫ АБАВЯЗАК

Я хацеў вызваліць свайго сына-першаклясьніка ад вывучэньня расейскай мовы, каб хлопец ня блытаўся, а напачатку мог лепш засвоіць сваю мову, а таксама ангельскую. А мне кажуць, што гэта зусім немагчыма, пакуль у Законе аб мовах будзе заставацца артыкул: «Ва ўсіх агульнаадукацыйных школах Беларусі вывучэньне беларускай і рускай моў з'яўляецца абавязковым».

Я разумею дырэктара школы, які ня хоча парушаць закона. Але я не разумею наш Вярхоўны Савет, які вымушае ўсіх пагалоўна «абавязкова» вывучаць мову суседняй дзяржавы. Абавязкова павінна быць вывучэньне нацыянальнай мовы. А што датычыць астатніх — дайце мне права выбару! Гэта абсалютна нармальна. Праз год-два, я перакананы, так яно і будзе. Гэтага ня могуць не разумець толькі людзі, якія ня хочуць удумліва прааналізаваць сытуацыю. Які б парлямант ня быў, ён вымушаны будзе гэта зрабіць.

**Андрэй ВАСЮЧЭНКА**

г.Баранавічы

Зянон ПАЗЬНЯК

# Стварэньне нацыянальнага войска і дзяржаўная незалежнасьць

Стварэньне нацыянальнага войска і наяўнасьць нацыянальных узброеных сілаў зьяўляецца адным з асноўных крытэрыяў сувэрэнітэту. Гэта абавязковая ўмова. Існуюць, праўда, і выключэньні. Але гэта характэрна толькі для карлікавых дзяржаваў зь вельмі маленькім насельніцтвам, сувэрэнітэт якіх — вынік спэцыфічных гістарычных і геаграфічных абставінаў. Для Беларусі, улічваючы яе геапалітычнае становішча і імкненьне да нэўтральнасьці, наяўнасьць моцнага войска, здольнага выконваць усе сучасныя функцыі актыўнай абароны тэрыторыі, зьяўляецца адным з найважнейшых чыньнікаў сувэрэнітэту і нэўтралітэту. Гарантаваць рэальны сувэрэнітэт і нэўтралітэт павінна таксама моцнае войска, што пацьвярджаецца вопытам нэўтральных краінаў (Швэцыя, Швэйцарыя ды інш.)

Успомнім кароткую гісторыю стварэньня беларускага войска. Яшчэ ў верасьні 1991 г. Вярхоўны Савет выявіў поўнае неразуменьне неабходнасьці стварэньня нацыянальных узброеных сілаў увогуле, адначасна не даючы ніякіх рэкамэндацыяў, што рабіць з савецкай арміяй на Беларусі. Гэта вынік невысокага палітычнага ўзроўню і дэфармаванай, неразьвітай нацыянальнай сьвядомасьці народных абраньнікаў. Тады, як выявілася, нават у савецкай арміі лепш разумелі пэрспэктыву стварэньня беларускага войска. Спатрэбілася шмат марна страчанага часу, пакуль абставіны, што разьвіваліся вакол Беларусі, не прымусілі Вярхоўны Савет прызнаваць патрабаваньні і прапановы Народнага Фронту і Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў, якое разгарнула дзейнасьць акурат у гэты час.

Асноўны клопат большыні вайскоўцаў савецкай арміі на Беларусі ў гэты «інкубацыйны» пэрыяд — матар'яльны інтарэс: што мне дадуць, калі я буду ў беларускім войску. Прайшоў час і ваенная намэнклятура, якая не дапускала і думкі пра беларускае войска, усьвядоміла, што выйсьця няма — беларускае войска будзе створана. Вось тут і пачаўся генэральскі ажыятаж. Барацьба за крэслы, за вакансіі, за пасады, за мейсцы ў Міністэрстве абароны і ў вайсковых структурах пры падтрымцы ўраду закончылася поўнай і ўсеагульнай перамогай савецкай намэнклятуры. Усе ўзброеныя сілы падпарадкавалі Саўміну, а ў Саўміне ўмацавалі кадрамі былых партначальнікаў і палітрукоў Упраўленьне грамадзкай бясьпекі і абароны, якое і пачало кіраваць Міністэрствам абароны, вызначаць кадравую палітыку ды іншыя пытаньні ў войску.

Палітычныя задачы, якія ажыцьцяўляе ў войску праз структуры Саўміну посткамуністычная намэнклятура, выкліканыя і акрэсьленыя, перш за ўсё, надыходам рэфэрэндуму. Праводзіцца тыпова камуністычная палітыка. Ураду патрэбнае войска, якое было б аднародным і паслухмяным на выпадак грубых неканстытуцыйных дзеяньняў з боку Саўміну ў выніку посьпеху рэфэрэндуму і паразы намэнклятуры на выбарах. Менавіта гэтымі матывамі выкліканая кампанія звальненьня ў запас афіцэраў-беларусаў, паслухмяна падтрыманая Міністэрствам абароны, і кампанія ганьбаваньня Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў.

Гісторыя пацьвердзіла, што каб захаваць і ўмацаваць сваю ўладу, камуністычная намэнклятура можа ахвяраваць жыцьцём мільёнаў людзей, культурай, нацыянальным дабрабытам, дзяржаўным сувэрэнітэтам, толькі б забясьпечыць сваё кіраваньне і свой дабрабыт. Яна па традыцыі прадажная, таму будзе змагацца за ўладу любымі сродкамі, абапіраючыся на чужую сілу і чужую палітыку.

**На прасторах Беларусі цяпер вольна дзейнічаюць разьведкі ўсяго сьвету, нават новаствораных дзяржаваў. Прыярытэтам карыстаецца расейскі КДБ і расейская разьведка, якая тут цалкам валодае становішчам, а нядаўна нават заключыла фармальнае пагадненьне аб супрацоўніцтве «ў сфэры зьнешняй разьведкі» з Камітэтам дзяржбясьпекі Беларусі.**

Падрыўная дзейнасьць расейскай разьведкі стала ўжо адчувацца ня толькі ў войску, але і ў працэсах нашага грамадзтва, асабліва ў прапагандзе. Не сумняваюся, што хутка гэтая падрыўная «праца» чужой разьведкі стане прадметам абмеркаваньня ў палітычных колах і нават прывядзе да адпаведных захадаў.

Правядзеньне сьвята беларускай вайсковай славы і грамадзкае прыняцьце прысягі 8-га верасьня гэтага года нанесла магутны удар па плянах ураду і чужой палітыкі на Беларусі адносна войска. Рэакцыя на сьвята часткі кіруючых генэралаў і залежных ад іх асобаў была нэрвовая, істэрычная і вельмі паказальная. Адразу ўсё выявілася — і антынацыянальная, антыдэмакратычная скіраванасьць найвышэйшых вайсковых структураў у Міністэрстве абароны і ў Саўміне, і махровы антыдэмакратызм старой вайсковай намэнклятуры, яе нянавісьць да незалежнасьці Беларусі, да беларускага адраджэнскага руху, да беларускай гісторыі, да ўсяго, што беларускае. Пасыпаліся розныя бязглуздыя звароты і прэтэнцыёзныя адкрытыя лісты. Справа дайшла нават да камічнага, калі былыя ваенныя палітрукі з сур'ёзным выглядам пачалі пісаць артыкулы пра беларускую гісторыю, бяздарна перапісваючы старыя камуністычныя фальсыфікаты. А Калегія Міністэрства абароны прыняла афіцыйны зварот, дзе назвала ўрачыстае грамадзкае прыняцьце зацьверджанай Вярхоўным Саветам прысягі на вернасьць дзяржаве і народу Беларусі «антыдзяржаўнай акцыяй». (Ня ведаю, ці сьведчыць гэта пра вялікую працу інтэлекту тых, хто такое склаў, тут хутчэй выяўленьне неадпаведнасьці занятым пасадам).

Калі падсумаваць і прааналізаваць тое, што толькі за верасень зробленае і напісанае вайсковай намэнклятурай, прыходзіш да высновы, што гэтым людзям абсалютна няма чаго рабіць у беларускім войску, ні ў цяперашнім, ні ў будучым. **Войска — гэта асобая дзяржаўная структура. Вайсковы афіцэр ня можа працаваць у войску і ненавідзець незалежнасьць дзяржавы, якой служыць, нацыянальную культуру і мову народа, што гэтае войска ўтрымлівае. Гэта ня толькі немаральна, гэта алягічна. Ня можа быць войска, дзе афіцэры не прыведзеныя да прысягі. Тым часам менавіта такое войска сьвядома створанае цяпер на Беларусі.**

Другое, што відаць з аналізу намэнклятурнай істэрыкі, гэта сэнс дэбеларусізацыі афіцэрскага корпусу беларускага войска. Чыноўнікі Саўміну і кіруючая частка былых савецкіх генэралаў на Беларусі хацелі стварыць за кошт Беларусі чужое войска, ня здольнае абараняць пры неабходнасьці сувэрэнітэт дзяржавы пры пагрозе з усходу. Падрыхтоўваліся падставы для ціхай акупацыі Беларусі, якая ўжо пачала ажыцьцяўляцца рукамі беларускага Савету Міністраў і захадамі расейскай дыпляматыі.

Гэтыя дзеяньні суадносяцца са зьнешнепалітычнымі захадамі ўраду. Згодна дакумэнтам, падпісаным 20 ліпеня ў Маскве, усе стратэгічныя войскі на Беларусі пераходзяць пад юрысдыкцыю Расейскай Фэдэрацыі не на 2 гады, як было папярэдне дамоўлена ў пагадненьнях СНД, а на 7 гадоў. Пры гэтым ніякай арэнднай платы за выкарыстаньне тэрыторыі, зямлі, палігонаў, аэрадромаў, за атручваньне прыроды і т.п. Беларусь атрымліваць ня будзе. Наадварот, сацыяльна-бытавое ўтрыманьне расейскага войска павінна будзе забясьпечваць нашая дзяржава. Ніякіх падаткаў за любыя вайсковыя транспартныя перавозкі Расея Беларусі выплачваць ня будзе. Адпаведна Беларусь ня можа ажыцьцяўляць кантроль за перамяшчэньнем расейскіх войскаў на беларускай тэрыторыі. Тым часам Расея згодна пагадненьням павінна мець поўны кантроль над разьвіцьцём і прадукцыяй беларускіх абарончых прадпрыемстваў аж да атрыманьня праектнай і тэхнічнай дакумэнтацыі. І ўжо зусім поўным абсурдам гучыць палажэньне аб тым, што грамадзяне Беларусі праходзяць абавязковую вайсковую службу ў расейскім войску. Тое, што гэта нечуванае глупства — яшчэ паўбяды. Цяжкія вынікі такога безгалоўя, бо згодна закону аб грамадзянстве людзі, што паступаюць на службу ў чужое войска, аўтаматычна трацяць грамадзянства Беларусі. Інакш як зьдзекам з нашай дзяржавы, з нашых законаў і з нашай нацыянальнай годнасьці гэтыя пагадненьні не назавеш. Аднак калі разглядаць іх у рэчышчы эгаістычнай палітыкі камуністычнай намэнклятуры, становіцца зразумелым, чаму так цынічна здраджваюцца нацыянальныя інтарэсы Беларусі.



Малюнак С. ХАРЭЎСКАГА

Маскоўскія пагадненьні 20 ліпеня, дзе чарговы раз былі праігнараваныя ранейшыя пагадненьні па СНД, канчаткова паказалі, што СНД ужо вычарпала свае магчымасьці і ператварылася ў зручную шырму і падставу для імпэрскай палітыкі Расеі і палітычнага націску на іншыя дзяржавы Садружнасьці. **Беларусі больш няма неабходнасьці заставацца ў СНД. Далейшае знаходжаньне ў гэтым фармальным утварэньні пагражае стратай ужо набытай незалежнасьці, не спрыяе вяртаньню ў цывілізаваную Эўропу. Выхад з СНД і поўны вывад расейскага войска зь Беларусі да 1994 г. — гэта патрэбы, якія становяцца на палітычны парадак дня.**

Аднак найважнейшай задачай застаецца стварэньне новага беларускага войска на аснове старой савецкай арміі. Фармальна для вайсковага будаўніцтва ўжо створаны першыя элемэнтарныя магчымасьці. Аднак стары намэнклятурна-вайсковы багаж, старыя камуністычныя хваробы і балячкі старога войска плюс неспрыяльныя дзеяньні намэнклятурнага ўраду, што змыкаюцца з палітыкай чужой дзяржавы, зводзяць на нішто ўсе гэтыя фармальныя ўмовы.

Акрамя таго, карупцыя і зладзейства, што панавалі ў савецкай арміі, цяпер шырока распаўсюдзіліся і дасягнулі незвычайных памераў. У сувязі з гэтым вельмі нізка ўпала мараль, дысцыпліна, годнасьць афіцэра. Адбылося зьмяшэньне маральнага і немаральнага. Нават лепшыя людзі здольныя дзеля добрых мэтаў карыстацца недастойнымі сродкамі, блытаючы маральныя памкненьні з адказнасьцю і маральнымі абавязкамі.

Аднак не наліваюць у старыя мяхі маладое віно. Змагацца з карупцыяй трэба будзе ня толькі законам, выкананьнем закону, але і кадравай палітыкай, і сыстэмай выхаваньня, і стварэньнем новых структураў, іншай сыстэмы кіраўніцтва і падпарадкаваньня. Старая савецкая армія, што цяпер раптам махрова разбуяла на Беларусі, павінна быць паступова зьліквідаваная, адначасна са стварэньнем на яе мейсцы і на яе аснове новага беларускага войска, сфармаванага на грамадзянскіх крытэрыях, без нацыянальнай розьні і камуністычна-расейскага шавінізму, вернага і адданага сваёй дзяржаве і народу, якому яно прыносіць прысягу, шануе яго культуру, мову, народныя здабыткі, не пагарджае яго працай.

**У мяне не выклікае ніякага сумненьня, што дзяржава не павінна вырашаць сацыяльныя праблемы тых вайскоўцаў і тых намэнклятурных генэралаў, якія, будучы ў беларускіх узброеных сілах, не прынялі вайсковай прысягі на вернасьць Беларусі, тых вайсковых асобаў, што зьневажаюць нашу дзяржаву, наш сьцяг і герб, наш народ, яго мову, гістарычныя і культурныя каштоўнасьці. Такія людзі выпадковыя ў войску.** Гэтыя палажэньні павінны быць адлюстраваныя ў законе аб сацыяльнай абароне вайскоўцаў, які трэба ўводзіць у дзеяньне толькі пасьля прыняцьця прысягі. Адданасьць дзяржаве, народу, ляяльнасьць да яго мовы і культуры павінна быць адлюстравана як абавязковае патрабаваньне ў законе аб войску.

Мяркую, што асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на вайсковых спэцыялістаў. Пры скарачэньні войска, яны павінны карыстацца прыярытэтам захаваньня на пасадах. Старыя камуністычныя палітрукі не павінныя весьці палітычна-выхаваўчую працу, ня ведаючы беларускай мовы, не прайшоўшы спэцыяльных адукацыйных курсаў перападрыхтоўкі і штогоднай атэстацыйнай камісіі на прафэсійную годнасьць.

Акрамя таго, некаторым службам і абслузе ў войску трэба **надаць цывільны статус. Тут будзе і эканомія сродкаў і захаваньне працоўных мейсцаў для вайскоўцаў.**

Міністэрства абароны, на маю думку, трэба перападпарадкаваць Вярхоўнаму Савету, каб пазьбегнуць канцэнтрацыі ўсіх сродкаў улады выключна ў руках Саўміну. Упраўленьне грамадзкай бясьпекі і абароны Савету Міністраў павінна быць зьліквідаванае з-за непатрэбнасьці. Гэта лішняя структура. Пытаньнямі бясьпекі і абароны абавязаныя займацца адпаведныя міністэрствы.

Вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на ваенныя вучэльні і на нармальнае гуманітарна-патрыятычнае выхаваньне вайсковай афіцэрскай зьмены. Не павінна беларуская вайсковая вучэльня называцца «суվораўскай». Гэта зьневажальна і ганебна. Вучэльню трэба рэфармаваць у вайсковы калегіюм імя Вялікага гетмана Канстанціна Астрожскага і спрыяць таму, каб адтуль выходзілі сапраўдныя сыны Бацькаўшчыны зь цьвёрдымі паняцьцямі пра беларускі афіцэрскі гонар і нацыянальную годнасьць.

Ствараючы нацыянальнае войска, трэба памятаць ня толькі пра забесьпячэньне гарантыяў нашага дзяржаўнага сувэрэнітэту, але і пра будучыню нацыі, пра яе духоўнае здароўе, бо праз войска праходзіць большасьць мужчынаў нашай дзяржавы, прытым у такім узросьце, калі фармуюцца жыцьцёвыя прыярытэты і ідэалы. Старая савецкая армія дзейнічала як малатарня, ламаючы душы маладых, і псавала маральнае і інтэлектуальнае здароўе грамадзтва ў цэлым. Беларускае войска ня можа быць такім. Яно павінна даць людзям большы, лепшы выбар, шырэйшыя магчымасьці для асобы, бяз фальшу і нянавісьці. Ёсьць краіны, дзе гэта дасягнута, і я ўпэўнены — так будзе і ў нас. Але ўсіх нас, усё грамадзтва чакае дзеля гэтага вялікая, цяжкая і мужная праца. Яна ажыцьцёвіцца, бо ўжо ёсьць людзі, што прысягнулі Беларусі сэрцам і здольныя пастаяць за Радзіму і за сябе.

Гэты артыкул — скарочаны варыянт дакладу З.Пазьняка на соймавай канфэрэнцыі БНФ па вайсковых пытаньнях 25 верасьня 1992г.

Аляксандар СТАРЫКЕВІЧ

# ПЯТАЯ

**Надышоў час падвесьці вынікі. Па неафіцыйных ацэнках спэцыялістаў з праваахоўных органаў Беларусь зьяўляецца самай карумпаванай сярод былых савецкіх рэспублік, пераўзыйшоўшы ў гэтым нават Узбэкістан. Вядома, з такою высноваю можна спрачацца, бо не існуе прыбору, пры дапамозе якога можна вызначыць узровень карупцыі. Рэч нават ня ў тым, якое месца мы займаем: першае ці дзесятае, — праблемы гэта не здымае.**

## Што маю — тым гандлюю

У стварэньні дэфіцыту, як вядома, найперш зацікаўлены тыя, хто яго разьмяркоўвае. Намацалі сваю залатую жылу і ў Міністэрстве замежных справаў. Канкурэнцыя паміж тымі, хто б хацеў атрымаць замежныя пашпарты дазволіла службоўцам МЗС выбіраць сярод іх найбольш карысных кліентаў. Ашчасьліўленыя разьлічваліся альбо наяўнымі, альбо паслугамі ў вадказ. І пакуль звычайныя грамадзяне праводзілі дні ў чэргах, імкнучыся атрымаць запаветную кніжыцу, некаторыя выносілі іх праз «чорны выхад» стосамі.

Замежныя пашпарты сталі звычайным таварам, і кошт іх залежаў ня толькі ад інфляцыі, але і ад ступені незадаволенасьці попыту. Рынак замежных пашпартоў дзейнічаў бесьперапынна, пакуль прадпрымальнікамі зь Міністэрства замежных справаў не зацікавілася міліцыя. Спыніць скандал у зародку не ўдалося, бо інфармацыя пра афэрыстаў трапіла ў прэсу.

Не ўзбуджаць крымінальнае справы было ўжо нельга. Таму міліцыі далі адносную свабоду дзеяньняў. Але адначасова быў уключаны мэханізм ліквідацыі «інтрыгаў» МУС. І праз некаторы час матар'ялы расьсьледаваньня перанесьліся зь Міністэрства ўнутраных справаў у менскую гарадзкую пракуратуру. Тым часам цікавасьць прэсы і грамадзкасьці да гэтай гісторыі паменшылася, бо ўсе пераканаліся, што гандаль пашпартамі — гэткая ж звычайная справа, як і продаж газіроўкі на вуліцах сталіцы. Такім чынам, палова справы была зробленая — цяпер барацьба за свабоду і бясьпеку службоўцаў МЗС працягвалася на ўзроўні ведамстваў. Да пахаваньня справы падключыліся ўплывовыя асобы з кіраўніцтва МЗС. У выніку — пракуратура спыніла крымінальную справу па прычыне «адсутнасьці складу злачынства». Сьледзтва скончанае, забудзьце!

Практыка паказала, што шум, узьняты міліцыяй, не пайшоў на карысьць МЗСу. Пазьней «засьвяціўся» першы сакратар аддзела міжнародных арганізацый Вычагжанін. Ягоны знаёмы зь фірмы «Орион» Юцкевіч зьвярнуўся з просьбай хутчэй выдаць пашпарты па заяўцы гэтага прадпрыемства. Вычагжанін згадзіўся, але ў якасьці ўмовы патрабаваў уключыць у сьпіс сваю знаёмую Чапскую. «Орион» перарабіў дакумэнт, а таксама заплаціў за Чапскую мыта за афармленьне замежнага пашпарта. А тыя 290 рублёў, што перадала Чапская Вычагжаніну як плату за мыта, так і засталіся ў яго — відаць, як плата за паслугу. Рэч, зразумела, ня ў суме, а ў самім факце.

У выніку міліцыя, навучаная горкім досьведам, толькі квола канстатавала, што Вычагжанін і Юцкевіч учынілі злачынства. Але, прыняўшы да ўвагі шчырае пакаяньне, прапанавалі пракуратуры не ўзбуджаць крымінальную справу, а накіраваць матар'ялы для разгляду ў таварыскі суд. Нават калі ўлічыць, што Вычагжанін добраахвотна (?) выдаў грошы, гэтае рашэньне МУС выглядае даволі дзіўна. Як судзілі б таварышы Вычагжаніна, можна толькі здагадвацца, калі пачытаць дасланую міліцыі характарыстыку на першага сакратара. Акрамя звычайных дыфірамбаў, калегі вельмі дарэчы паведамілі, што Вычагжанін неаднаразова ўдзельнічаў у міжнародных паседжаньнях па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю і тэрарызмам. Але магчымасьці сурова асудзіць Вычагжаніна ім не далі: першы намесьнік Пракурора Беларусі Уладзімер Кандрацьеў не пагадзіўся зь Міністэрствам унутраных справаў. На ягоную думку, дзеяньні супрацоўніка МЗСу не былі злачынствам. Нармальна, таварыш пракурор!

Некаторыя супрацоўнікі міліцыі выказваюць думку, што дэфіцыт замежных пашпартоў быў створаны МЗСам наўмысна дзеля вядомых мэтаў. Навогул стварэньне штучнага дэфіцыту — адзін з улюбёных прыёмаў чынавенства. Бо за тавар з-пад прылаўка заўсёды больш плацяць.

## Ліцэнзія на хабар

У канцы 1990 года беларускі парлямант прыняў Закон «Аб часовых мерах па абароне спажывецкага рынку». Для вывазу з рэспублікі пэўных тавараў трэба атрымаць ліцэнзію ў Міністэрстве гандлю, Дзяржснабе ці аблвыканкаме. Кантрабанда каралася штрафам і канфіскацыяй тавару. Таму большасьць «экспарцёраў» зразумела, што жартаваць з законам — сабе даражэй, і яны накіраваліся па вышэйназваных адрасах. А там сядзелі людзі, якіх Вярхоўны Савет нечакана надзяліў амаль царскімі правамі: караць альбо міласаваць. Іх дзеяньні па выдачы (ці нявыдачы) ліцэнзіі нічым не рэглямэнтаваліся і практычна не маглі быць абскарджаныя. Грэх было не скарыстаць з гэтага.

Пакуль у інстанцыях штампавалі ліцэнзіі, міліцыя, заўважыўшы рэзкае зьмяншэньне плыні кантрабанды, зацікавілася прычынамі гэтай зьявы і вырашыла праверыць законнасьць выдачы дазволаў на вываз.

Коратка пра вынікі праверкі. Вось сьпіс чыноўнікаў, на якіх былі складзены адміністратыўныя пратаколы за парушэньне Закона «Аб часовых мерах...»:

— намесьнікі старшыні Віцебскага аблвыканкаму Палейка, Цацоха, Драздоў,

— намесьнікі старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму Гіруць, Сіманаў, Кардаш,

— намесьнікі старшыні Берасьцейскага аблвыканкаму Лемяшэўскі, Вайцешык,

— намесьнікі старшыні Гомельскага аблвыканкаму Касьцючэнка, Пракапенка, кіраўнік справамі выканкаму Ганчар,

— намесьнік старшыні Магілёўскага аблвыканкаму Бацукоў,

— намесьнік старшыні Менгарвыканкаму Лях,

— намесьнік старшыні Дзяржснаба Беларусі Цыганкоў,

— намесьнікі міністра гандлю Беларусі Крывеня, Краўчанка.

Аднак ніхто зь іх да адміністратыўнай адказнасьці прыцягнены ня быў. У якасьці прычын для спыненьня справы суды называлі «вытворчую неабходнасьць», «адсутнасьць шкодных вынікаў», «эканамічную мэтазгоднасьць зьдзелак», а то і проста адсутнасьць у дзеяньнях чыноўнікаў прыкметаў правапарушэньня, ці навогул без усялякіх тлумачэньняў. Нярэдка народныя судзьдзі наўмысна зацягвалі разгляд спраў і па заканчэньні тэрмінаў абвяшчалі аб спыненьні разбору па гэтай жа прычыне. Генэральны пракурор Беларусі М.Ігнатовіч у інфармацыі, накіраванай у Вярхоўны Савет, паведамляў, што ў большасьці выпадкаў судзьдзі дзейнічалі незаконна. Але цягнік ужо паехаў.

Асабліва абуральнай зьяўляецца гісторыя з Краўчанкам. Каб выратаваць яго, Савет Міністраў прыняў нават спэцыяльную пастанову, якою адмяніў адказнасьць за незаконную выдачу ліцэнзій. Просьценька і з густам!

Наколькі сур'ёзныя страты эканоміцы рэспублікі былі нанесены дзеяньнямі вышэйзгаданых спадароў, мяркуйце самі. Адзін толькі Краўчанка незаконна выдаў некалькі дзесяткаў ліцэнзій. Прыкрываючыся эканамічнай мэтазгоднасьцю, «экспарцёры» заключалі ліпавыя дамовы на бартэр, якія ніхто не зьбіраўся выконваць. Напрыклад, за вывезеныя з рэспублікі 100 тон масла і вялікую колькасьць цыгарэтаў (ліцэнзія выдадзена Цыганковым) камэрцыйны цэнтр Гродна-оптгандлю атрымаў пару цэнтнэраў гнілых цукерак і некалькі скрынак падазронай бурды, якую ў народзе называюць «чарнілам». А за імпартовую туалетную ваду на 16 мільёнаў рублёў у Віцебскую вобласьць не паступіла навогул нічога.

Зразумела, што чыноўнікі ідуць на парушэньне закону ня з чыстай філянтропіі. Мне ўдалося пагаварыць з адным армянскім бізнэсмэнам, які вывозіў з рэспублікі скуру. За дзесяць хвілін да таго, як наняты ім самалёт узяў курс на Ерэван, прадпрымальнік, ня тоячыся, распавёў, што за ліцэнзію ён заплаціў у вадным зь вядомых ведамств 78 тысяч рублёў. Гэта было ўлетку мінулага года, а цяпер стаўкі, верагодна, значна вырасьлі.

## Гарэлка сапсавала рэпутацыю

Пра гісторыю з гарэлкай, прададзенай з рэспубліканскага фонду стабілізацыі фірме «Зенит», апошнім часам шмат пісалася. На жаль, значная частка айсбэрга ўсё яшчэ застаецца нябачнай. Паспрабую збольшага праясьніць сытуацыю.

Дык вось, напярэдадні апошняга падаражэньня гарэлкі фірма «Зенит», якую заснаваў і ўзначаліў Мар'ян Місуна — апошні першы сакратар Менскага гаркаму КПБ, набыла па дзяржкошце паўмільёна пляшак запаветнага напою і падрыхтавалася купіць яшчэ столькі ж. Падставай для такога шчодрага падарунка стаў ліст намесьніка Старшыні Савету Міністраў Мікалая Косьцікава. За сьпіртное рэспубліка быццам бы павінна была атрымаць у першачарговым парадку нафту ад маскоўскага АТ «Нефтегаз».

Аднак у самы непадыходзячы момант зьвесткі пра гэты бізнэс дайшлі да Міністэрства ўнутраных справаў і газэты «Коммерсантъ». Міліцыя выклала інфармацыю Саўміну, а «Коммерсантъ» паведаміў пра падазроную зьдзелку сваім чытачам.

Калі б гэтыя зьвесткі ня трапілі ў прэсу, у Саўміне хутчэй за ўсё прынялі б інфармацыю МУС «да ведама» і пасьпяхова пахавалі б гэтую гісторыю. Зрэшты, лёгкі рэзананс, выкліканы нататкаю ў «Коммерсанте», хутчэй за ўсё закончыўся б нічым. Але ва ўрадзе дужа пераацанілі небясьпеку, а таксама — уласныя сілы. Нанесьці ўдар у вадказ было вырашана таксама праз прэсу, але не праз саўмінаўскую (зразумела, чаму), а з дапамогай такога незалежнага выданьня, як «Народная газета».

Аргумэнты «НГ» (і Саўміну) зводзяцца да наступнага: 1) зьдзелка выгадная рэспубліцы; 2) Косьцікаў нічога ня ведаў аб пасярэдніцтве «Зенита»; 3) юрысты Саўміну не знайшлі ў дзеяньнях Косьцікава крыміналу; 4) карэспандэнт «Коммерсанта» — правакатар Міністэрства ўнутраных справаў.

Два апошнія пункты пакіну без камэнтароў: яны адзін аднаго вартыя. Што ж датычыць эканамічнай мэтазгоднасьці, паведамлю: ні аднаго літра нафтапрадуктаў па пратаколе ад 24 красавіка з АТ «Нефтегаз», на які спасылаюцца абаронцы Косьцікава, рэспубліка не атрымала. І не атрымае. «Нефтегаз» ня будзе нічога пастаўляць у рэспубліку, бо гэты пратакол без канкрэтных кантрактаў, а яны падпісаныя не былі — пустая паперка. Косьцікаў ня мог гэтага ня ведаць.

Да пытаньня пра дачыненьні Косьцікава зь «Зенитам». Сапраўды, у лісьце ад 8 траўня, у якім ён распарадзіўся выдзеліць гарэлку, пра фірму Місуны няма ні слова. Прадстаўніком «Нефтегаза» ў Беларусі зьяўляецца фірма «Эксинвест». А «Зенит» зрабіўся пасярэднікам вельмі цікавым шляхам. Яго прадстаўнікі прыехалі ў АТ «Нефтегаз», маючы на руках вышэйзгаданы ліст Косьцікава. Запэўніўшы масквічоў, што гэтая папера гарантуе атрыманьне гарэлкі, «зенітаўцы» і заключылі з АТ дамову аб пасярэдніцтве. Мне чамусьці здаецца, што ліст яны наўрад ці знайшлі на вуліцы. Больш верагодна, што ён быў атрыманы ў Саўміне.

Калі ўлічыць, што гарэлку «Зенит» пачаў прадаваць каму заўгодна, толькі не «Нефтегазу», можна зрабіць выснову, што маскоўскае АТ — проста «трэці лішні». Пратакол з «Нефтегазам» быў выкарыстаны ў якасьці прыкрыцьця для продажу гарэлкі «Зениту». І гаворка тут павінна ісьці не пра выпадковую памылку, а загадзя сплянаваную акцыю па перакачцы сродкаў зь дзяржаўнай кішэні ў васабістую.

Артыкул ў «НГ» быў накіраваны галоўным чынам супраць міністра ўнутраных справаў Ягорава. Саўмін выбраў вядомую тактыку: найлепшая абарона — напад. Аднак спроба паставіць Ягорава на мейсца не ўдалася: у торбе цяжка схаваць нават шыла, ня кажучы ўжо пра вялізны дрын. Скандал, які быў разьдзьмуты Саўмінам, вярнуўся да яго бумэрангам: некалькі рэспубліканскіх выданьняў напісалі пра сапраўдны ход падзей. Цяпер намесьнік прэм'ера пайшоў у глухую абарону і называе гэтую гісторыю «безобразием». Прыемна, што на працягу месяца гарэлачная афёра зрабіла ў вачах Косьцікава шлях ад нармальнага бізнэсу да «безобразия», але далей лёгкай самакрытыкі ён чамусьці не пайшоў.

Чаму аглядальнік «НГ» Майсеня стаў на абарону Косьцікава — зразумела. Намесьнік старшыні Савета Міністраў актыўна супрацоўнічае (трэба думаць, у вольны ад службы час) з Цэнтрам стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад», прэзыдэнтам якога Майсеня зьяўляецца. Ёсьць у Майсені і асабістыя рахункі зь міліцыяй: яшчэ на памяці гісторыя зь яго затрыманьнем у нецьвярозым стане пры спробе прайсьці ў вадзін зь менскіх гатэляў...

Сёньня цяжка сказаць, чым усё гэта скончыцца. Вядома толькі, што адзін з найбольш уплывовых кланаў ва ўрадзе спрабуе выкарыстаць гарэлачную гісторыю для зьмяшчэньня Косьцікава. Але трывалая сувязь Кебіч—Косьцікаў, якая існуе з часоў іх сумеснай працы на заводзе імя Кірава, дазваляе намесьніку прэм'ера спадзявацца на пасьпяховы вынік. Тым больш, зусім нядаўна Вячаслаў Францавіч зацьвердзіў склад камісіі па выдачы ліцэнзіяў на экспарт. Старшынёй камісіі прызначаны Косьцікаў, у склад яе ўваходзяць таксама вышэйзгаданыя Краўчанка і Цыганкоў. Вельмі шчыры крок. Амаль як у той байцы пра казлоў, якіх паставілі пільнаваць капусту.

## «Синтез» улады і камэрцыі

Абсалютная большасьць нашых чыноўнікаў сярэдняга і вышэйшага рангу ў той ці іншай ступені супрацоўнічае з камэрцыйнымі структурамі. Імёны некаторых зь іх час ад часу зьяўляюцца ў прэсе. Але выпадак зь першым намесьнікам Старшыні ВС Вячаславам Кузьняцовым зьяўляецца ўнікальным: звычайна пэрсоны такога ўзроўню завязаныя на камэрцыйныя прадпрыемствы праз сваякоў альбо давераных асобаў.

У кастрычніку 1990 г. Савецкі райвыканкам разам з выдавецтвам ЦК КПБ (пазьней да іх далучылася МП «Мирта») заснаваў акцыянэрнае таварыства «Синтез». Узяўшы ў арэнду памяшканьне плошчай 600 квадратных мэтраў па цане 25 капеек за мэтр у месяц, АТ, у статуце якога запісана разнастайная дзейнасьць на карысьць рэспублікі, пачало працаваць. Асноўным заняткам «Синтеза» стала скупка і продаж тавараў. Практыка паказвае: пасярэдніцкія прадпрыемствы, каб набыць тавар таньней, часта выкарыстоўваюць асабістыя сувязі і службовае становішча зацікаўленых у іх квітненьні службовых асоб. Да адной з такіх кантор, парушаючы закон «Аб прадпрымальніцтве», меў дачыненьне і сп.Кузьняцоў, пра што паведаміў «Коммерсантъ».

Рэакцыя была хуткай. Праз беларускую афіцыйную прэсу Кузьняцоў накінуўся на «Коммерсантъ» і на мяне як аўтара нататкі. Паспрабуем разабрацца наколькі пераканаўчыя ягоныя апраўданьні.

Кузьняцоў лічыць, што закона ён не парушаў, таму што не займаўся камэрцыяй, а быў прыстаўлены Савецкім райвыканкамам для таго, каб мець магчымасьць уплываць на дзейнасьць АТ. Акрамя таго, «Синтез» быў заснаваны да прыняцьця закона «Аб прадпрымальніцтве». На жаль, прыходзіцца тлумачыць першаму намесьніку Старшыні ВС тое, што ведае кожны юрыст: у паняцьце камэрцыйнай дзейнасьці

# КАЛЁНА

**ўваходзіць займаньне любой пасады ў камэрцыйных структурах. Да прыняцьця беларускага закона дзейнічалі адпаведныя саюзныя дакумэнты, якія забаранялі такое сумяшчальніцтва. І дарэчы, чаму пасьля таго, як Закон РБ пачаў дзейнічаць, Кузьняцоў ня выйшаў з праўленьня «Синтеза»? У лісьце ў «Коммерсантъ» Кузьняцоў заявіў, што навогул ніколі не займаў пасадаў у АТ «Синтез». Пракуратура РБ, зрабіўшы выгляд, што правяла праверку па дадзеным факце, заявіла: у «Синтезе» навогул няма праўленьня (?). Але зьвернемся да слоў самога Кузьняцова ("Звязда", 25.08.92): «Як старшыня райвыканкаму, я быў уключаны ў лік членаў праўленьня». Дык навошта гэтая мана і на каго яна разьлічаная? Дарэчы, Кузьняцоў быў не адзіным прадстаўніком Савецкага райвыканкаму ў праўленьні «Синтеза», так што спасылкі на неабходнасьць кантролю за дзейнасьцю АТ таксама ня маюць пад сабой падставы.**

**Тая ж самая пракуратура выявіла невядома зь якіх крыніц, што Кузьняцоў пакінуў «Синтез» 13 красавіка, праз тры тыдні пасьля абраньня на сёньняшнюю пасаду. Але гэтая дата выглядае сумнеўна. У сваім выступленьні ў «Звяздзе» сп.Кузьняцоў чамусьці не сказаў пра гэта ні слова. Таму, што не надаў значэньня, ці таму, што яшчэ ня ведаў якой датай афармяць ягоны адыход? Адказаць на гэтае пытаньне магло б сур'ёзнае расьсьледаваньне і экспэртыза дакумэнтаў «Синтеза». Але нават калі паверыць сьцьверджэньню пракуратуры, у галаву прыходзяць цікавыя аналёгіі: паспрабаваў бы Дэн Кўэйл хаця б паўгадзіны пабыць сябрам управы любой фірмы. На наступны дзень яны б на пару з Бушам рыхтаваліся пакінуць Белы дом.**

**Кузьняцоў сьцьвярджае, што не атрымліваў ад «Синтеза» матар'яльнае ўзнагароды. Аднак па выніках дзейнасьці першага квартала паміж шасьцю членамі праўленьня АТ было разьмеркавана 117 тысяч рублёў. Зьвестак, што нехта зь іх адмовіўся ад сваёй часткі, ня маю.**

**Да пытаньня пра сам «Синтез». Савецкі райвыканкам уклаў у яго 1 млн. руб. і ў 1991 г. атрымаў 1 млн. 300 тыс. руб. Вельмі круты бізнэс! Асабліва, калі ўлічыць, што грошы ва ўстаўны фонд унёс толькі выканкам, а іншыя заснавальнікі свой унёсак зрабілі ў выглядзе «камэрцыйнай інфармацыі». Не ўпрыгожвае сп.Кузьняцова і ягоная спроба абвергнуць факт прыходу на адрас АТ «Синтез» кантрабандай 234 відэомагнітафонаў, што пацьвярджваецца адпаведнымі дакумэнтамі.**

**Карацей, застаюцца адкрытымі шмат пытаньняў. Але Старшыня ВС Станіслаў Шушкевіч у вадказ на дэпутацкае запытаньне Сяргея Антончыка (ён настойваў стварыць камісію для расьсьледаваньня вышэйзгаданых фактаў) даслаў дэпутату лісты Кузьняцова «Коммерсанту» і «Добраму вечару».**

**Калі закон ня пісаны для кіраўнікоў дзяржавы, ці можна гаварыць аб выкананьні яго шэраговымі чыноўнікамі? Апякунства высокапастаўленых асоб над «сваімі» камэрцыйнымі структурамі набывае памер эпідэміі. Тым больш, ім няма неабходнасьці займацца камэрцыйнай дзейнасьцю ў прамым сэнсе гэтага слова: службовае становішча на тое і існуе, каб ім карыстацца.**

## Цяпліца для карупцыі

Усё вышэйапісанае — гэта яшчэ дробязі ў параўнаньні з буйнымі фінансавымі махінацыямі членаў беларускага ўраду. Аднак неабходна адзначыць, што ажыцьцяўленьне прымітыўных апэрацыяў патрабуе значна меншых намаганьняў. Часцей за ўсё яны выкарыстоўваюцца для хуткага ўзбагачэньня, тым часам як буйныя афёры складаюцца зь некалькіх этапаў: іх удзельнікі атрымліваюць грошы не адразу, затое абсалютна «чыстыя».

Арганізаваная злачыннасьць на Беларусі — гэта, у першую чаргу, групоўкі, якія выкарыстоўваюць у сваёй дзейнасьці магчымасьці дзяржаўнага апарату. Сюды ўваходзяць супрацоўнікі розных дзяржаўных структураў, якія пры дапамозе асабістых і службовых сувязяў утварылі даволі дасканалую сыстэму. Каркасам для яе стварэньня сталі структуры выканаўчай улады, пранізаныя мэтастазамі карупцыі ад нізу да верху. Сёньня назіраецца ўжо не эпізадычнае хабарніцтва чыноўнікаў, а сыстэматычная злачынная дзейнасьць гэтых груповак.

Асноўнымі характарыстыкамі арганізаванае злачыннасьці зьяўляюцца: 1) наўмысныя, пляванаваныя наперад злачынныя паводзіны; 2) змова аб злачыннай дзейнасьці сталага характару; 3) ерархічная сыстэма ўзаемаадносін, разьмежаваньне злачынных роляў; 4) устойлівы характар злачынных груп; 5) мэтанакіраваная распрацоўка сродкаў абароны ад выкрыцьця і прыцягваньня да адказнасьці злачынцаў. Усе гэтыя прыкметы ўласьцівыя беларускай карупцыі. Больш таго, для яе гэта ўжо пройдзены этап. Сёньня магутны сындыкат кантралюе практычна ўсе сфэры жыцьця грамадзтва. Гэтаму спрыяе тое, што ўвесь час пашыраецца кола пытаньняў, вырашэньне якіх афіцыйна знаходзіцца ў кампэтэнцыі дзяржавы, а рэальна залежыць ад канкрэтнага службоўца. Бясьпека гарантуецца законамі, якія яны ж самі і пішуць.

Чаму менавіта на Беларусі карупцыя гэтак цесна зраслася з выканаўчай уладай і выйшла на ўзровень першых асоб дзяржавы? Прычын шмат, але галоўная, на мой погляд, заключаецца ў тым, што і прынцып падзелу ўладаў у нас па-ранейшаму існуе толькі дэкляратыўна.

Можна доўга спрачацца аб тым, якія паўнамоцтвы дэ-юрэ мае Вярхоўны Савет альбо Вярхоўны Суд, але факты сьведчаць, што выканаўчая ўлада падпарадкавала сабе ўсе астатнія. Пераход улады ад ЦК КПБ да Савета Міністраў, дзякуючы путчу, закончыўся даволі хутка. Прыклаўшы мінімум намаганьняў, урад прыбраў да рук амаль усе рычагі, створаныя камуністамі. Дзіўнае супадзеньне: асноўная маса былых партыйных функцыянэраў адразу ж апынулася ў структурах выканаўчай улады. Саўміну заставалася адшліфаваць ужо ўстаноўленыя адносіны з падначаленымі.

ЗАКАНАДАЎЧАЯ ЎЛАДА. Яшчэ да жнівеньскіх падзей Саўмін змог стварыць у парляманце дастаткова ўплывовае ўрадавае лобі, якое саступала па сіле хіба што камуністычнаму. Зрэшты, падзел на камуністаў і саўмінаўцаў у дадзеным выпадку вельмі ўмоўны, бо мэты адных і другіх прыблізна супадалі. Пасьля прыпыненьня дзейнасьці кампартыі гэтыя групоўкі зьліліся, і ў выніку парлямант трапіў пад непадзельны кантроль ураду. Саўмін хуценька замацаваў посьпех: паступова на працу ў структуры выканаўчай улады перабраліся больш за 90 парлямантарыяў, што навогул зьяўляецца нонсэнсам у сусьветнай практыцы. Натуральна, што падвязаць увесь дэпутацкі корпус немагчыма, але гэта ня дужа й патрэбна. Дастаткова таго, што зараз урад мае магчымасьць прыняць альбо праваліць рукамі Вярхоўнага Савету практычна любое рашэньне.

СУДОВАЯ ЎЛАДА. На адной з апошніх прэс-канфэрэнцый намесьнік Старшыні ВС Беларусі Васіль Шаладонаў прызнаўся, што «ў нас ніколі не існавала заканадаўчай базы для судовай улады». Сапраўды, суды, якія атрымліваюць сродкі на жыцьцё з рук Саўміну, прывязаны да яго ў неабходнай ступені. Гэта зусім не азначае, што ўсе альбо большасьць судзьдзяў гатовыя пісаць судовае рашэньне пад дыктоўку Саўміну. Але справы, якія тычацца інтарэсаў прадстаўнікоў выканаўчай улады, трапляюць на стол не да сумленных судзьдзяў, а да тых, хто працуе па прынцыпе «чаго пажадаеце?» Дарэчы, аналягічная сытуацыя склалася і ў пракуратуры. Цяжкая хвароба не дазволіла новаму Генэральнаму пракурору Мікалаю Ігнатовічу зьмяніць становішча.

«ЧАЦЬВЕРТАЯ ЎЛАДА». Беларуская прэса ёю ніколі не была і ў бліжэйшы час наўрад ці стане. Створаны кампартыяй магутны прапагандысцкі апарат служыць новаму гаспадару. Саўмін удасканаліў адносіны з прэсай: не спадзеючыся пераканаць газэты ў сваіх добрых намерах, ён проста скупіў газэты. Дастаткова сказаць, што «Народная газета», якая лічыць сябе органам Вярхоўнага Савету, толькі за першае паўгодзьдзе атрымала з рук Саўміну больш за 20 мільёнаў рублёў.

Незалежнасьць значна лягчэй страціць, чым вярнуць. Урад упэўнены, што пагроза фінансавага голаду прымусіць прэсу быць ляяльнай да «карміцеля». Саўмін, дарэчы, не выстаўляе занадта вялікіх патрабаваньняў прыручаным газэтам: ім нават дазваляецца час ад часу падкладаць кнопкі на гаспадарскае крэсла. Галоўнае, каб прэса выконвала дзьве асноўныя задачы: праводзіла ў грамадзтва «канструктыўную» палітыку ўрада і сачыла, каб ворагі замест кнопкі не падсунулі нешта больш істотнае.

Падзелу уладаў дэ-факта на Беларусі не існуе, і таму ні пра які кантроль адной за другой ня можа быць і гаворкі. Рэальная ўлада сканцэнтраваная ў руках улады выканаўчай, што якраз і падымае цану яе прадстаўнікоў. Цікава, што ўрад спадзяецца, відаць, замацаваць такое становішча ў Канстытуцыі. Невыпадкова на першай паласе саўмінаўскай газэты зьявіліся распрацоўкі юрыста Анатоля Уласава, які спрабуе пераканаць публіку, што любы падзел уладаў ёсьць безуладзьдзе, і таму нельга гэтага дапускаць. Праўда, Уласаў не ўдакладніў, як у такім выпадку будзе называцца кіраўнік дзяржавы: прэм'ер-міністр ці цар-бацюхна. Усё гэта было б сьмешна, калі б не было так сумна...

У цывілізаваных краінах, дзе ўрад зацікаўлены ў чысьціні сваіх шэрагаў, у дачыненьні да дзяржаўных службоўцаў дзейнічае нешта накшталт прэзумпцыі вінаватасьці. Чыноўнік, які замешаны ў сумнеўнай гісторыі, абавязаны даказаць сваю незаплямленасьць. У адваротным выпадку — адстаўка. І гэта нармальна, бо якімі б добрымі ні былі законы, чыноўнік заўсёды мае магчымасьць іх абмінуць. У нас жа скампрамэтаваных дзеячоў ратуюць усімі магчымымі і немагчымымі сродкамі. Толькі зрэдку для стварэньня бачнасьці барацьбы з карупцыяй на алтар грамадзкай думкі кідаецца апальны чыноўнік. Гаварыць пра кантроль з боку апазыцыі альбо выбаршчыкаў таксама ня варта: яны пакуль ня маюць рэальнай магчымасьці ўплываць на стан справаў. Раней, хоць і чыста фармальна, функцыі нагляду выконвала Масква, але пасьля абвяшчэньня рэспублікай суверэнітэту самы час абвясьціць новы лёзунг: «Няма Бога акрамя алаха, і прэм'ер-міністр — ягоны прарок».

Адзіная перашкода для Саўміну — праваахоўныя органы. Толькі МУС і КДБ час ад часу назаляюць карумпаваным дзеячам. Менавіта таму вядзецца іх мэтанакіраваны развал. У выніку многія кваліфікаваныя спэцыялісты ўжо пайшлі з пракуратуры, КДБ, МУС у камэрцыйныя структуры. Раўназначнай замены ім няма. Калі ў найбліжэйшы час становішча ня зьменіцца — прафэсіяналаў у органах застануцца адзінкі.

МІНІСТЭРСТВА ЎНУТРАНЫХ СПРАВАЎ. Адна з галоўных вартасьцяў (а на думку Саўміну — хібаў) міністра Уладзімера Ягорава заключаецца ў тым, што ён не абмяжоўвае дзейнасьць сваіх падначаленых пэўнымі рамкамі. Умяшаньне апэратыўнікаў у махінацыі высокапастаўленых чыноўнікаў у вапошні час, на думку Саўміну, перайшло ўсе дапушчальныя межы. Ужо неаднаразова прадпрымаліся спробы замяніць Ягорава сваім чалавекам, але міністр пакуль што ня даў падставы для свайго зьмяшчэньня. Затое Саўміну ўдалося разваліць адно з самых дзеяздольных падразьдзяленьняў, створанае яшчэ па ініцыятыве МУС СССР, — упраўленьне па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю і карупцыяй. Такая структура, праўда, і да сёньняшняга дня існуе ў МУС, але ў яе адабралі сьледзтва, а пад час апошняга скарачэньня штатаў паменшылі амаль на 100 чалавек. На жаль, сярод міліцыі таксама хапае карумпаваных супрацоўнікаў, што ня можа не адбіцца на выніках яе дзейнасьці. У цэлым МУС у цяперашніх умовах няздольны весьці сур'ёзную барацьбу супраць карумпаваных дзеячоў, але асобныя яго ўдары бываюць даволі трапныя.

КАМІТЭТ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСЬПЕКІ. Ведамства, якое пры належных умовах магло б нанесьці па беларускай карупцыі сакрушальны ўдар. Але выступіць супраць яе ў вадзіночку КДБ не рашаецца. Ягонае кіраўніцтва, аналізуючы ўсе магчымыя варыянты разьвіцьця падзеяў, сёньня балансуе паміж урадам і Апазыцыяй, маючы жаданьне пры любым раскладзе аказацца ў выйгрышы. Больш таго, менавіта КДБ можа стаць той сілай, якая вырашыць вынік барацьбы за ўладу на карысьць аднаго з бакоў.

Тым часам прыхільнікі Шыркоўскага з Саўміну, якія цудоўна разумеюць, што ў нетрах ягонага ведамства копіцца інфармацыя выбуховага характару, робяць усё магчымае, каб падпарадкаваць дзяржбясьпеку сабе. У сьнежні мінулага года, падчас стварэньня ў Расеі МБУС, адзін з нашых высокапастаўленых заканадаўцаў, хадзіў да Станіслава Шушкевіча з прапановаю аб'яднаць МУС і КДБ, а на пасаду кіраўніка новай структуры сьціпла прапанаваў сябе. Такім ударам адразу забівалася некалькі зайцаў: прыбіраліся Ягораў і Шыркоўскі, якія не карысталіся асаблівай папулярнасьцю ва ўрадзе, а іхнія ведамствы траплялі пад поўны кантроль Саўміну. Не атрымалася. Зараз камісія Мечыслава Грыба рыхтуе праект закона аб дзяржбясьпецы, згодна зь якім яна павінна вярнуцца ў сям'ю, гэта значыцца, пад юрысдыкцыю Саўміну. Відаць, Грыб забыўся, што менш за год таму пад час хістаньняў ва ўрадзе Вярхоўны Савет забраў КДБ з падначаленьня Саўміну і відаць не для таго, каб праз некалькі месяцаў вярнуць. Асаблівая прыхільнасьць старшыні камісіі па барацьбе са злачыннасьцю да дзяржбясьпекі праяўляецца ўвесь час: у адным з сваіх інтэрвію Грыб заявіў, што КДБ не павінен займацца арганізаванай злачыннасьцю і карупцыяй — гэта, маўляў, прэрагатыва міліцыі. Каму і навошта выгадна манаполія МУС у гэтых сфэрах, тлумачыць ня трэба.

Адной з найбольш сур'ёзных перашкод у барацьбе з карупцыяй зьяўляецца недасканаласьць заканадаўства. Цяперашні Крымінальны кодэкс безнадзейна састарэў. Хабар, які даўно стаў у нас нацыянальным відам спорту, звычайна не даказваецца праз незацікаўленасьць ў гэтым ні таго, хто бярэ ў лапу, ні таго, хто дае. Тым больш, часы канвэртаў са стосам купюр адыходзяць у мінулае. Вядомы выпадак, калі прадстаўнік пажарнай інспэкцыі стварыў асабістую дабрачынную арганізацыю, пасьля чаго хадзіў па камэрцыйных структурах, разьмешчаных на тэрыторыі свайго раёна і прапаноўваў рабіць ахвяраваньні.

Злоўжываньне службовым становішчам зьяўляецца злачынствам толькі ў тым выпадку, калі карысьлівыя мэты відавочныя. Ну скажыце, калі ласка, хто з нашых бюракратаў пойдзе на парушэньне законаў дзеля спартыўнага інтарэсу? І як даказаць асабістую карысьць, калі часта чыноўнікі дзейнічаюць па прынцыпе «ты — мне, я — табе»? Да гэтага часу не прынятыя законы аб апэратыўна-пошукавай службе і дзяржбясьпецы. Менавіта праблема заканадаўства — асноўны галаўны боль супрацоўнікаў праваахоўных органаў.

На мінулай сэсіі ВС Апазыцыя прапанавала законапраект аб барацьбе з карупцыяй. Зразумела, парляманцкая большасьць з падачы камісіі Грыба адвергла яго. Не засяроджваючыся на разглядзе вартасьцяў і хібаў гэтага праекту, можна спытаць: а дзе была камісія па барацьбе са злачыннасьцю два гады і чаму яе хапіла толькі на тое, каб раскрытыкаваць распрацоўкі Апазыцыі? Дарэчы, чаму Грыб асабіста не займаўся стварэньнем нечага аналягічнага, стала зразумелым трохі пазьней: ён прапанаваў распрацаваць адпаведныя законапраекты Савету Міністраў. Кіруючыся гэтай лёгікай, складаньне Крымінальнага кодэксу належала б даручыць злодзеям у законе. Дзякуй Богу, на гэта фантазіі генэрал-лейтэнанта не хапіла. Гэтым справа, аднак, ня скончылася: на верасьнёўскім прэзыдыюме Вярхоўнага Савету камісія Грыба настойліва рэкамэндавала не выносіць на разгляд наступнай сэсіі праект закона аб барацьбе з карупцыяй, падрыхтаваны афіцыйнымі структурамі.

Спадара Грыба непакояць, відаць, іншыя праблемы. Напрыклад, ці пасьпеюць будаўнікі да сэсіі парляманта здаць "пад ключ" ягоную дачу ў намэнклятурным пасёлку Ждановічы-6 паблізу Менскага мора. Акрамя таго, у вёсцы Летцы Віцебскай вобласьці будуюцца яшчэ два дамы: адзін запісаны на самога Грыба, другі — на ягонага блізкага сваяка. Даводзіцца таксама даглядаць дачу на возеры Лосьвіда пад Віцебскам. Дзякуй Богу, што з рамонтам кватэры ў Менску не было праблем — стварэньнем шыкоўных апартамэнтаў для сям'і сябры Прэзыдыюма ВС займаліся саўмінаўскія службы. Апэтыты і даходы Мечыслава Іванавіча ў многіх выклікаюць захапленьне.

Такім чынам, сёньня ў рэспубліцы не існуе сур'ёзнай супрацьвагі карупцыі. Яна, як іржа, разьядае рэшткі маральных асноў дзяржавы. Занадта для многіх сёньня асноўным жыцьцёвым прынцыпам стаў выраз: «Чым больш украў — тым больш шчасьця». Крадзёж стаў асноўным жыцьцёвым прынцыпам, на жаль, ня толькі ў вярхах. Але ці можна разьлічваць на нармальнае жыцьцё ў дзяржаве, дзе палова насельніцтва крадзе, а палова вырабляе тое, што будзе ўкрадзенае?

Унутраны вораг заўсёды небясьпечнейшы ўдвая. Пятая калёна карупцыі пагражае Беларусі, як дзяржаве з пэрспэктывамі пабудовы дэмакратычнага грамадзтва.

ІСНУЮЦЬ ДВА АСНОЎНЫЯ ВАРЫЯНТЫ РАЗЬВІЦЬЦЯ ПАДЗЕЙ. Першы — у выпадку, калі цяперашняя вярхушка захавае ўладу ў бліжэйшыя два-тры гады — заключаецца ў паступовым узмацненьні пазыцыі карумпаваных дзеячоў і ўстанаўленьні своеасаблівай абсалютнай манархіі выканаўчай улады, хаця фармальна падзел улад можа быць захаваны. Адбудзецца зрошчваньне карумпаванай вярхушкі з крымінальнай. Пакуль узаемадзеяньне паміж імі знаходзіцца у зародкавай стадыі, але першыя спробы ўстанаўленьня кантктаў ужо адзначаны. На сходзе злодзеяў, які адбыўся вясной у вадным зь менскіх матэляў, прысутнічаў член Прэзыдыюму ВС РБ.

Праз невялікі прамежак часу Беларусь рызыкуе ператварыцца ў «бананавую рэспубліку» з усімі наступствамі. Улічваючы яе выгаднае геаграфічнае становішча і зьнешнюю рэспэктабэльнасьць, вельмі верагодна, што рэспублікай зацікавяцца міжнародныя злачынныя групоўкі. Як вядома, злодзей са злодзеем дамовяцца заўсёды. Тады ўжо зьмяніць нешта будзе немагчыма.

Пакуль яшчэ ня выключаны альтэрнатыўны варыянт. Калі ў найбліжэйшы час да ўлады прыйдзе Апазыцыя, становішча карумпаваных дзеячоў моцна пахісьнецца. Прымаючы да ўвагі такую магчымасьць, яны ўжо сёньня падрыхтавалі глебу для пераходу ад палітычнай улады да фінансавай. Будзе цяжкая барацьба, перамога ў якой не гарантаваная ніводнаму з бакоў. Але, ва ўсякім разе, ёсьць надзея на лепшае, зьяўляецца шанц зьмяніць становішча. Дзеля гэтага варта паспрабаваць.

Усялякія спробы абвясьціць вайну карупцыі ў сучасных умовах асуджаны на правал. Можна ствараць колькі заўгодна грамадзкіх фондаў і парляманцкіх камісій — выканаўчая ўлада лёгка блякуе іхнюю працу. Горкі вопыт камісіі, якая расьсьледавала дзейнасьць ГКЧП на Беларусі, гэтаму прыклад. Нядаўна ўрад дэкляраваў намер абвясьціць татальную вайну карупцыі. Кебіч не абмежаваўся толькі словамі: некаторыя ўжо адпраўлены ў вадстаўку. Але гэта толькі пазбаўленьне ад баласту. Асноўным дзейным асобам небясьпека не пагражае.

Адзінай надзеяй на перамены застаецца рэфэрэндум, які пад рознымі прычынамі ўладныя структуры спрабуюць праваліць. Калі яны гэта змогуць — можна сушыць вёслы. Іншага такога шанцу мы ўжо не атрымаем.

# ПЕРАМОВЫ Ў БРУСЭЛІ

**1-5 верасьня ў Брусэлі знаходзілася дэлегацыя Беларускага Народнага Фронту і Беларускай Хрысьціянска-Дэмакратычнай Злучнасьці.**

**Адбыліся сустрэчы і перамовы з кіраўніцтвам дэмакратычных партыяў Бэльгіі, лідарамі фракцыяў і ўплывовымі палітычнымі дзеячамі Эўрапарляманту, у Міністэрстве замежных справаў Бэльгіі. На сустрэчы з кіраўніцтвам і супрацоўнікамі НАТО З.Пазьняк выступіў з дакладам «Аб палітычнай сытуацыі на Беларусі і пэрспэктывах яе разьвіцьця».**

**Галоўнай тэмай перамоваў у Брусэлі былі праблемы дэмакратычных працэсаў на Беларусі і Усебеларускі рэфэрэндум аб даверы Вярхоўнаму Савету і датэрміновых выбарах. Беларуская дэлегацыя паінфармавала аб парушэньні правоў чалавека і закону з боку Вярхоўнага Савету Беларусі, аб фактычнай страце ім легітымнасьці і імкненьні ўтрымаць уладу незаконнымі сродкамі.**

**У выніку перамоваў паміж кіраўніцтвам БНФ і лідарамі Эўрапейскага Саюзу Хрысьціянаў-Дэмакратаў/Эўрапейскай Народнай партыі быў складзены пратакол аб намерах.**

**Дэлегацыя мела таксама сустрэчы з бэльгійскімі бізнэсовымі коламі і прадстаўнікамі міжнародных фондаў. У брусэльскім Міжнародным прэс-цэнтры адбылася прэс-канфэрэнцыя.**

## Пратакол аб намерах,

складзены ў выніку абмеркаваньня палітычнай сытуацыі і працэсу рэалізацыі дэмакратычных пераўтварэньняў на Беларусі, якое адбылося 2 верасьня 1992 г. у штаб-кватэры Эўрапейскай Народнай партыі ў Брусэлі паміж яе Генэральным сакратаром Томасам Янсанам і сп.Андрэасам Гартманам — дарадцам Старшыні Эўрапейскай Народнай партыі з аднаго боку і дэлегацыяй Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» ў складзе старшыні БНФ сп.Зянона Пазьняка, намесьніка старшыні сп.Юрыя Хадыкі і сябры Сойму БНФ сп.Лявона Баршчэўскага, а таксама Старшыні-каардынатара Беларускай Хрысьціянска-Дэмакратычнай Злучнасьці сп.Пятра Сілкі з другога.

Абодва бакі, адзначыўшы неабходнасьць паскарэньня дэмакратычных рэформаў у краінах былога СССР, пагадзіліся ў тым, што для Рэспублікі Беларусі найбольш важным пытаньнем унутранага жыцьця ў правядзеньні дэмакратычных рэформаў, а таксама ва ўмацаваньні сувэрэнітэту беларускай дзяржавы зьяўляецца пасьпяховае завяршэньне кампаніі па правядзеньні рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах новага парляманту на аснове дэмакратычнага выбарчага закону і роспуску ў сувязі з гэтым дзейнага Вярхоўнага Савету.

Было адзначана таксама, што існая ўлада з мэтай захаваньня нелегітымнымі сродкамі Вярхоўнага Савету і створанага ім ураду, чыніць перашкоды на шляху законнага волевыяўленьня насельніцтва Рэспублікі, што супярэчыць закону і парушае правы чалавека. Правядзеньне рэфэрэндуму аб даверы вышэйшаму заканадаўчаму органу, які быў выбраны на падставе недэмакратычнага закону ў часы панаваньня таталітарнай сыстэмы, зьяўляецца спробай дэмакратычных сілаў дамагчыся карэннай зьмены структураў улады мірнымі, канстытуцыйнымі сродкамі. Правядзеньне рэфэрэндуму на Беларусі мае вялікае значэньне для ўмацаваньня дэмакратычных нормаў жыцьця ва ўсіх краінах СНД.

У сувязі з адзначаным было прызнана неабходным прыкласьці агульныя намаганьні, каб:

1. Прыцягнуць увагу сусьветнай дэмакратычнай грамадзкасьці да рэфэрэндуму на Беларусі.

2. Накіраваць групы прадстаўнікоў ад уплывовых міжнародных грамадзкіх арганізацыяў для назіраньня за захаваньнем правоў чалавека ў час правядзеньня рэфэрэндуму і магчымых дэмакратычных выбараў.

3. Распаўсюджваць інфармацыю аб гісторыі і культуры Беларусі і яе сучаснай палітыцы шляхам друкаваньня адпаведных матар'ялаў на эўрапейскіх мовах, пашырэньня асабістых кантактаў паміж прадстаўнікамі дэмакратычнай грамадзкасьці краінаў Эўрапейскай эканамічнай супольнасьці і Рэспублікі Беларусь.

4. Разгледзець магчымасьць стварэньня ў Менску вячэрняга унівэрсытэта для падрыхтоўкі ў галіне паліталёгіі і эканомікі прадстаўнікоў дэмакратычных арганізацыяў і партыяў Беларусі з улікам тэорыі і практыкі Інтэрнацыяналу Хрысьціянскай Дэмакратыі (IDC).

| Ад Эўрапейскага Саюзу Хрысьціянаў-Дэмакратаў/ Эўрапейскай Народнай партыі Генэральны сакратар | Ад Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Старшыня |
|---|---|
| Томас ЯНСАН | Зянон ПАЗЬНЯК |

Брусэль, 2 верасьня 1992 г.

# Эміграцыя таксама спадзяецца на рэфэрэндум

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

**20-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Нью-Брансўіку, ЗША, 5-7 верасьня 1992г.**

Дваццатая сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі сьцьвярджае:

1. Дэмакратычны працэс на Беларусі ідзе штучна запавольненымі тэмпамі, спавальняючы рэформы і спрычыняючы эканамічны спад. Галоўная прычына гэтага замаруджваньня ў тым, што структура і склад Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, які выбіраўся не як парлямант сувэрэннай дзяржавы, а як мясцовы орган часткі былой савецкай імпэрыі, не адпавядаюць насьпелым патрэбам мамэнту — інтэнсыўна распрацоўваць заканадаўства незалежнай дзяржавы і сачыць за яго выкананьнем.

Наяўнасьць сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савету недэмакратычна абраных заканадаўцаў і такіх, якія займаюць адначасова адміністрацыйна-выканаўчыя пасады, ня толькі не дае аптымальных вынікаў, але пярэчыць самому прынцыпу дэмакратыі. Беларусь безадкладна патрабуе дэмакратычна абранага вышэйшага заканадаўчага органу, які працаваў бы толькі як парлямант, прафэсійна.

2. Вярхоўны Савет і Урад Беларусі мусілі б больш актыўна праводзіць палітыку незалежнай дзяржавы ў вадпаведнасьці з Дэклярацыяй аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі і больш энэргічна спрыяць дэмакратызацыі ейнага палітычна-грамадзкага ладу; больш клапаціцца пра інтарэсы беларусаў замежжа, спрыяць вяртаньню на Бацькаўшчыну тых, хто апынуўся вонках Беларусі на абшарах былога СССР, што у першую чаргу датычыць беларусаў-вайскоўцаў, якія знаходзяцца на чужыне і жадаюць служыць Беларусі.

Асаблівая ўвага павінна надавацца адраджэньню нацыянальнай культуры, адукацыі, беларускай мовы. Толькі на глебе нацыянальнай сьвядомасьці, у спалучэньні са справядліва аплочванай працай можа адрадзіцца пачуцьцё грамадзянскай годнасьці, а разам зь ім пачуцьцё адказнасьці за якасьць арганізацыйнай і эканамічнай дзейнасьці, за якасьць прадукцыі працы.

3. Беларуская эміграцыя і ейныя нашчадкі ў Злучаных Штатах і ў Канадзе горача падтрымліваюць ідэю адраджэньня сувэрэннай і дэмакратычнай беларускай дзяржавы, перабудову эканомікі Беларусі на прынцыпах вольнага рынку ды справу забясьпечаньня дэмакратычных свабодаў усім ейным грамадзянам бяз розніцы на этнічнае паходжаньне ці сьветагляд. У сувязі з гэтым амэрыканскія і канадзкія грамадзяне беларускага паходжаньня выкарыстоўваюць свае кантакты і ўплывы, каб спрыяць адраджэньню вольнай Беларусі.

4. Апошнім часам аднак сілы старога ладу на Беларусі аднавілі кампанію ачарненьня маральных аўтарытэтаў беларускага нацыянальнага руху, у першую чаргу, лідараў беларускай вайсковасьці. За гэтай прапагандавай кампаніяй хаваецца намаганьне паслабіць фронт нацыянальна-дэмакратычных сілаў на Беларусі і падкасіць салідарнасьць зь імі беларускай эміграцыі.

5. Афіцыйныя колы Беларусі, у тым ліку Міністэрства замежных спраў, Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і іншыя структуры, выступілі з прапановай правесьці ў 1993 г. у чэрвені-ліпені сусьветны зьезд ("кангрэс") беларусаў. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і Згуртаваньне Беларусаў Канады падтрымваюць у прынцыпе гэтую насьпелую ідэю і ўдзел свой у важыцьцяўленьні гэтага праекту абумоўліваюць далейшым ходам працэсу дэмакратызацыі на Беларусі і нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

6. Беларуская эміграцыя будзе і надалей сачыць ход падзеяў на Беларусі:

а) ці ня будзе замаруджвацца працэс нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня;

б) ці будзе выканана воля вялікае колькасьці выбаршчыкаў, выказаная ў вадпаведнасьці з законам аб рэфэрэндуме;

в) ці будзе дадзены парляманцкай апазыцыі і дэмакратычным партыям і рухам час на пэрыядычныя выступленьні на рэспубліканскім радыё і тэлебачаньні (як гэта робіцца ў дэмакратычным заходнім сьвеце);

г) ці будуць спыненыя перашкоды нармальнай дзейнасьці канструктыўнай апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце;

д) ці будуць спыненыя неўдакумэнтаваныя абвінавачаньні беларускіх нацыянальных лідараў.

7. Урад Беларусі мусіць зьмяніць сваю палітыку ў дачыненьні да забруджанае радыяцыяй тэрыторыі, узмацняючы праграму перасяленьня людзей, а не фінансаваньня іхнага там знаходжаньня, бо такое фінансаваньне прыцягвае жыхароў з чысьцейшых раёнаў Беларусі, ведучы да росту сьмяротнасьці і захворваньняў. Мы прапануем, каб Урад Беларусі рабіў большыя намаганьні запрасіць замежныя фірмы для наладжаньня вытворчасьці мэдыкамэнтаў у Рэспубліцы, якіх вельмі патрабуе беларускае жыхарства.

8. Дваццатая сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі выказвае спадзяваньне, што справа расьсьледаваньня камуністычнага генацыду на Беларусі (Курапаты і ўсе іншыя злачынствы) ня будзе спыненая ды што памяць ахвяраў бальшавізму будзе ўшанаваная пабудовай адпаведнага мэмарыяльнага комплексу.

9. Адраджэньне рэлігіі на Беларусі павінна спрыяць адраджэньню беларускіх рэлігійных традыцыяў, беларускай мовы, культуры, духовасьці, а ня быць прыладаю палянізацыі, русыфікацыі ці іншай формы дэнацыяналізацыі беларусаў.

10. Для прысьпешаньня адраджэнскага і дэмакратычнага працэсу на Беларусі, для ўздыму эканомікі і матар'яльнага дабрабыту патрэбныя як мага шырэйшыя культурныя і дзелавыя сувязі паміж грамадзянамі Беларусі і грамадзянамі заходніх краін. Беларуская эміграцыя гатовая прыкласьці ўсе сілы, каб гэткія сувязі пашыраліся і замацоўваліся на агульнае дабро беларускага народу.

Жыве Беларусь!

**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ**
**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ**

Нью-Брансўік
6 верасьня 1992 г.

**Ухвала**

# Беларусі патрэбна надзейнае войска

**25 верасьня 1992 г. Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» разам з запрошанымі прадстаўнікамі дэмакратычных партыяў і Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў правёў канфэрэнцыю «Беларускае войска: сучаснасьць і будучыня».**

Удзельнікі канфэрэнцыі сьцьвердзілі й пераканаўча давялі, што на Беларусі праводзіцца мэтанакіраваная вайсковая палітыка не ў інтарэсах нашае дзяржавы й яе народу. Прымаюцца рашэньні, якія абвастраюць праблемы войска й служаць інтарэсам суседняй дзяржавы. Вайсковае пытаньне становіцца найвастрэйшаю палітычнаю й сацыяльнаю праблемай Беларусі.

Супярэчны інтарэсам Беларусі акт — падпісаньне старшынёю Савету Міністраў Беларусі В.Кебічам у Маскве 20 ліпеня сёлета вайсковых пагадненьняў з Расеяй. Паводле іх, Беларусь утрымлівае на сваёй тэрыторыі вялікія вайсковыя сілы іншай дзяржавы і ў васноўным забясьпечвае іх, аддае Расеі пад кантроль вайсковую прамысловасьць. Падпісаньне пагадненьняў ставіць пад знак пытаньня наш нэўтральны статус і самую нашую незалежнасьць. Пагадненьні замацоўваюць становішча нашай краіны як пляцдарму расейскіх узброеных сілаў і могуць абвастрыць дачыненьне Беларусі з суседнімі дзяржавамі.

Беларусь як нэўтральная дзяржава ня можа мець агрэсіўнае вайсковае дактрыны. У такім разе дактрына як складовая частка геапалітычнае стратэгіі Беларусі павінна абмяркоўвацца публічна.

Непамерная колькасьць войска ў нашай краіне і мілітарызаванасьць яе эканомікі — плён эпохі таталітарызму. Вайсковая намэнклятура разьлічвае на вяртаньне камуністычных парадкаў, на зьнішчэньне беларускае незалежнасьці ды вяртаньне таталітарнай імпэрыі. Яны ліхаманкава ўзбагачаюцца, бессаромна выкарыстоўваюць службовыя магчымасьці, раскрадаюць вайсковую маёмасьць. Чым глыбейшае маральнае падзеньне вайсковай намэнклятуры, тым гучней чуваць ад яе антыбеларускую дэмагогію, тым выразьнейшыя спробы стварыць «вобраз ворага» з патрыятычных, сумленных афіцэраў. Карупцыя працьвітае ў войску і таму, што вайсковыя карупцыянэры шчыльна зьвязаныя з карупцыянэрамі ў цывільным.

Вайсковая намэнклятура — тая сіла, на якую спрабуе рабіць стаўку камуністычная дзяржаўная намэнклятура. Упраўленьне Савету Міністраў па пытаньнях правоў грамадзян, грамадзкай бясьпекі й абарончай працы фактычна кантралюе ўсе ўзброеныя структуры на Беларусі. На чале яго стаіць былы партыйны начальнік. Канфэрэнцыя патрабуе ліквідацыі гэтага ўпраўленьня як неканстытуцыйнага і непатрэбнага органу.

Адстаўка вайсковай намэнклятуры (той часткі міністэрскага кіраўніцтва, генэралітэту і афіцэрства, якая адкрыта выступае з антыбеларускіх пазыцыяў), узбуджэньне крымінальных справаў супраць вайсковых карупцыянэраў — неабходныя ўмовы аздараўленьня Ўзброеных Сілаў Беларусі ды іх ператварэньня ў Беларускае войска.

Апора беларускага войска — афіцэрскі корпус, які складаецца з кваліфікаваных і патрыятычна настроеных людзей. Без патрыятызму войска як дзяржаўны інстытут увогуле немагчымае. У той жа час з вуснаў вайсковых намэнклятуршчыкаў, са старонак афіцыйнай вайсковай прэсы ідзе агітацыя супраць беларускай незалежнасьці, нацыянальнага адраджэньня. Адбываецца непрыхаваны перасьлед патрыятычна настроеных афіцэраў з БЗВ. Натуральны й жыцьцёва неабходны акт — прыняцьце прысягі на вернасьць народу Беларусі — стаў аб'ектам правакацыйных дыскусіяў, якія сьвядома распальваюць антыбеларускія настроі ў вайсковым асяродзьдзі. Толькі рашучая ініцыятыва БНФ, БЗВ, БСДГ, іншых дэмакратычных арганізацыяў у прыняцьці сымбалічнае прысягі 8 верасьня сёлета вымусіла вайсковае кіраўніцтва прымаць запозьненыя рашэньні аб прысязе афіцэраў на вернасьць Беларусі.

Канфэрэнцыя сьцьвердзіла, што пры стварэньні беларускага войска і вырашэньні кадравых пытаньняў неабходна зыходзіць з крытэрыю ЛЯЯЛЬНАСЬЦІ, прыхільнага стаўленьня афіцэра ці генэрала да Беларусі, беларускіх традыцыяў, мовы і культуры. Вайсковая адукацыя й выхаваньне на Беларусі па-ранейшаму прасякнуты імпэрскім духам. У «сувораўскай» вучэльні, сама назва якой абражае годнасьць беларусаў, у вышэйшых вайсковых навучальных установах ігнаруецца тое, што іх мэта — выхоўваць будучых афіцэраў у гуманістычных традыцыях і ў духу служэньня беларускай дзяржаве. Валоданьне беларускаю мовай неабходнае найперш для тых вайскоўцаў, што непасрэдна працуюць з асабовым складам. Немалое псыхалягічнае значэньне павінна мець замена вайсковае сымболікі, формы, тэрміналёгіі ў вадпаведнасьць зь беларускімі вайсковымі традыцыямі.

З кожным днём абвастраецца праблема вяртанцаў — тых дзесяткаў тысяч афіцэраў-урадзімцаў Беларусі, якія прагнуць вярнуцца на Бацькаўшчыну, але ня могуць зрабіць гэтага, бо на Беларусі для іх не знаходзіцца мейсца. Бадай, няма ў сьвеце іншай краіны, кіраўніцтва якой так абыякава ставілася б да сваіх суайчыньнікаў, верных Бацькаўшчыне і гатовых служыць ёй. Вырашэньне праблемы афіцэраў-вяртанцаў — першачарговая й неабходная ўмова стварэньня беларускага войска.

Канфэрэнцыя сьцьвердзіла, што вайскоўцы, у тым ліку вяртанцы, павінны быць надзейна сацыяльна абаронены. Аднак гэтая абароненасьць можа распаўсюджвацца выключна на тых, хто прысягнуў на вернасьць народу Беларусі. Адною з крыніц сродкаў для паўнейшае сацыяльнай абароны вайскоўцаў павінна стаць скарачэньне войска, найперш штабных работнікаў, а таксама пераход да найму цывільных працаўнікоў дапаможных службаў. Неабходна стварыць дзяржаўную сыстэму перападрыхтоўкі вайсковых кадраў, звольненых у запас у выніку скарачэньня.

Вайсковая рэформа на Беларусі павінна адбывацца ў інтарэсах усяго народу, у інтарэсах тых вайскоўцаў, што гатовыя сумленна і высокапрафэсійна служыць дзеля дабра Беларусі як яе грамадзяне. Але рэформа немагчымая, пакуль ля стырна ўлады і ў вайсковым кіраўніцтве знаходзяцца непрыхільныя дзяржаўным інтарэсам Беларусі і яе народу намэнклятурныя сілы. Толькі ўсебеларускі рэфэрэндум аб роспуску цяперашняга Вярхоўнага Савету, які прывядзе і да адстаўкі ўраду, адкрые шлях да такой вайсковай рэформы.

# МАКЕДОНІЯ: НЯЎЖО І ТАМ БУДЗЕ БОЙНЯ?

З тых рэспублік былой Югаславіі, што прэтэндуюць на міжнароднае прызнаньне, хіба толькі Македонія ніяк яго ня можа дачакацца. З эўрапейскіх дзяржаў яе прызналі толькі Турцыя і Балгарыя (Беларусь таксама прызнала яе незалежнасьць 2 верасьня **— заўв. рэд.**). Гэтаму замінае пазыцыя сябры Эўрапейскае Супольнасьці — Грэцыі, якая лічыць, што назва антычнай краіны Македоніі належыць выключна да яе ўласнай гістарычнай спадчыны.

## Бацькаўшчына Кірылы і Мяфодзія

Славянскія плямёны (далёкія продкі тых славянаў, што называюць сябе сёньня македонцамі) прыйшлі на Балканы і расьсяліліся на абшарах Македоніі на мяжы VI і VII стагодзьдзяў. Там яны зьмяшаліся з адносна нешматлікім аўтахтонным грэцкім і ілірыйскім жыхарствам (непасрэднымі нашчадкамі ілірыйцаў лічацца албанцы). Захоўваючы славянскую мову, а зь ёю і пачуцьцё этнічнай адметнасьці, славяне сяліліся па-за гарадамі.

Гарады, такім чынам, мелі неславянскі, перадусім грэцкі, характар. Але па-за межамі гарадоў пераважалі славяне. Ня йначай было і з Салёнікамі. Навакольнае славянскае насельніцтва называла іх Салуньню. Менавіта моваю тутэйшых славянаў кіраваліся Кірыл і Мяфодзі, жыхары Салуні, пры распрацоўцы кірылічнага альфабэту і літургічнай мовы (старабалгарскай, старамакедонскай), якая да сёньняшняга дня выкарыстоўваецца ў праваслаўнай царкве.

У канцы IX і на пачатку X стст. на землях цяперашняй Македоніі адбывалася імклівае разьвіцьцё старажытнага славянскага пісьменства, яго залаты век. На гэта часта спасылаюцца балгары, каб даказаць, што іх культура сягае ў даўніну, (бо разьвівалася яна ў тагачасным балгарскім гаспадарстве), а таксама сучасныя македонцы.

У выніку паразы балгараў у вайне з Візантыяй у 976 г. на гэтых землях узьнікла і праіснавала болей за 40 гадоў адзіная з антычных часоў самастойная дзяржава.

Пад канец XII ст. распачалася экспансія сярэднявечнай Сэрбіі на македонскія землі. Уплыў сербскае культуры найбольш яскрава праявіўся ў сакральным будаўніцтве. Апагеем гэтай экспансіі стала панаваньне наймагутнейшага сярэднявечнага ўладара Сербіі Душана, які мейсцам сваёй каранацыі «на цара сербаў і грэкаў» (1346) выбраў Скоп'е.

Неўзабаве Македонія была захопленая Атаманскай імпэрыяй, у складзе якой яна заставалася больш за пяць стагодзьдзяў. Славянская культура і хрысьціянства ўвесь гэты час захоўваліся пераважна ў вёсках. Толькі ў другой палове XIX ст. славянскае насельніцтва пачало перамяшчацца ў гарады і канкураваць там з турэцкай і грэцкай стыхіяй. Гэты працэс суправаджаўся спробамі знайсьці падтрымку ў суседніх славянскіх дзяржавах, што давала штуршок усьведамленьню сваёй уласнай этнічнай адметнасьці.

Другая палова мінулага стагодзьдзя — гэта час вострага змаганьня на македонскай зямлі, час ажыўленай культурнай і палітычнай прапаганды, перадусім турэцкай і грэцкай, але таксама і сербскай.

## Экзархат і Патрыярхат

Гэтая барацьба была інсьпіраваная дзьвюма праваслаўнымі цэрквамі, што спаборнічалі між сабой: грэцкім Патрыярхатам і балгарскім Экзархатам.

Славянскае насельніцтва македонскіх земляў моўна і этнічна стаяла бліжэй да балгараў, чым да сербаў, і яго новая эліта прыхільна ставілася да балгараў. Тым часам неславянскае (грэцкае і валоскае) жыхарства схілялася на бок Грэцкае царквы. Дэмаграфічныя мапы Македоніі, што складаліся ў канцы мінулага стагодзьдзя, падзялялі насельніцтва паводле прыналежнасьці паасобных парафіяў да Патрыярхату або Экзархату і, нягледзячы на нацыянальнасьць, акрэсьлівалі вернікаў адпаведна як «грэкаў» або «балгараў». Мясцовае непісьменнае славянскае насельніцтва называла сябе «тутэйшымі» або македонцамі, што таксама яшчэ ня мела выразна нацыянальнага значэньня.

Узрост зацікаўленьня эўрапейцаў Македоніяй зьвязаны з паўстаньнем 1903 г. супраць турэцкай улады; яго арганізатары патрабавалі македонскай аўтаноміі ў межах турэцкай дзяржавы. Праз тры месяцы паўстаньне было патопленае ў крыві, а жыхарства падвергласа суровым рэпрэсіям.

## Падзел

Першая балканская вайна (1912) вялася між іншым і за вызваленьне Македоніі з-пад турэцкага панаваньня. Другая ж вайна (1913) была выклікана спрэчкай за Македонію паміж нядаўнімі хаўрусьнікамі: Балгарыяй, Грэцыяй і Сербіяй.

Вайна гэтая скончылася падзелам Македоніі на тры часткі: поўдзень краіны перайшоў да Грэцыі (Эгейская Македонія), захад — да Сербіі (Вардарская Македонія), а найменшая, усходняя частка — да Балгарыі (Пірынская Македонія).

Падзел гэты, які захаваўся да сёньняшняга дня, быў замацаваны ў часе І сусьветнай вайны, калі Сербія з Чарнагорыяй змагалася ў блёку пераможных краін Антанты (разам з Францыяй і Вялікабрытаніяй) супраць Балгарыі і Турцыі (супольна з Прусіяй і Аўстра-Вугоршчынай). Пра тыя ранейшыя саюзы варта памятаць і цяпер, шукаючы ў іх крыніцы сымпатыі і антыпатыі дзяржаў Эўрапейскай Супольнасьці ў дачыненьні да краін, уцягнутых у югаслаўскі канфлікт.

У міжваеннай Югаславіі Вардарскую Македонію называлі Паўднёвай Сербіяй. Улады ўважалі македонцаў за сербаў, моладзь наведвала сербскія школы; тых, хто супраціўляўся, «пераконвалі» сілай. Рэакцыяй на перасьлед было ўзмацненьне адчуваньня сваёй адметнасьці і пашырэньне пераканаўняў у блізкай сувязі з балгарамі.

У 1941 г., пасьля развалу Югаслаўскага Каралеўства, амаль усю Вардарскую Македонію занялі балгарскія войскі, што ваявалі ў саюзе зь нямецкімі ды італьянскімі фашыстамі. Балгарскія ўлады замянілі палітыку сербізацыі суровым акупацыйным рэжымам, які перасьледваў ня толькі прасербскія сымпатыі, але й усе праявы культурнай адметнасьці, што адхіляліся ад агульнабалгарскіх стандартаў. Гэта, у сваю чаргу, дапамагло македонцам усьвядоміць сваю адрознасьць ад балгараў.

## Апэтыты Балгарыі

У паваеннай Югаслаўскай Фэдэрацыі была створаная Македонская Рэспубліка, у склад якой увайшлі землі, населеныя пераважна македонцамі. Паступова разьвілася ўнармаваная македонская літаратурная мова, пашыралася сетка македонскіх сярэдніх і вышэйшых школаў, узьнікла Македонская Акадэмія навук і шмат іншых установаў, неабходных для нармальнага культурнага разьвіцьця народа.

У Балгарыі назва Македонія шмат гадоў была палітычным табу, а для вызначэньня Македоніі Пірынскай, што ўваходзіць у гэтую краіну, выкарыстоўвалі найменьне Пірынскі Край. Калі гаворка ішла пра югаслаўскую Рэспубліку Македонію, балгарская прапаганда ўжывала словы «Скоп'е», «скоп'еўскія палітыкі». Размовы пра самабытнасьць македонскага народу і разьвіцьцё македонскае культуры разглядаліся як падступная сербская антыбалгарская інтрыга. Пасьля палітычных пераменаў апошніх гадоў пазыцыя Балгарыі ў дачыненьні да гэтае праблемы практычна не зьмянілася. Усе паваенныя кампрамісы на карысьць македонскай адасобленасьці трактуюцца як яшчэ адзін грэх камуністычных уладаў. Відаць, большасьць балгараў усё яшчэ перакананая ў балгарскасьці македонцаў.




***Рэспубліка Македонія (Вардарская Македонія) займае паверхню 25 тыс. км² і мае насельніцтва трохі болей за два мільёны, зь якіх паўтара мільёны — гэта македонцы (разам з македонскамоўнымі мусульманамі), а больш за 400 тысяч — альбанцы, што кампактна жывуць у паўночна-заходніх раёнах. Альбанцы складаюць таксама блізу адну трэціну жыхароў сталічнага Скоп'е.***

## Exodus

Эгейская Македонія, якая трапіла ў склад Грэцыі па балканскіх войнах, займае тэрыторыю большую за Вардарскую Македонію (34 тыс. км²). Сярод 2 мільёнаў яе насельніцтва пераважаюць грэкі. Тут шмат вякоў ішоў працэс элінізацыі славянаў.

Пад час грамадзянскай вайны ў Грэцыі ў 1945—49 гг. значная частка славянскага насельніцтва падрымлівала левыя сілы, а найбольш зацятыя баі адбываліся на абшарах Эгейскае Македоніі, куды (пераважна зь Югаславіі) даходзіла камуністычная дапамога для партызанаў Бэлёяніса. Бунт Ціто супраць Сталіна прывёў да іх паразы.

Вялікая колькасьць пераважна славянскага жыхарства была вымушаная ўцякаць з памежных грэка-югаслаўскіх і грэка-альбанскіх рэгіёнаў. Маса ўцекачоў трапіла ў Югаславію ды Альбанію, адкуль была перамешчаная ў розныя камуністычныя краіны. У Польшчы з 10 тысяч уцекачоў палову складалі македонцы. Яны ўжывалі гэтае найменьне для дэманстрацыі сваёй адрознасьці ад грэкаў, што выклікала грэка-македонскія канфлікты нават на тэрыторыі Польшчы.

У 60-я гады шмат хто з уцекачоў вырашыў вярнуцца ў Грэцыю. Для тых, хто, запаўняючы ў грэцкіх амбасадах дакумэнты, запісваўся македонцам, вяртаньне на бацькаўшчыну было немагчымае. Атрымаўшы адмову, яны кіраваліся ў югаслаўскую Рэспубліку Македонію, дзе ўлады разглядалі іх як рээмігрантаў.

## Прагноз

Македонцы занадта доўга чакалі, калі зьявяцца ўмовы, якія зробяць магчымым іх нацыянальнае самавызначэньне. Такія ўмовы для іх стварыла Югаслаўская Фэдэрацыя, і македонцы выкарысталі іх да такой ступені, што сёньня ніводзін цьвярозы эўрапейскі палітык ня можа праігнараваць факт існаваньня гэтага славянскага народу і, тым больш, пазбавіць яго імені. Цяпер гэты народ ужо немажліва ліквідаваць палітычна, яго можна ліквідаваць толькі біялягічна. Калі югаслаўскі канфлікт будзе разьвівацца далей і ахопіць усе Балканы, такі жудлівы прагноз, на жаль, ня выключаны.

У выпадку перамогі ў Сербіі мілітарысцка-нацыяналістычных сілаў зноў усплыве на паверхню тэза пра тое, што Вардарская Македонія — гэта па сутнасьці Паўднёвая Сербія, а македонцы — сербы, якія «страцілі розум».

Гэткая пазыцыя сербскіх уладаў прыйшлася б даспадобы Афінам. Пра гэта сьведчаць афіцыйныя і паўафіцыйныя спробы аднавіць стары сербска-грэцкі саюз.

Пагражае Македоніі таксама пашырэньне на яе тэрыторыю даўно насьпелага альбанска-сербскага канфлікту ў Косаве, якое, напэўна, пойдзе ў кірунку поўнай незалежнасьці ад новай Югаславіі. Алею ў вагонь можа падліць і імкненьне да аб'яднаньня ўсіх альбанцаў у вадной дзяржаве. Скоп'е, такім чынам, можа стаць сталіцай дзяржавы, разрыванай на шматкі знутры і звонку, і падзяліць лёс Сараева.

У такой сытуацыі македонцы несумненна атрымалі б прапанову аб балгарскай дапамозе. Цяжка прадбачыць, да чаго б яна ўрэшце прывяла. Цалкам праўдападобна, што Балгарыя захоча «вярнуць» Македонію ў вадзіную балгарскую сям'ю.

Эканамічны крызыс і рэальная пагроза ўцягваньня Македоніі ў арбіту вайсковых дзеяньняў — усё гэта будзе суровым выпрабаваньнем здольнасьці македонскага народу да самастойнага існаваньня.

На сёньняшні дзень — пасьля вываду югаслаўскае арміі — Македонія засталася практычна безабаронная. Таму яна можа лёгка ператварыцца ў поле бітвы.

Досьвед апошніх падзеяў, што адбыліся на тэрыторыі былой Югаславіі, паказвае, што трэба папярэджваць канфлікты. Неабходна прызнаць незалежнасьць Македоніі, пакуль яе яшчэ не ахапіла вайна. Пажадана было б разьмясьціць там назіральнікаў або нават войскі ААН. Можа хоць у Македоніі ўдасца папярэдзіць наступную бойню.

*Паводле «Gazety Wyborczej» падрыхтаваў*
**Віктар ЛУК'ЯНАЎ**

# ЧЭХА-СЛАВАЦКІ ВАРЫЯНТ У БЭЛЬГІІ?

**Нядаўнія падзеі ў Чэха-Славаччыне выклікалі ў Бэльгіі дыскусію пра мэтазгоднасьць далейшага існаваньня супольнай дзяржавы флямандцаў і валёнаў.**

Навіны з Прагі і Браціславы ўзбадзёрылі флямандзкіх сэпаратыстаў. Пасьля летняга палітычнага зацішша зноў распачаліся спрэчкі пра далейшае існаваньне Бэльгіі, у якой сёньня жывуць 5,5 мільёнаў флямандцаў і 4,5 мільёны валёнаў (нацыянальная група, якая гаворыць па-французску). Апрача таго, ва ўсходняй частцы краіны налічваецца 65 тысяч немцаў.

Многія флямандцы лічаць, што лепей мірна разысьціся, чым увесь час сварыцца па палітычных праблемах. Флямандзкі палітык Леанэль Вандэнбэргэр нядаўна перасьцярог франкамоўных бэльгійцаў: «Мы створым нідэрляндзкую садружнасьць з насельніцтвам 20 мільёнаў чалавек і такім парадкам захаваем сваю самаідэнтычнасьць, сваю мову і сваю культуру ў ваб'яднанай Эўропе».

Радыкальныя элемэнты з абодвух бакоў раз-пораз заклейваюць дарожныя ўказальнікі з надпісамі на дзьвюх мовах і заклікаюць да падзелу краіны. Вядома ж, пераважная большасьць бэльгійцаў ня схільная праяўляць задзірыстасьць. Тым ня менш, як падкрэсьліў нядаўна на старонках франкамоўнай газэты «Libre Belgique» флямандзкі палітык Гастон дэ Ёнс, абедзьве часткі краіны ўсё больш аддаляюцца адна ад адной.

Сапраўды, цяпер мала хто з флямандцаў чытае газэты на французскай мове, а з другога боку практычна ніводзін валёнец не чытае флямандзкіх газэтаў. Ужо штодзённае жыцьцё паказвае, якія складаныя зараз дачыненьні паміж абедзьвюма нацыянальнымі групамі. Калі вы зьвернецеся да флямандца па-француску, то можаце і не атрымаць адказу. Гэтаксама адказам вам будзе маўчаньне, калі вы загаворыце з валёнам не на французскай мове.

Апошнім часам раскол Бэльгіі займае трывалае мейсца на старонках флямандзкае прэсы. «Gazette van Antverpen» падлічыла, што ў паўночнай, флямандзкай частцы Бэльгіі кожная сям'я выплочвае за 4 гады валёнскаму поўдню суму падаткаў, роўную кошту новага аўтамабіля. З таго часу, як у франкамоўнай Валёніі пачаўся крызыс адсталай мэталюргічнай ды вугальнай прамысловасьці і расьце беспрацоўе, флямандцы лічаць, што плаціць за гэта даводзіцца ім. З апытаньняў грамадзкае думкі вынікае, што флямандцы болей задаволеныя сваім жыцьцём, чым валёны, якія жывуць у эканамічна слабейшым рэгіёне краіны. Апрача таго, флямандцы лічаць, што ёсьць рэчы важнейшыя, чым унітарная дзяржава. Валёны ж, якія ў вялікай ступені залежаць ад сацыяльнай падтрымкі, больш прыхільна ставяцца да цэнтралізаванай дзяржавы зь яе ўраўняльнымі тэндэнцыямі.

Флямандзкія палітыкі хочуць цяпер адмовіцца і ад агульнай сыстэмы сацыяльнага забесьпячэньня, уласьцівай унітарнай краіне. Яны не жадаюць болей плаціць за сваіх бяднейшых суайчыньнікаў з Валёніі.

Новая дыскусія аб расколе Бэльгіі спачатку ахапіла больш дробныя флямандзкія групоўкі. Яны мяркуюць, што Брусэль, разьмешчаны трохі на поўнач ад лініі паміж дзьвюма мовамі, у флямандзкім рэгіёне, мусіць стаць сталіцай Фляндрыі, нягледзячы на тое, што большасьць ягоных жыхароў размаўляе па-французску. У дыскусію вымушаны ўцягвацца і традыцыйныя партыі Фляндрыі.

*Паводле паведамленьня Deutsche Welle*

**Згодна з праектам новай канстытуцыі Бэльгіі, мяркуецца, што гэта краіна стане фэдэрацыяй.**

**АФП**

У вас
засталося
некалькі дзён,
каб падпісацца
на газэту
СВАБОДА

Падпіска
сканчаецца
31 кастрычніка

Спяшайцеся

Спяшайцеся

СВАБОДА

*Абмеркаваньне на гэтую тэму пачалося даўно, ці не на пачатку стагодзьдзя. Але час разьвеяў выказаныя аргумэнты і прапановы па ўсім сьвеце, па розных газэтах ды кніжках*

«Перш чым рабіць апэрацыю, чалавеку прывязваюць рукі...»

*(незаплянаваная прэс-канфэрэнцыя)*

ПОЛЬСКІ КАСЬЦЁЛ АДМАЎЛЯЕЦЦА АД «KRESÓW WSCHODNICH»?

ЯК ПРАВІЛЬНА АРГАНІЗАВАЦЬ ГРАМАДЗЯНСКУЮ ВАЙНУ

Надта хочацца ў НАТО

Ці вернецца Магдалена ў Менск?

$50 000 НА МІРСКІ ЗАМАК

СКАНДАЛЬНЫ ВІЗЫТ БАРАНАВІЦКАЙ НАМЕСНЦЫ

Мы выйдзем... Не загаснуць... Толькі ў сэрцы...

Дзяржаўны гімн Беларусі?

Чалавек павесіўся!

У Эўропу: якім шляхам?

СПАДАР КАМПРА...

Загад № 489:

усім працаваць на ГКЧП!

Станіслаў Шушкевіч

Прэм'ер-...

...ка для шпіёна

НОВЫЯ ГРОШЫ

ДВА ...

ТРЫ ...

НЕ ПРАЙШЛО Й ТРОХ ГАДОЎ...

Мэты БНФ спраўдзіліся. Аднак, пакуль толькі фармальна

НІЯКАЙ ПАДТРЫМКІ ХУНЬЦЕ!

Заява народных дэпутатаў БССР ад апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР

Правая рука Кебіча

...ЭРЭНДУМ

СЛУЦКАЯ ВАЙН...

20 кастрычніка ў парадак дня сэсіі Вярхоўнага Савета Беларусі пайменным галасаваньнем было ўключана пытаньне “Аб адмене Пастановы ВС ад 25 жніўня 1991 г.”, якою была “прыпынена” дзейнасьць кампартыі і нацыяналізаваная яе маёмасьць. Вось прозьвішчы тых 187 дэпутатаў, хто прагаласаваў “за”.

**Авечкін А.П.**
**Авін І.І.**
**Алешчанка М.П.**
**Андрэенка У.А.**
**Андрэйчанка У.П.**
**Анісенка Т.М.**
**Арцыменя Д.К.**
**Аўчыннік У.М.**
**Бабарыкіна Г.І.**
**Бамбіза І.М.**
**Барсукоў С.Я.**
**Бойка М.І.**
**Бокач А.І.**
**Борыс В.І.**
**Бубневіч С.Д.**
**Бурачкоў В.Ф.**
**Бярдаўцаў С.В.**
**Вайцешык А.М.**
**Вайцянкоў М.Р.**
**Васілеўскі М.У.**
**Вашкевіч І.Ф.**
**Верабей У.С.**
**Веславухаў М.М.**
**Вялічка В.У.**
**Гаркун У.Г.**
**Герасімаў У.С.**
**Герасіменка А.М.**
**Гетц Б.Г.**
**Гілевіч Н.С.**
**Грынёў М.Ф.**
**Гушаль М.Р.**
**Дамашкевіч М.Ф.**
**Даменікан М.У.**
**Даніленка В.Д.**
**Даўжэнкаў У.С.**
**Дваранівіч В.В.**
**Дзегцяроў С.Р.**
**Дземідзенка В.А.**
**Дземянцей М.І.**
**Дзічкоўскі А.А.**
**Дражын У.Н.**
**Дубоўскі А.І.**
**Жук А.М.**
**Жукоўскі М.Д**
**Жураўлёў М.І.**
**Жэбрак М.В.**
**Завадскі В.Б.**
**Зайцаў М.Ф.**
**Захарэнка У.В.**
**Зеленін В.І.**
**Івашкевіч М.З.**
**Ізвалава Н.Я.**
**Казлоў Г.І.**
**Казючыц М.А.**
**Казяк В.І.**
**Калмычкоў І.Ф.**
**Калодка А.С.**
**Камай А.С.**
**Канавалаў У.Я.**
**Канюшык М.М.**
**Капытоў М.Е.**
**Каратчэня І.М.**
**Карніевіч М.Ф.**
**Катушкін П.М.**
**Качан М.А.**
**Коваль М.М.**
**Козік Л.П.**
**Копач М.А.**
**Крупнік З.У.**
**Крывецкі М.А.**
**Крышталевіч У.Ф.**
**Кудлаш У.У.**
**Кузмянкоў А.Я.**
**Кулажанка А.М.**
**Кулічкоў А.М.**
**Лабко М.М.**
**Лавіцкі Г.М.**
**Лазебнік В.М.**
**Лакцюшын М.І.**
**Літвінаў В.К.**
**Ломаць З.К.**
**Лукашэнка А.Р.**
**Лявонаў В.С.**
**Макарэвіч І.А**
**Макейчанка Б.А.**
**Малахоўскі А.К.**
**Мамчыц А.І.**
**Маркоўскі М.М.**
**Марозаў В.Ф.**
**Марыніч М.А.**
**Мацкевіч М.У.**
**Мацюшэўскі В.П.**
**Машко І.Р.**
**Мінчанка П.З.**
**Мінько Ф.Ф.**
**Мядзелец В.А.**
**Мяць Б.С.**
**Навумчык С.І.**
**Новікаў А.М.**
**Новікаў У.М.**
**Нялюбін І.А.**
**Образаў А.І.**
**Пазюмка А.Р.**
**Папоў П.А.**
**Папоў Ю.М.**
**Паруль А.У.**
**Парфянюк Я.С.**
**Паўлаў В.У.**
**Пахілка Я.П.**
**Пісарэвіч С.К.**
**Піскароў В.А.**
**Піскуноў А.І.**
**Пракаповіч П.П.**
**Прышчэп Р.Ф.**
**Пянькова З.В.**
**Радзецкі Я.І.**
**Радкевіч Л.І.**
**Русак В.Л.**
**Русакевіч У.В.**
**Руцкі Д.Д.**
**Садоўскі П.В.**
**Саенка А.П.**
**Сакалоў А.Д.**
**Салдатаў М.М.**
**Самусевіч Р.М.**
**Сапранецкі М.К.**
**Сарокін В.І.**
**Сасноўскі М.Б.**
**Селівончык Я.С.**
**Серада М.М.**
**Сечка Л.Н.**
**Сівіцкі Г.У.**
**Сінчылін В.І**
**Сіўчыкаў А.А.**
**Скарабагацька П.А.**
**Скарынін М.П.**
**Скрыцкі У.Ф.**
**Слабада А.І.**
**Слесар У.М.**
**Слямнёў М.А.**
**Смоляр І.М.**
**Студзянцоў У.М.**
**Судас М.М.**
**Сумар К.А.**
**Сушкевіч Б.І.**
**Сцепаненка А.М.**
**Толсцік М.А.**
**Торманаў Ф.М.**
**Трафіменка В.С.**
**Траццякоў А.А.**
**Трусаў І.І.**
**Трухан К.П.**
**Уласенка В.С.**
**Унучка Р.І.**
**Уранюк У.Я.**
**Усціновіч А.М.**
**Федарэнка В.М.**
**Халшчэўнікаў Я.І.**
**Хацяшоў Э.Н.**
**Цесавец М.М.**
**Ціткоў С.П.**
**Цітоў І.В.**
**Ціханаў І.А.**
**Ціхіня В.Г.**
**Ціцянкоў І.І.**
**Цялежнікаў У.І.**
**Цярэшка І.І.**
**Чаванькоў Я.І.**
**Чакушоў У.М.**
**Чарныш У.Р.**
**Чура Л.М.**
**Чырун В.І.**
**Чэпік В.В.**
**Чэх Г.Д.**
**Шакаў М.Л.**
**Шарко М.П.**
**Шаўнін А.М.**
**Шаўцоў У.М.**
**Шкапіч П.П.**
**Шкурко В.П.**
**Штокін А.М.**
**Шылько Б.П.**
**Шыпко А.Я.**
**Шэйман В.У.**
**Якубец М.З.**
**Яскевіч Г.С.**
**Ястраб В.А.**

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЬЦЬ АФАРМЛЕНЬНЯ АБАНЭМЭНТА

На абанэмэнце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленьні падпіскі (пераадрасоўкі) бяз касавай машыны на абанэмэнце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпэля аддзяленьня сувязі. У гэтым выпадку абанэмэнт выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармленьня падпіскі на газэту або часопіс, а таксама для пераадрасаваньня выданьня блянк абанэмэнта з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам атрамантам, разборліва, без скарачэньняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталёгах.

Запаўненьне месячных клетак пры пераадрасаваньні выданьня, а таксама клеткі “ПВ-МЕСЦА” робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

Калі вы жадаеце
ў наступным годзе штотыднёва атрымліваць газэту
СВАБОДА, паклапаціцеся пра гэта сёньня.

Кошт падпіскі на паўгода — **39 руб.**

У рознічным гандлі будзе ўтрая даражэй.

# Расейцы таксама плачуць

"Эканоміка можа ляжаць у руінах, піша Herald Tribune, але 45 хвілін уранку і 45 хвілін увечары большасьці людзей на гэта напляваць — яны млеюць ад мэксыканскай мыльнай опэры"

Жанчына, што стаяла побач са мной, схапіла насоўку, калі пад гук міліцэйскіх сырэнаў да тэлецэнтра наблізіўся картэж з шасьці аўтамабіляў. Натоўп за пасьпешліва пастаўленай жалезнай агароджай вохнуў ад захапленьня. З-за плячэй разявак была відаць толькі ружовая пляма, якая ў ватачэньні дужых целаахоўнікаў паволі пасоўвалася да ўваходу.

Раптам паветра працялі крыкі: «Марыяна!» «Buenas noches!» «Muchas gracias, senora!» Сотні рук пацягнуліся да ружовай постаці: адны — каб дакрануцца, другія — з асадкамі і шматкамі паперы.

«Я ўбачыла яе, я ўбачыла яе, — радасна ўсклікнула 35-гадовая Валянціна Леонцьева, работніца фабрыкі. — Гэта самы шчасьлівы момант у маім жыцьці». Яна наўмысна прыляцела з Архангельска, разьмешчанага за Палярным колам, каб хоць краечкам вока зірнуць на зорку з фільма «Багатыя таксама плачуць». Гэты 249-сэрыйны мэксыканскі тэлесэрыял, зьняты 18 гадоў таму, узяў «імпэрыю зла» штурмам.

Пасьля 74 гадоў камунізму шлях Расеі да капіталізму абяцае быць доўгім і суровым. Спажывецкае грамадзтва, зь яго крэдытнымі карткамі, гарадзкімі гандлёвымі раёнамі ды аднаразовымі пялюшкамі, застаецца аддаленай марай. Але зара тэлевізійнай мыльнай опэры, відаць, ужо ўзышла.

Эканоміка можа сабе ляжаць у руінах, але 45 хвілін уранку і 45 хвілін увечары большасьці людзей на гэта напляваць. У гэты час расейцы і малдаване, грузіны і абхазцы, таджыкі і ўзбэкі занятыя больш важнымі праблемамі. Ці наканавана бязгрэшнай Марыяне выйсьці замуж за высакароднага Луіса Альбэрта? Ці ўзьяднаецца яна ўрэшце са сваім страчаным сынам?

Калі ў эфір па канале Астанкіна выходзіць чарговая сэрыя «Багатых», усё жыцьцё ў былым Савецкім Саюзе замірае. Баявыя дзеяньні прыпыняюцца; ахопленыя мэксыканскай мыльнай ліхаманкай байцы пасьпешліва ўключаюць свае тэлевізары. Вадзяны ціск паўзе ўгару, колькасьць крадзяжоў — уніз. Палеткі пусьцеюць.

«Я проста не магу адарвацца ад экрану, — гаворыць спадарыня Леонцьева, якая глядзіць і прэм'еру, і паўтор кожнай сэрыі. — Гэта дае цудоўную тэму для размоў. Напрыклад, калі стаіш у чарзе, усе наўкол цябе абмяркоўваюць спробу шантажу Марыяны. Зусім незнаёмыя людзі падыходзяць і пачынаюць гаворку пра Луіса Альбэрта».

Ад Омску да Томску і ад Мінску да Пінску сем'і даюць сваім немаўлятам гішпанскія імёны накшталт Марысабэль, Леанарда і, вядома ж, Марыяна. Непаслухмяным і бадлівым калгасным жывёлінам даюць мянушку Эстэр. Памятаеце, так звалі Марыяніну суперніцу, якая змусіла Луіса Альбэрта ажаніцца зь ёю, удаючы, што зацяжарыла ад яго.

Тэлесэрыял стаў божым дарам для тэлекампаніі Астанкіна, пераемніцы першага каналу савецкага тэлебачаньня. Некаторыя рэспублікі адключылі былі Астанкіна на знак сваёй незалежнасьці ад Масквы, але неўзабаве палічылі за лепшае вярнуць яго на ранейшае мейсца.

За час паказу «Багатых» тэлекампанія атрымала болей за 40 мяхоў пошты ад заўзятараў з усіх краін былога Савецкага Саюзу, у якой было нямала шлюбных прапаноў для міс Кастра, што выконвала ролю Марыяны.

Папулярнасьць мэксыканскай «мыльні» адлюстроўвае глыбокі зрух у грамадзкіх настроях. У траўні 1989 г. масы людзей неадрыўна сачылі за спробамі Зьезда народных дэпутатаў перасягнуць рамкі галоснасьці. Зараз жа тыя самыя людзі вар'яцеюць ад Марыяны ды Луіса Альбэрта.

Пад час адной сустрэчы з Вэронікай Кастра, якая перадавалася па тэлебачаньні, нейкі глядач патэлефанаваў у студыю і сказаў, што любіць глядзець тэлесэрыял, бо ў ім паказана жыцьцё «бяз чэргаў па харчы».

Посьпех саладжава-прыкрай мэлядрамы прымусіў неспакойна заварушыцца расейскіх інтэлектуалаў, якія ўважаюць, што было б лепей, калі б іх суродзічы аддавалі перавагу Талстому ды Дастаеўскаму.

Непрадказальны сюжэт «Багатых», дзе кожная сэрыя прыносіць неспадзеўкі, спрычыніўся да ўзьнікненьня новага дачнага бізнэсу. Цыганы зарабляюць неблагія грошы, прадаючы пасажырам электрычак прароцтвы наконт будучых сэрыяў. Прад'юсэры тэлекампаніі Астанкіна сьцьвярджаюць, што ім няраз прапаноўвалі кругленькія сумы грошай за раскрыцьцё Марыянінага лёсу.

Колькі тыдняў таму ў штотыднёвіку «Аргумэнты і факты» была надрукавана гэткая аб'ява ад жыхара Адэсы Івана Саклакава: «Мне ўжо 85 гадоў, і я закаханы ў фільм «Багатыя таксама плачуць». Я ня ўпэўнены, што дажыву да апошняе сэрыі. Таму я абяцаю ўсю сваю спадчыну чалавеку, які мне распавядзе, як і калі гэта ўсё скончыцца».

**Майкл Добс**
*(International Herald Tribune)*

*Падрыхтаваў*
**Віктар ЛУК'ЯНАЎ**

# Аўтазлодзеі з Усходу тэрарызуюць Нямеччыну

**Яны звычайна прыходзяць уначы, забіраюцца ў які-небудзь лімузын, якіх безьліч на бэрлінскіх вуліцах, і, злучыўшы напрамую правады, ·уганяюць. Менш чым праз паўгадзіны аўтамабіль з ужо падробленымі нумарамі і дакумэнтамі перасякае нямецка-польскую мяжу і зьнікае ў тумане.**

Пройдуць гадзіны, пакуль прачнецца ўладальнік, заўважыць адсутнасьць свайго аўто і паведаміць у паліцыю. «Машыны трапляюць у Польшчу адразу ж па выкраданьні», — кажуць экспэрты. Ганс-Гюнтэр Хільдэбрандт, шэф спэцгрупы бэрлінскай паліцыі, распавёў журналістам, што з часу падзеньня «жалезнай заслоны» ў 1989 годзе злодзеі зь дзесяці міжнародных груповак зарабілі мільёны даляраў на крадзеных аўтамабілях.

За апошнія тры гады некаторыя паказчыкі ў крымінальнай статыстыцы павялічыліся на 800%. Калі, напрыклад, у 1988г. у Бэрліне адбылося ўсяго 25 крадзяжоў новых «мэрсэдэсаў», дык у 1991 гэтая лічба ўзрасла да 200. Характэрна, што ніводзін з гэтых аўтамабіляў ня быў старэйшы за 2 гады.

Рынак збыту крадзеных аўтамабіляў неабсяжны. У Польшчы, Вугоршчыне, Расеі або на Украіне за «Мэрсэдэс-300» можна атрымаць $15000. У гэтую суму ўключаецца і кошт новых «афіцыйных» дакумэнтаў на машыну, якія гангстэры «арганізуюць» праз сваіх людзей у дзяржаўных органах. Некаторыя асабліва шыкоўныя «мэрсэдэсы» і BMW перавозяцца на продаж у Злучаныя Штаты.

Шанцы злавіць злачынцаў вельмі невялікія. Калі гангстэр, які пераганяе машыну ў Польшчу, у нечым сумняваецца, ён проста націскае на аксэлератар і на вялікай хуткасьці прарываецца праз КПП. Памежнікі могуць лічыць, што ім пашэнціла, калі яны пасьпелі адскочыць убок.

З пачатку гэтага года ўжо некалькі дзесяткаў аўтамабіляў здолелі прарвацца на польскі бок мяжы ў раёне Франкфурта-на-Одэры. Кіроўца аднаго шыкоўнага лімузына зьвярнуў на сябе ўвагу, бо ехаў па горадзе з хуткасьцю 113 кілямэтраў за гадзіну. Але дарожная паліцыя нічога ня здолела зрабіць. Паходжаньне машыны вызначыць было немагчыма, таму што на ёй былі ўжо падробленыя нумарныя знакі, а гнацца за ёй у паліцэйскім міні-фургоне проста ня мела сэнсу.

Бэрлінскія фірмы, якія здаюць машыны ў понайм, былі змушаны прыняць жорсткія меры. Цяпер яны вельмі абачліва ставяцца да кожнага свайго кліента, а чалавеку з польскім пашпартам навогул няма чаго ў іх рабіць.

*Паводле DPA Features*
*падрыхтаваў*
**Віктар ЛУК'ЯНАЎ**

## Між іншым

### Камуністы мелі рацыю

У лістападзе 1990г., пасьля інцыдэнту з адным зь лідараў украінскай апазыцыі Стэпанам Хмарам, каля будынка парляманту ў Кіеве стаялі ў пікеце мясцовыя камуністы, трымаючы над галовамі транспарант: «Бандера и Хмара — два сапога пара!» Гэтым разам камуністы не памыліліся. Не прайшло двух гадоў, як у Львове абвянчаліся Стэпан Бандэра (унук знакамітага Бандэры, студэнт унівэрсытэта з канадзкага горада Таронта) і Саламея Хмара (дачка мяцежнага дэпутата Хмары).

### Латвія разьвіталася

У Даўгаўпілсе дэмантажаваны апошні ў Латвіі помнік-танк. Ён будзе разьмешчаны ў старой Даўгаўпілскай фартэцыі, дзе ствараецца музэй зброі.

### Вытворчасьць танкаў у Расеі

На адным з апошніх паседжаньняў калегіі Міністэрства абароны Расеі было паведамлена, што вытворчасьць танкаў зьменшылася ў 100 разоў, а ваенных самалётаў — у 110. Няўжо?

### Хто захапіў Кітай?

Па неафіцыйных зьвестках, на апошнім паседжаньні міжнароднай канфэрэнцыі па Нагорным Карабаху ў Рыме адбылося нешта дзіўнае: у навушніках, праз якія перадаваўся пераклад на расейскую мову выступленьня кіраўніка азэрбайджанскай дэлегацыі Мехціева, прагучала фраза: «Армянскі экспэдыцыйны корпус захапіў... Кітай». Адразу прагучаў адказ кіраўніка армянскай дэлегацыі Тэр-Стэпаняна: «Я выступаю супраць такой фармулёўкі: Кітай быў вызвалены атрадамі самааховы Нагорнага Карабаху». Ад пакутных думак на тэму, што зробяць з Кітаем канфліктуючыя бакі, удзельнікаў канфэрэнцыі выратавала здагадка, што перакладчыца прыняла слова «Лачын» за французскае «la Chine».

*(паводле паведамленьняў замежнай прэсы)*

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі РБ
"Белсаюздрук"

АБАНЭМЭНТ на газэту 63887

СВАБОДА — Колькасьць камплектаў: 1

на 1993 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозьвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | Месца | літэр — на газэту 63887

СВАБОДА

Кошт: падпіскі 39 руб. 00 кап.; пера-адрасоўкі ___ руб. ___ кап. — Колькасьць камплектаў: 1

на 1993 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозьвішча, ініцыялы)



Калі Вы хочаце чытаць
сапраўды незалежнае выданьне,
калі Вас цікавіць
аб'ектыўная інфармацыя
ды крытычныя камэнтары —
падпісвайцеся на газэту

**СВАБОДА**

З новага 1993 года газэта СВАБОДА будзе выходзіць штотыднёва.

Падпісацца на СВАБОДУ можна ў любым аддзяленьні "Белсаюздруку" ці аддзяленьні паштовае сувязі.

**Наш падпісны індэкс: 63887**

Кошт падпіскі:
на месяц — 6,50,
на тры месяцы — 19,50,
на паўгода — 39 руб

У ЗША і Канадзе падпіску зьбірае сп.Сяргей Карніловіч з Кліўленда. Кошт на гадавую падпіску $30.00 (уключаючы выдаткі на перасылку)

**Mr. S.Karnilovich.**
**Belarusan-American Community Center «Polacak»,**

**11022 Webster Road,**
**STRONGSVILLE, OH. 44130,**
**U.S.A. — ЗША**

Ліцэнзія №10. Афсэтны друк. Друкарня «Беларускі Дом Друку». Замова 1816. Наклад 40 000